Пімен Панчанка

# ВЫСОКІ БЕРАГ

*Вершы*
*Эсэ*

Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1993

# НА ТОЙ МАЕЙ ВАЙНЕ

Хапіла мне і той вайны адной:
Я ў бой хадзіў,
Таму і непадсудны...
Мой родны край
Такі журботна-сумны,
Жыццё цяпер у нас —
Нібы тэатр абсурду.
А вінаваты хто?
Нікчэмны міф
Альбо фальшывы строй?
Забыць... Завыць... Запіць...
Бязладдзя ў нас занадта:
Чым больш жывеш —
Ідыятызму больш...
Часцей я ўспамінаю вас,
Сябры-салдаты,
Салдацкі шлях,
Салдацкі гнеў,
Салдацкі боль.
А сёння — чорны час
Зняваг і бессардэчнасці:
Штодзённая нястача
Нас гне, і гне, і гне...
На сто галоў
Вышэй па чалавечнасці
Былі байцы на той маёй вайне.
І не было нам даражэй нічога,
Чым парадненне з воляю людзей.
Былі і маладосць,
І перамога,
І родная зямля,
І мой шчаслівы дзень.

# ЗЯМЛЯ Ў МЯНЕ АДНА

Абрабаваная зямля майго маленства
Аж да апошняе сірочае слязы...
Дзе жыта каля лесу
І дзе лес той?
Ні жаўранкаў, ні сонца, ні расы.

Плюю на плюралізм!
Бо праўда ў нас адна,
Нібы далоні матчыны шурпатыя.
Зямля ў мяне адна,
Любоў і смерць адна,
Адна ў мяне і франтавая партыя.

Вядома: несуны і хапуны,
Вядома: разгільдзяйства ў нас
І мафія.
Ды не яны гаспадары зямлі,
Не, не яны з разбойнай біяграфіяй.

Што трэба нам?
Каб жыў народ наш лепш,
Каб нашы ўнукі ў школах больш не мерзлі;
Каб елі свой, а не заморскі хлеб,
Каб дзеці ад Чарнобыля не мерлі,
Каб елі нашу бульбу без нітратаў,
Рашэнні не прымаліся пажарныя.
І, можа, дасць нам Бог,
І мы залечым страты;
І, можа, вернуцца да нас
Атручаныя жаўранкі.

## АРЫФМЕТЫКА

Так нас абдурылі, абдурачылі
Лектары, дакладчыкі, дарадчыкі —
Пачалі і мы хваліць свой рай,
Мы глядзелі і зусім не бачылі,
Як сяляне нашы век батрачылі
І глынулі гора цераз край.

Колькі захрыбетнікаў кастрычнікам
Змецена было ў нас?
Мільён!

А цяпер?
Сакрэтна, не падлічана,
Іх разоў у трыццаць павялічылі,
А для нас — бядоты і прыгон.

## З ПОЛЬСКІМІ СЯБРАМІ

1

Надыходзіла восень.
Млечны Шлях пагусцеў.
Лес пакуль што
Шумеў не сурова.
У Каралішчавічах
Мы прымалі гасцей —
Нашых польскіх
Сяброў і сяброўак.

Быў Бранеўскі між іх.
Нешта хмурыўся ён,
Хоць наведаў
Міцкевічаўскія мясціны...
Бралі чарку:
Ад Свіслачы Вісле паклон!
Быў Дом творчасці наш
У той вечар гасцінны.

Ад шасейкі наводшыбе
У лесе глухім
Мы «Марш, марш на Гітлера»
Спявалі.
Было сказана многа
Пра нашы шляхі...
Мы «Нех жые», «Сто лят»
Апантана гарлалі.

Густа тосты звінелі:
«За мудрага Ста...»,
«За Гамулку!» —

Таксама быў тост
Для парадку.
Тут Бранеўскі
Зусім раззлаваны ўстаў:
«А ці доўга мы будзем
Рабіць фіззарадку?»

Тамада наш мясцовы
Ўскіпеў не на жарт:
— Не дазволю!
...Любімага правадыра!
Мы з Бранеўскім і хлопцамі
Выбеглі з хаты,
А ўслед недарэчна
Грымела «ура».

Ён, вялікі паэт,
Сцішыў крыўду і боль,
Не вярнуўся
У п'яныя спевы...
Безліч зорак на небе —
І яркіх, і спелых,
На якія глядзеў
Яшчэ шведскі кароль.

Нехта з хлопцаў
Прапітым баском прагудзеў,
Каб забылі хутчэй
Аб той прыкрасці горкай:
— І Міцкевіч глядзеў,
І Бранеўскі глядзеў
На беларускія зоркі.

А ў пісьменніцкай хаце
Паэты спявалі,
Урачыстыя і лагодныя.

Знік Бранеўскі...
А мы ўсё ўставалі, ўставалі —
І засталіся галоднымі.

2

Мы ім пра Хатынь,
А яны пра Катынь...
Факты ў нас і ў вас,
А праўда — ў Бога.
Набалелае сэрца,
Супакойся, астынь:
Вінаваціць не трэба
Адзін другога.

Не мы расстрэльвалі
Польскіх афіцэраў палонных,
Не вы спапялілі
Ў той час
Хатынскіх сялян.
Пад пасёлкам Леніна
Мы ў суседніх
Ішлі батальёнах,
Прага волі, свабоды
Навек парадніла ўсіх нас...

А тыя парадніліся
У крыві і гразі
Недаравальным
Пякельным грэхам:
Крывавы арыец
І крывавы грузін...
А да нас далятае
Расстрэлаў тых рэха.

## НАМЕНКЛАТУРШЧЫК

Быў хлопец як хлопец — адукаваны,
Сяброўскі, руплівы, не подлы,
Ды толькі было яму наканавана
Прабіцца ў наменклатурнае кодла.

І нос адразу задзёрся да чуба;
Строгасць, халоднасць на твары.
Падначаленых
Абрывае груба,
І гучна, каб чулі:
«Званіў мне таварыш...»

Зрабіўся ганарыстым і ганаровым.
Вечна звоніць-загадвае, раіць.
Памочнік піша яму прамовы,
Другі — цытаты штодня падбірае.

Адкуль узялася хітрая творчасць:
Кранаць начальніцкую струну?
Наменклатурнасць —
Двурушнасць, прытворства,
Штодзённае «пападанне ў струю».

І тут не патрэбна ніякай маралі...
Будуць старога
Персанальна лячыць.
Ён будзе хваліцца:
«І мы аралі»
І будзе свае ўзнагароды лічыць.

# ГОРКІЯ ДУМКІ

Была зямля, цяпер — малыя соткі...
Адданасць знікла да карміцелькі-зямлі,
Няма ўжо бульбы той — разварыстай і сопкай,
І не гудуць скрозь пчолы і чмялі.

З наседжаных мясцін сагналі нас Хрушчовы,
І мы — неперспектыўныя — пайшлі да гарадоў.
Сяліліся ў смярдзючыя трушчобы,
А на кватэры спіс — на сто гадоў.

Глядзім і лічым, што яшчэ не ўкралі?
Пра што зноў хлусяць?
Веры больш няма...
Даўно мы з лёну палатно не ткалі...
У сэрцы непагодная зіма.

А мы яшчэ жывыя,
Мы — не зломкі.
І дзе ты, мудрая эканамістаў раць?
І хто прымусіў нас ля ніў сваёй старонкі
І праклінаць, і моўчкі паміраць?

Чырвоныя паны,
Старшыняў клас вясёлы,
Закрылі фермерам і дбалым людзям шлях.
Няма кармоў, і рэжуць добрых цёлак,
Хаваюць жыта па глухіх кутках.

Дакуль цярпець крадзеж і рабаванне,
Развал і дыктатуру нечуваных цэн?
Ці прыйдзе зноўку залатое ранне?
Ці выжывуць падаткі з родных сцен?

Пра гэта ўсё мы думаем так горка
І спадзяёмся: хто, калі, калі
Запаліць нам жыцця і праўды зорку
І працы радасць пойдзе па зямлі?

## У СТЫЛІ
## РОК

Ахматава сказала пра В-га: «Я кажу з усёй адказнасцю: ніводнага слова сваіх вершаў ён не прапусціў праз сэрца».

*(«Новый мир», 1989, № 1)*

Кінь цыгарэту!
Кінь цыгарэту!
Кінь!
Кінуў чарку і цыгарэту...
З той пары ніводзін радок
Яго сэрцам не сагрэты.

Стаў ён грозным,
І кур'ёзным,
І камічным,
І трагічным,
Гэты сумны чалавек.

Парк высякаюць,
Парк высякаюць...
Трэба гучна біць у звон,
Ды з ухмылкай шэпча ён:
«Той, хто высек,
Хай пасадзіць;
Ці вунь той,
Хто на пасадзе».
Мысліць гневам непаўторным,
Як адэскі мудры грэк.
І двудушны,
І прытворны,
Гэты злосны і зайздросны,
Раўнадушны чалавек.

Асцярожна!
Дзверы зачыняюцца.
Асцярожна!
Мова закрываецца.
Абсякаюць мове крылле:
Затапталі і закрылі.
«Яны закрылі,
Хай самі і адкрыюць»,—
Прабурчаў з экрана злосна
Самы коўзкі і зайздросны,
Самалюбны чалавек.

Начное таксі,
Начное таксі,
Куды ты імчышся,
У які багаты век? —
Праспяваў так заклапочана
Хітры, злосны і зайздросны,
Выпадковы і пабочны,
Спрытны сціплы чалавек.

Ён паехаў,
Ён паехаў
Да Парыжа,
Да Нью-Йорка
І ў Квебек...
А нам горка,
А нам горка:
Для яго ўвесь свет пацеха,
Бо ён злосны і зайздросны,
Гэты хітры чалавек.

Сіні туман,
Нібыта падман...
«Я кручуся, галашу
І нягучна ўсіх прашу:

Я разумны,
Я харошы,
Дайце славы,
Дайце грошай.
Годзе жэрці ўсё Іванам!
Я і сам
Мастак падману —
Найсінейшага туману».
Так закончыў сваю дзейнасць
Асцярожна-безыдэйны,
Як і ўвесь дваццаты век,
Маладушны, ветравейны,
Выпадковы чалавек.

## ЧОРНЫЯ ДЗІРКІ

Я, аптыміст і жыццялюб,
Як перад смерцю каюся.
І з гумарыстамі
Не сустракаюся.

Ёсць вельмі дзіўныя зоркі
У бяздонным сусвеце:
Ярка і доўга
Свецяць і свецяць,
А потым — колапс,
Знікнуць,
І не прыкмеціць.

Сціснецца жудасна
Тая матэрыя,
Горш чым
У пікавы час
У тралейбусе,
Толькі без лаянкі,
Без істэрыі.
Гэта загадкі касмічныя,
Зорныя рэбусы.

Няма там ні боскага,
Ні чалавечага:
Толькі што трапіць
У прыцягненне —
Усё паглынаецца
У вокаімгненне.

А на зямлі нашай
Што гэта робіцца?

Людзі за працай
Пацеюць і горбяцца,
А паглядзіш
На вынік яе —
Самае лепшае
Дурнямі гробіцца,
І раскрадаецца,
І гніе.

Вечна хлусілі:
«Мы самі з вусамі» —
І працаваць
Развучыліся самі.

І паглынае
Увесь дэфіцыт
Злодзей,
І спекулянт,
І бандыт.
Не рэкеціры,
Не рэкеціркі —
Чорныя дзіркі...

А за апошнія
Трыццаць гадоў
Шмат на жыцці нашым
Чорных слядоў:
Шмат беларускіх
Настаўнікаў, школ
Загнаў у магілу
Чыноўніцкі кол.

Глынулі ў нас мову,
Абрады, культуру.
А літаратуру —
У макулатуру.

У тых чорных дзірках
Па-варварску рады
Мовы забойцы
І бюракраты.

Злосна якочуць
На чорным ігрышчы:
Цяпер яны хочуць
І нас усіх знішчыць.
Прагне глынуць
І дзяцей у вантробы
Чорная дзірка —
Чорны Чарнобыль.

* * *

На сходах часта ў звон мы гучна б'ём
І, ачмурэўшы ў пустаслоўі тлумным,
«Давайце вып'ем — розум не прап'ём,
Бо ў нас яго няма»,— жартуем сумна.

Прывыклі ўсе мы да прамоў грымотных,
Да спіскаў памінальных, тэмаў модных.
Зрабіліся ўжо звычкай неўпрыкметкі
Усё ўзгадняць і прад'яўляць даведкі.

Каб разжаваць пытанняў важных соль,
Да старшыні у кабінет нас клічуць.
«Трэ узгадніць!» — і пальцам тыц у столь.
А там, наверсе, столь падлогай лічуць.

А потым рубам ставіцца задача:
«На гідрабуд хутчэй, на цаліну!»
Каб выламаць пасля, як рабрыну,
Радок мой для чарговай справаздачы.

Цікава там! Ды што ты ні кажы,
Сягоння я за іншае ў трывозе...
Грабуць зямлю зубастыя каўшы
Аднолькава на Свіслачы і Волзе.

Аднолькава убогі пах катлет
У душных падарожніцкіх харчэўнях...
Я сам штодзень кіплю ў жыцця катле,
Навошта мне набег? Я не качэўнік.

Я не хачу за модаю ляцець,
І так іх шмат, лаўцоў кар'ер і моды.

Не балбатаць — за працаю святлець,
Не узгадняць, а жыць жыццём народа.

І хто мяне за тое папракне,
Што слова я пакутліва шукаю,
Каб расказаць аб роднай старане
І пра цябе, любоў мая цяжкая.

*1956*

## ЭПІТАФІЯ

Ды не грукайце дзвярыма,
Не галёкайце, прашу,
Дайце кавы растварымай:
Эпітафію пішу.

Тут ляжыць паэт, не дыша,
Прагнасцю сябе згубіў.
А ў гісторыі напішуць:
Ён героем слаўным быў.

Штампаваў ён вершаў плíткі,
Рыфмаваў «звяроў і кроў»,
Сам палохаўся зенíткі,
Кулдыкаўся ў першы роў.

Я з палком хадзіў у наступ,
Ён прышпільваў арданы:
Нешта ўмеў лізаць начальству
У Маскве ў часы вайны.

Нахапаў дабра і грошай,
Медалі ўсе адхапіў.
Ён разумны, ён харошы:
Падхалімна з некім піў.

Біў цішком і пасміхаўся,
У Маскве нас абылгаў.
Сам бясконца выдаваўся
У палякаў і балгар...

Спі ў зямлі ў парадным фраку
Між сяброў сваіх — асін,

Вершамі заткнуўшы сраку,
Што нашкроб ты, сукін сын...

Дайце кавы кубак лішні,
Бо туман у галаве.
Эпітафія не выйшла:
Сукін сын яшчэ жыве.

# НЕ АДЦУРАЮСЯ, НЕ АДРАКУСЯ

Дружа Быкаў,
Не трэба ніякіх сенсацый:
Я — сірата
Без маёй Беларусі.
Ад роднай мовы,
Ад роднай нацыі
Не адцураюся,
Не адракуся!

Я не журуся
Пра казачны век залаты,
Я не захоплены
І старажытнасцю моднаю...
І напісаў не аб тым я,
А толькі аб тым:
З ласкі чыноўнікаў
Родная мова ў намордніку,

А былі ж партызаны,
Пераможна грымелі баі,
Гарэла зямля
Пад нагой акупантаў.
Падмянілі народ:
Былі ў нас працавітыя ўсе,
А цяпер — гультаі, халуі...
І на горкую памяць
Падкінулі нам Курапаты.

Куды падацца
Вучням з беларускай?
Ляны бюракрат
Затыкае ім рот.

Да таго ж у ВНУ
Праход быў занадта вузкі:
Па званку,
Па блату
Ці за хабар
Лез прабіўны народ.

Дзеці ўжо не ведаюць
Родныя назвы
Кветак і птушак,
Кустоў і травы.
Яны не адрозняць
Граба ад вяза,
Дзе жаўна, дзе пліска,
А дзе журавы?

Адлучылі ад прыроды...
Не шукаюць унукі слядоў
Ні сваіх франтавых дзядоў,
Ні далёкіх і страшных гадоў.
І рыканне кароў,
І рык звяроў,
І сусветная рок-істэрыка —
Толькі па тэлеку,
Толькі па тэлеку.

...Да роднай зямлі я
Душою і сэрцам прыкуты,
Куваюць зязюлі,
Клякочуць буслы на маёй Беларусі.
Ты радасць мая, Беларусь,
Ты гора маё і пакута,
І ад цябе я ніколі
Не адцураюся,
Не адракуся!

* * *

Я цяжка захварэў: і грып, і запаленне...
Заместа сну — пякельнае трызненне:
Шторм у Атлантыцы, спякотная Сахара,
Агні Нью-Йорка, сцюжа Эверэста...
За што, за што найшла такая кара?
І ўсе вандроўкі зноў узніклі рэзка.

Усё ў жыцці люблю я і шкадую...
Сказаў унучцы Ксені недарэчна:
«Вось акрыяю і ў царкву пайду я,
Вялікую пастаўлю Богу свечку».

«Куды табе, дзядуля? Сэрца... Ногі...» —
Дзіця пашкадавала...
З радасцю я сведчу:
Яна прызналася:
«Твайму старому Богу
Паставіла ў царкве я ўчора свечку».

Мы ўсе з бязбожнага старога пакалення.
І вера ў нас была:
«За бацькаўшчыну ў бой!»
А сёння я ў нязвыклым захапленні
Ад міласэрнасці і чуласці малой.

# ТРОЕ

Паміж эпох
Невыразных і шэрых
Сярод пакутнікаў і герояў
У Беларусі было найвялікшых
трое:
Каліноўскі,
Купала,
Машэраў.

Цяжка складаць пра найлепшых радкі:
Болем працяты ўсе мае строфы.
Нават шэпту іх не чутно:
«Браткі» —
Каму пятлю накінулі,
Каго скінулі ў прорву,
Каго забілі ў аўтакатастрофе...

На плошчы каля Лукішак
На свой народ
Глядзеў перад смерцю Кастусь.
І плошча яго апошнім выдыхам дыша:
«Чуеш, Беларусь!»

А дзядзька Янка
Заўсёды ў турботе
Аб родным народзе,
Каб навучыліся землякі
Людзьмі звацца.
Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны
Пачалі, як волаты,
За волю змагацца.

Была вайна.
Да яго нахлебнікі лезлі.
А ён штодня пра Беларусь думаў:
«Новыя вершы напісаць пара»...
З дзевятага паверха
У пралёт паміж лесвіц
Скінулі нашага песняра.

А калі Пётр Міронавіч загінуў,
Доўга партызанскія ўдовы плакалі,
Бо яму аднаму толькі верылі;
Прыносілі на магілу кветкі
І ў спёку, і ў стынь...
Вуліца Каліноўскага,
Вуліца Купалы,
Праспект Машэрава
І яго журботная песня —
Хатынь.

# БЕЛАРУСКІЯ НАСТАЎНІЦЫ

Што з вамі сталася,
Што з вамі станецца?
Можа, цяпер вы пакрыўджана плачаце,
Беларускае мовы настаўніцы,
Беларускай літаратуры выкладчыцы?

Вашай лагоднаю ласкай атулены,
Пра Беларусь мы чытаць былі рады.
Мы вам верылі больш, чым матулям,
Хоць і матулі казалі нам праўду.

Сонца маленства да старасці свеціць.
Зноў мы то ў школе,
То ў інтэрнаце.
Помняць настаўніцу пінскія дзеці —
Іх партызанку Грышчанку Надзю.

Будзьце ад сэрца у вершы праслаўлены:
Так вы працуеце самааддана,
Войцік Валянціна Вацлаваўна,
Юбко Валянціна Адамаўна.

Як вы спявалі «Ой рэчанька, рэчанька»,
Ваш голас у сэрцах — сардэчны, не гучны...
Гэта пазней нашу мову скалечылі,
І пакаленні ад мовы адлучаны.

Вы — мае мілыя,
Вы — мае родныя,
Колькі было ў вас і крыўды, і слёз...
Вас пахваліў бы за мову народную
Мудры настаўнік — Алесь Белакоз.

Таварышы начальнікі,
Павышайце настаўніцам стаўкі,
Будуйце ім катэджы
І не чытайце натацый:
Калі мы страцім беларускіх настаўніц —
Знікне і ўся беларуская нацыя.

# ЗАЛАТОЕ КАЛЬЦО МАСКВЫ

Трохі панюхалі тэхнікі,
Пацёрліся ў аграноміі.
Сялянства абакралі ці знішчылі —
Вёскі сягоння нямыя.

Родную мову забылі
І затапталі спадчыну.
Усюды фонды, рахункі —
Быццам жывём у складчыну.

Бурчаць дакладчыкі нудна
Пра плюралізм,
стагнацыю
і кансэнсус...
Пакорная наша нацыя
У першародным сэнсе.

Ніхто ў нас рабіць не жадае,
Толькі б трапіць у крэсла
З двайною зарплатай.
Астатніх
Няхай бы халера растрэсла.

Для мільёнаў Чарнобыль — згуба,
Ядзерная зіма.
А тут пятнаццаць рублёў у зубы —
І лейкеміі няма...

Што там нашы Дразды —
Глухая правінцыя!
А пад Масквой раскашуюць
Сапраўдныя нашы правіцелі.

Вёрстаў за дваццаць ці сорак —
Куткі залатыя за горадам:
Катэджы, палацы з басейнамі
Высяцца пекна і горда.

Гэта не дробныя соткі
Вашых садовых участкаў.
Тут жывуць генералы
І ўсё былое начальства.

Гэта для іх
У Сібіры
Золата рыюць у горах.
Над гэтым багаццем лунае
Страх, і расплата, і гора.

Тысячы тут разбуральнікаў
І вымагальнікаў.
А дэфіцыт і валюта —
Усё для маскоўскіх начальнікаў.

Тут пражываюць Раманавы,
Грышыны і Медуновы,
Золата і ўзнагароды —
У тайніках адмысловых.

Тут і былыя міністры,
Зброд мафіёзна-панскі,
І чорныя планіроўшчыкі
Ганебнай вайны афганскай.

А хто вінаваты?
Не знойдзеш:
Заблытаны хітрыя сцежкі.
«Гдлян, Іваноў і Калугін»,—
Кажуць з пагрознай усмешкай.

Няхай жыве «перестройка»!
На кожным вуглу перастрэлка:
З боем бяруць макарон,
З боем купляюць гарэлку.

Божа, дапамажы нам
Збегчы з вар'яцкага дому!
Жыць гэтак нельга!
Чакаем
Гнеўных маланак і грому.

* * *

Паводкі, землятрусы, азвярэлыя вулканы,
І сонца прагне ўраджай спаліць.
А мы цяпер галоднымі ваўкамі
Сядзім каля пустых паліц.

Праклён вам, наменклатурныя монстры! —
Самы паразітычны клас.
Загубілі працу аратых і рамёствы,
І зямля адцуралася ад нас.

Канец дваццатага крывавага веку.
Яшчэ не выплакалі слёз удовы вайны.
За тое, што давялі да жабрацтва чалавека,
Не адчувае ніхто віны.

І след камунізму — рэспубліканскія бітвы...
І толькі прапойца, замызганы бомж,
Шэпча ля царквы забытыя малітвы,
Прабівае дарогу да Бога ілбом.

## ДРУГ МОЙ,
## КСЕНІЯ

Віншую!
Бо шаснаццаць год — не смех!
Пажадаць табе хачу я
Працы, радасці, уцех!

А яшчэ такога шчасця,
Што ніхто не зведаў з нас.
Хай заслоніць ад напасці
Бог цябе у горкі час.

Год семнаццаты пачаўся —
Аж трашчыць на рэчцы лёд...
Дык падымем жа па чарцы:
Надыходзіць Новы год!

* * *

Не раз мы пад крывавымі сцягамі
Даверліва на вернасць прысягалі,
Не хітрасць — прысягнуць,
А мудрасць — дасягнуць.

Расійская імперыя,
Савецкі наш саюз,
Калі ж ты скончыш песню
Жабрацкую сваю?

Мы хвалямі затоплены
Хлусні, маны, ілжы.
Калі па-чалавечаму
Пачнём усе мы жыць?

Злаба і раздражненне,
Разбойніцкі разгул...
І спее ў нашых сэрцах
Расплаты гнеўны гул.

## РАЎНАВАГА

Я не веру нікому,
　　　і вы мне, прашу вас, не верце:
Усё перабблытаў
　　　атрутны чарнобыльскі вецер.
Не ведаю, з кім мне вітацца,
　　　каму мне руку падаваць?
І з кім весяліцца за чаркай,
　　　і з кім у бядзе бедаваць?
Звярэе душа ў нас
　　　ад дзікай бяздоннай самоты,
Гавораць, палова ў нас членаў саюза —
　　　даносчыкі і сексоты...
Зямля скаланулася ў нас,
　　　і сэрца трывожна заныла.
Бабулі заплакалі —
　　　канчаюцца дні ў нас зямныя.
Загінулі хлопцы —
　　　рэактара выратавальнікі.
Ды ўсміхаюцца весела
　　　баявыя нашы начальнікі.
— І нічога ў нас страшнага,—
　　　гэтак гадамі манілі.
Ляжаць ужо сотні і тысячы
　　　ў атамнай чорнай магіле.
А нашы маўклівыя людзі,
　　　што зналі загад: нарыхтуйце! —
Сягоння зайшліся ад крыку:
　　　ратуйце, ратуйце, ратуйце!
І пачулі нас землі
　　　такія далёкія, дальнія:
І Германія, і Амерыка,
　　　і са Швецыі людзі, і з Даніі.

Прысылалі людзі да нас пасылкі
з лекамі, аднаразавымі шпрыцамі,
З дзіцячаю ежай;
з'явіліся медыкі-рыцары.
Утварыліся фонды шматлікія
пад назвай «Дзецям Чарнобыля».
І кароў з малаком ядавітым
усюды ў нас гробілі,
І тут дайшло да правіцеляў,
іэта не жарты, а горачка!
Раўнадушным слюньковым, камаям, сакаловым
не холадна і не горача.
Склалі планаў дзве сотні
пра дапамогу, перасяленне.
Нашы Гомель і Магілёў
у ачмурэнні былі, ў зняменні.
Акадэмік Ільін
дзяцей паляшуцкіх забойца.
«Дзе жылі, там жывіце;
радыяцыі, друг мой, не бойся.
У чатыры разы
можнэ ў вас павялічваць дозы».
Ён — агент МАГАТЭ,
не бачыць народу пагрозы.
Тут начальства махнула рукой —
і разбегліся медыкі ўмомант...
О, мая Беларусь шматпакутная,
гэта ўсё нам знаёма, знаёма!
І ўсё, што нам добрыя людзі
ад сябе адарвалі, сабралі.
Члены фондаў і камітэтаў
усё расцягнулі, раскралі.
А японскі прафесар
Гюкесато
Агледзеў дзяцей нашых
у скрусе.

«Бяда ў вас вялікая,
беларусы.
А МАГАТЭ наша хлусіць».
Пагладзіў льняныя галоўкі,
нібы развітаўся з усімі.
«Мне шкада беларускіх дзяцей —
гэта горш Хірасімы».
Вось так паядналіся
гісторыя з геаграфіяй.
Па ўсёй зямлі разбойнічае
атамная мафія.
А тут з Генштаба арлы
наш плач заглушылі клёкатам:
«Вы — народ гераічны,
тут вораг лажыўся покатам».
...Вось, кажуць, палова краіны
атрутным засыпана попелам,
А вашы лясы партызанскія
спрадвеку смалістыя, цёплыя.
І тут генштабісты
знайшлі раўнавагу адразу.
Стаяць у лясах Беларусі —
дваццаць тры ракетныя базы.
Да іх назапашана
безліч ракет.
Усюды ўсялякія базачкі.
Мацней мы за НАТО
па ўсіх і ўсялякіх паказчыках...
І дзе вы, крыніцы крыштальныя?
І дзе вы, суніцы, чарніцы?
Нас зноў абдурылі
ваенныя чараўніцы.
І я веру бабкам старэнькім,
што Богу пра лёс свой усё жаляцца,
Што свету канец
набліжаецца.

Уся Беларусь ад Чарнобыля
да сцежак і мінскіх, і брэсцкіх
Закладзена д'яблу і мафіі.
Ніхто ў тым не разбярэцца.
Скажыце мне, добрыя людзі,
а праўда, што свету канец?
Я плачу над лёсам сваёй Беларусі,
сівы і бязногі баец.

## НАШ ЧАС

«Не дай Бог свінні рог,
А мужыку — панства!»
Я хацеў бы нарадзіцца
У часы паганства...

Тут парог,
Тут і бог —
І свяці, Ярыла!
А той рог,
Свіны рог
Сістэма стварыла.

Што сістэма?
То не тэма
Для паэзіі ў наш час.
Дарагая партсістэма
Акалпачыла ўсіх нас.

Вось ідзе той апаратчык,
Пралетарска-класавы,
Ён слуга, і ён падрадчык
Мафіі фінансавай.

Ён саветы гнеўна лае,
За багаццем гоніцца.
Самадзержцу Мікалаю
Ён яшчэ пакłоніцца.

То лявее, то правее,
Толькі ўверх ірвецца.
Куды вецер вее,
Туды голле гнецца.

Грахі нашы падлічаны,
А цярпець абрыдла.
Народ акаталічаны
Крычыць на беларусаў:
Быдла!

Што за лад?
Чыя ўлада?
Дзе чаканы
Светлы дзень?
Гультаям дае зарплату
Мафіі галоўны пень.

Хто сягоння гоніць пену,
Страшыць плёткамі бабуль?
Ставіць д'ябальскія цэны,
А тавараў добрых — нуль.

«Усё грамадства рак спаліў» —
Так напішуць класікі.
Распаўзліся па зямлі
Дзеці — метастазікі.

Іх бацькі заткнулі дзіры
Ў міністэрствах, ВНУ.
Цягне іх у рэкеціры,
І не трэба тых навук.

Іх хвалююць не алені,
Не бары і не гаі.
То не наша пакаленне —
Сённяшнія бугаі.

На Радзіму ім пляваць,
Пальцы душаць кволага.
Грошы, грошы —

Маць, прамаць!
Ветэраны — ворагі.

Біце ў звоны
Са званіцы,
Што настаў
Збаўлення час.
Усё зменіць!
І ўсім зменіцца! —
І бяда пакіне нас.

* * *

Сем дзесяткаў год расцілі
Ля дзяржаўнае дзяжы,
Гадавалі гэту сілу
На хлусні і крадзяжы.

Ёй імя — наменклатура,
Чуў ты іх камандны рык?
З боку сэнсу і культуры
Намі правіць хам прывык.

Дзе цяпер прамоўцы тыя,
Што любілі нас пужаць?
Іх сакрэты залатыя
У Швейцарыі ляжаць.

Хоць і бедна, але проста
Сустракацца нам і жыць...
Але ведайце, што помста
Ліхвярам услед бяжыць.

# ЧАЙКОЎСКІ. ПЕРШЫ КАНЦЭРТ ДЛЯ СКРЫПКІ З АРКЕСТРАМ

У час разлукі,
Горкі час вячэрні,
Загадкава гулі віяланчэлі;
Настройвалі трывожныя басы
На цёмныя яловыя лясы.

А потым пачалі другую частку —
Дыхнула Беларусь
Пад гул лясны...
Сястра мая, дзяўчынка,
Ты ў няшчасці?
Што напрарочылі табе
Цяжкія сны?

«Як памерла матулька,
Ажаніўся татулька
І паслаў сірацінку
У сыр-бор па малінку.
Ужо сонца заходзіць,
Сірата не прыходзіць...»

За горла сціснуў
Трапяткую скрыпку
Засмучаны,
Расчулены скрыпач —
Пачуліся
Дзіцячыя усхліпы...
Вячэрні лес стагнаў,
І плыў сірочы плач.

Скажыце мне:
З якога цуду створана

Чайкоўскага
Журботная мелодыя?
З малітваў матчыных;
Ад матак, працай змораных,
І з той душы,
Якой яны валодалі,

Калі і як ты
Даплыла да кампазітара?
І дзе крануў ты мастака,
Мой ціхі край?
Суседка мілая,
Святыя слёзы вытры
І ў сэрца добрае
Мелодыю схавай.

# ДЗЯКУЙ, ЗАМБІЯ

Замбія нам дапаможа: «Пяць тон бульбы, 200 кг ананасаў, свежая гародніна і садавіна напраўлены ў панядзелак рэйсам «Аэрафлота» ў Маскву. Гэты груз — дар замбійскага народа савецкім дзіцячым і медыцынскім установам».

*«Комсомольская правда», 30 студзеня 1991 г.*

Думаю са страхам:
Як гэта далёка,
Дзе растуць арахіс,
Маіс, маніёк!..

А бульба з-за экватара
Ніколі нас не кратала.
Студэнтаў бы у Замбію
З рукамі іх азяблымі...

Жырафы і жырафікі
Нас клічуць ў сэрца Афрыкі,
Не збіцеся з дарогі:
Сланы і насарогі!

Краўцоў і тых прывабілі:
«А што цяпер там модна?
Які там стыль прынадны —
Ільвіны, бегемотны?»

Зебры ўсе на сочнай
Саванавай траве...
Як стадыёнаў сотні,
Там вадаспад раве.

Вікторыя, Вікторыя,
Табе ў вяках грымець:
Ты дзень і ноч вартуеш скарб —
Праслаўленую медзь.

У іх там пояс медзяны,
У нас тут пояс бульбяны.
Найлепшая савецкая —
Стаўбцоўская і клецкая.
А дранікі не горшыя,
З бягомльскай, лагойскай.

А сёлета на ўвесь хаўрус —
Наш бульбяны канфуз:
Не дадалі,
Не выканалі,
Згнаілі на складах,
Гніллё на сметнік выкінулі,
А нарыхтоўкам — крах...

Пытацца неяк сорамна:
У Радэзіі ты створана?
Скажы мне шчыра, Замбія,
Як мы, ты партызаніла?

Выдатна ўсе здалі
Залікі і экзамены.
Студэнцкі кліч гучыць
Па ўсёй зямлі:
— Усе на бульбу!
Ў Замбію!

## НА СКВЕРЫ

Між гмахаў гарадскіх,
Цяжкіх, шматпавярховых,—
Зялёны востраў:
Сквер ці нават скверык —
Спакой старых,
Гульню дзяцей ахоўвае...
І чутны галасы
Алёнак, Ксюшак, Верак.

Я часта грэўся сам
Тут на выгодзе...
Аднойчы я пачуў
Дзіцячы ціхі крык:
— Ідзе па кветках дзядзька!
Па кветках дзядзька ходзіць!
А той наўскос па скверыку
І... знік.

Такім адчаем
І глыбокім болем
Прасякнуты
Дзіцячы галасок,
Што я пакаяцца
Гатоў цяпер:
«Ніколі
На кветкі не ступлю.
Пайду лепш на пясок».

Спяшаліся дабрацца
Да рамонту
Заляпаныя вапнай
Кірзачы.

Не думаў той рабочы
Пра рамонкі...
Ды строгі чалавек
Малых вучыў,

Што трэба берагчы
Красу палянак росных,
Ружовы бэзу куст,
Бо кожны кветкі з іх скубе.
І сорамна мне стала
За дарослых —
Згубіцеляў красы...
І трохі за сябе.

## ТРЫ ЗМЕНЫ

Над Свіслаччу стаяць утульна лаўкі:
Тут першы адпачынак для кабет,
Што штурмавалі раніцой прылаўкі,
Каб вымудрыць няхітры свой абед.

І качаны, і бульба — ўсё патрэбна,
Жаночы груз — груваcткі і цяжкі.
Тут побач з сеткай—
важкасць торбы зрэбнай,
Дурныя цэлафанныя мяшкі.

Да змогі давялося настаяцца
Ў чарзе, і не адной:
Там цукар і алей.
Аддыхацца — зноў дамоў за працу,
Так і на дзяцей глядзіш смялей.

А потым дзеці сядуць за урокі,
А там — і тэлевізарныя сны,
Замоўкнуць рагатаць, спяваць, галёкаць...
І тут прыходзяць ветэраны-таптуны.

Стаяць іх лаўкі над ракою,
Ад клёнаў
Цень хоць прыкрые трохі сівізну.
Успомняць партызанскую вясну
І свет, такі прыгожы і зялёны.

Яны не раз хадзілі у разведку,
І ў кожнага свой незабыўны бой.
Стратэгія старых цікавіць рэдка,
І толькі ў тактыцы — разброд і разнабой.

Амерыцы, Іраку нельга верыць!
Начальнікаў па звычцы крытыкнуць...
Ідуць дамоў кефірам павячэраць,
А ноччу ім ад думак не заснуць.

І час настаў апошняй, трэцяй змены:
Прыходзіць з першай зоркай маладосць.
Абодва сёння ў радасці бязмернай:
Сустрэліся — і шчасце зноўку ёсць.

Назваў дзяўчыну хлопец Веранікай...
Яна злуецца: «Верай мяне зваць...»
Адкуль такое імя тут узнікла?
Ад Багдановіча, ад «Песняроў», відаць.

Падслухваць закаханых — непрыстойна,
Сакрэты іх — як нашы ў іх гады...
Пара забыць вясёлых, спрытных, стройных,
Не сніць ніколі любак маладых.

# НАД МАГІЛАЙ МАЦІ

Пад высокімі ціхімі дрэвамі
На ўшацкіх могілках у вячэрні час,
Дарагая Куліна Андрэеўна,
Паміналі мы Вас,
Гаварылі пра Вас.

Ён працяў нас наскрозь,
Той Рыгораў настрой.
Пра такіх
(Не паэтаў — сыноў)
Маці кожная марыць.

Праспяваў ён пра сэрца
І песні матулі сваёй,
Партызанскі сынок —
Барадулінскі малец.

Мы гарэлку пілі,
Паміналі душу,
Пралілі на магілу
Кроплю горкую тую.

Я той помнік Куліны
У сэрцы нашу.
І сваю дарагую
Ўспамінаю матулю.

А пазней быў і Полацк.
Мы ў Полацк
Завярнулі ў цішы.
Тут зямля Ефрасінні,
Дзе стагоддзі гнялі нас цяжкія...

А на ўзгорку высокім,
Як помнік жаночай душы,
Белы храм красаваўся
Светланоснай Сафіі.

# НА АПОШНЯЙ ВЯРСЦЕ

Што расце на апошняй вярсце?
Сіні мох, і палын, і быльнёг скрозь счарнелы,
І пасечаны голлем
Дуб забыты расце...
Безнадзейныя людзі
Тут крочаць нясмела...

Тут ляжаць заіржаўленыя караблі,
Старажытныя чоўны,
У якіх мы з бяды адплывалі.
Людзі горкага лёсу
Да вечнасці мёртвых граблі,
І змывалі ў прорву
Нас чорныя хвалі.

А з пачатку жыцця
Столькі светлых ідэй!
А цяпер не прысняцца
Старыя ўспаміны.
Ні жыцця, ні любові,
Ні добрых надзей...
Толькі Бог нам прашэпча:
«Спіце ціха і мірна...»

* * *

---

Абрыдла мне дзяржаўная палітыка,
Штодзённая казённая палітыка,
Грамадская, занудная да смерці,
І хатняя —
змятай хутчэй, як смецце.

Стаміўся я ад з'ездаў, і нарад,
І пленумаў, і сесій... Пустаслоўе.
Чарговым выступленням я не рад.
Хоць год ды памаўчыце!
На здароўе.

Мой родны край!
Як мы жывём пагана:
Што ні пасеем мы —
Усё сажруць.
Чыноўніцкія орды Чынгісхана
З мільёнаў кабінетаў
Пруць і пруць...

Функцыянеры зноў у трубы дзьмуць:
Век гуманізму...
Міласэрнасці...
Братэрства...
А тысячы калек
Кульгаюць без пратэзаў,
І ў галаве —
Хлусні бясконцай муць.

Ні злосці, ні нянавісці —
Адна паныласць...
Ні веры, ні надзей.

Куды цяпер?
О, край мой шматпакутны,
Край да болю мілы,
Дакуль жа будзеш ты
Згінацца і цярпець?

...Мне часта сняцца родныя з дзяцінства:
Трава ў расе,
І светлы шум бяроз,
І жыта спелае
З калоссем залацістым...
І вочы зноў туманяцца ад слёз.

# ПАКАЯННЕ

*(Правадыры рознай пары)*

---

Патрабуюць пагрозна: кайцеся!
Тыцкаюць пальцамі, нібы кіямі.
Не агрызайцеся, не задыхайцеся:
Пакаянне прыйшло,
Пакаянне.

Мы паўвека не спавядаліся,
Ніхто не вучыў вас замальваць грахі.
Мы на лепшае спадзяваліся,
А зайшлі ў тупік глухі...

Вось Мікіта,
Што скінуў з бажніцы галоўнага,
Ліквідатар ГУЛАГа і Берыі.
Мы віталі пацяпленне цудоўнае:
Мы яму давяралі і верылі.

А пасля задурыў,
Страціў розуму клёпкі.
Неперспектыўныя вёскі!..
Сігануў з галавой у сцюдзёны вір,
І сяляне разбегліся:
Хто на далёкія сопкі,
Хто на Ямал,
Хто ў Сібір.

Тых разбойніцкіх спраў
І па сёння ідзе пагалоска:
Як кароў забіралі,
Як ссякалі сады.
І пабегла сялянства,
І загінула вёска...

Кукурузнае поле —
Згустак глупства, бяды.

А ці лёгка ім каяцца?
Вельмі нялёгка!
Гарладзёры і жывадзёры.
Як ім праўду з трыбун галёкаць,
Калі скуру з калгасніка здзёрлі.

Вось славуты — творца перабудовы,
Гэта ён,
Гэта ён,
Гэта ён! —
Паказваюць на яго галодныя ўдовы
І пасылаюць вяльможнаму пану праклён.

Як мы ўзрадаваліся
Прыходу новага генсека:
Камбайнер, інтэлігент...
Гэты не дасць нас на здзек.
А сёння запытай у любога чалавека:
Хто нас разуў?
Хто нас раздзеў?

Усіх памірыць,
Усіх улагодзіць...
Закрыў вочы на кроў
І на тое,
Як паміраюць палескія дзеці.
Пяты, шосты год развалу,
Вось і сёмы год надыходзіць,
А ён усё новым мысленнем свеціць.

Раскрадальнікі радзімы —
Яго хаўруснікі — мільянеры.
Ён і сам мільянер,

І мільянерка жонка.
Наш голас напяты да крыку,
На апошняй нітачцы нервы,
А навокал згаладалыя людзі,
Забытая Богам старонка.

У маім сэрцы — горка і сумна,
Хоць ты не спі, а думай да зары:
Чаму ў краіне,
Вялікай і разумнай,
Такія дурныя і хлуслівыя
Правадыры?

*1 снежня 1991 года*

## ЛЕДЗЯНЫЯ ІГОЛКІ

Марозна і сонечна.
І ціцыня між галінак голых,
І ўсюды зіхціць
мільярд ледзяных іголак.
Цяжкая варона
махае бязгучна крыламі,
А ледзяныя іголкі
над намі зіхцяць настылыя.
Зімовай парой
ўспамінаю я памяццю колкай,
Як ты мне у сэрца ўсадзіла
адну ледзяную іголку.
Даўно было гэта:
былі маладыя, дурныя...
А ўспомню я тую іголку —
і сэрца ізноўку заные.

# МІНСКІЯ ПЕРАХОДЫ

Усе дарогі ў Мінску
Вядуць да Камароўкі...
Ад нашай сопкай бульбы
Да мінскай паўлітроўкі.
Ад мандарынаў Грузіі
Да волжскіх гарбузоў —
Усё тут ёсць, але
Ўсё даражэй у сто разоў.
Дзесятак яек — некалькі чырвонцаў,
Чырвонец — журавінаў жменя,
А кошычак брусніц
Абыдзецца не меней...
І гэта ўсё ля рынку,
Усё на падыходах.
На Камароўку нас вядуць
Падземныя пераходы.
Хоць электрычнасць тут гарыць,
Але кругом мігценне,
Нібы тут не жывыя людзі,
А коўзкія іх цені.
Вось два малых замызганых:
— Мы ўцяклі ад голаду!
Жанчына з дробным дзіцем.
— Пажар спаліў нас,— хлусіць горда.
Вось цётка тоўстая.
Тут шмат рыззя, тут шмотак шмат
І мноства штонікаў —
Хапіла б на атрад.
Пытаюць разявакі:
— Дзе хапанула штонікі?
І гулкі рогат,— тоне ў ім
Дзіцячы голас тоненькі.

Тут прадаюцца шкалярам
Парнаграфічныя адбіткі.
Калодай картаў зазываюць
Цыганкі-варажбіткі.
Паважна барды-спевакі
Настройваюць гітары.
Адным тут дзякуюць, а іншых
Тут ціха абзываюць: «Скнары».
За сем гадзін — і соцень сем.
Спяваюць барды гучна!
Тут пад зямлёй усё мілагучна,
І лаяцца нязручна...
Калі ў падземны пераход
Спускаемся ўніз мы,
Што бачым?
Брудны лад стары
Ці рай сацыялізму?
Калі ўсё ж да рынку ты
І дойдзеш — хутка згасне радасць...
Купі гарбуз, тры яблыкі
І гронку вінаграду.

# ВАНДРАВАННІ

*А. Вярцінскаму*

Да капэлы Сіксцінскай, да мадонны Сіксцінскай
Трэба ў Італію ехаць.
Я пытаюся ў Вас, Анатоль Вярцінскі,
Чулі Вы галасоў нашых даўняе рэха?

Ах, Вы яшчэ не былі ў Ватыкане?
І не наведалі Фларэнцыю?
Вас чакае цудоўнае спатканне,
А Вы ўсё на сесіях ды канферэнцыях.

Вы былі, гавораць, у Амерыцы?
Асляпляльнае ззянне Брадвея,
Музей «Метраполь».
Толькі амерыканскай меркай не мерце
Наш развал,
Наш гнеў,
Наш боль.

Вы бывалі ў слаўным Парыжы?
Гэта Манмартр,
Дом інвалідаў,
Напалеон.
А ў памяці крыху парыешся —
Узнікнуць фарбы палёў Елісейскіх,
Нотр-дамаўскі звон...

А пачынаць трэба сваё зарубежжа
З Рыма,
З Сіксцінскай капэлы.
Пераканаешся:

Усё праходзіць непазбежна,
І тут жыццё гаманіла і кіпела.

Тут пачыналіся крывавыя імперыі
І прывівалася паслухмянае рабства.
Людзі пакутавалі, маліліся, верылі
І няволю, азвярэўшы,
Скідвалі раптам...

Вандраванні, вандраванні...
А за ўсё ў жыцці нам лепей —
Сведчу спавядальнымі радкамі —
Прайсціся ваколіцамі
Бягомля ці Лепеля,
Дзе, як сказала Янішчыц,
Лес наскрозь прапах баравікамі.

### * * *

Даруй, зямля мая, за дробныя грахі,
А буйных я не меў:
Адданым быў салдатам.
Я часам быў сляпы,
А часам быў глухі
І пеў хвалу
Усім чырвоным датам.

Ці ёсць паэзія?
Паэзіі няма.
Усё закрэсліла наўкол
Лібералізацыя.
У сэрцы многіх усялілася зіма,
І людзі добрыя ў трамваі едуць «зайцамі»...

А я сцвярджаю так:
Паэзія ў нас ёсць!
Яна ў дзіцячым шчабятанні зранку.
Калі з душы тваёй адхлыне злосць,
Ты здзівішся далёкаю заранкай,

І шэлестам ліствы,
Па-веснавому свежай,
І свежасцю Максімава «Вянка»...
Усё табе спрадвеку тут належа,
Да працы добрай цягнецца рука.

І зразумелымі стануць сны, жаданні,
Каханне маладых
І сэрцаў перастук.
І верыш ты, што нашы спадзяванні,
Як зерні жыта, хутка прарастуць.

Зязюля пачала
Адлік жыцця нам строгі,
А ў лесе зноў пайшлі баравікі.
Як спіны разагнём,
Паразумнеем трохі
І злыдні не саб'юць
З народнае дарогі,
То нашай Беларусі
Жыць і жыць вякі!

* * *

Была вайна...
Смерць Сталіна...
Гады перабудовы...
І вось цяпер сапхнулі ў бездань нас.
У чэргах плачуць абяздоленыя ўдовы,
І мацюкаецца абрабаваны час.

Абдурылі, задурылі, загалёкалі,
І ланцуг — на кожную руку.
Мы рабы нікчэмныя і лёкаі
І заходняму зайздросцім батраку.

Адкуль прыйшла
Той пошасці навала?
Нібы ля Магілёва ў час вайны,
Мне цяжка пазіраць у вочы згаладалых
Дзяцей...
І несці груз вайны.

Абкормленыя ленінскімі догмамі,
Хлусім людзям мы каторы год,
Абяцаннямі хлуслівымі і дохлымі
Не суцешыць зноў ашуканы народ.

Ах, браты і сёстры, суайчыннікі,
Так і будзем да магілы жыць?
А былі ж дарогі ўсе расчынены...
Дзе зямля мая?
Наўкол — адны крыжы.

У гэтым прыцемку трагічнае эпохі,
Куды глядзець,

Куды ісці цяпер,
Каб людзям даць надзеі светлай трохі:
Стаміліся чакаць
І здзекі скрозь цярпець.

* * *

Не вянуць старыя парады,
Як лезці ў чыноўніцкі рай...
Калі ты дарваўся да ўлады —
Грабі, патрабуй, вымагай.

Усюды стаўляй свае кадры,
З бяды сваякоў выручай:
З начальствам ты будзь далікатны,
А дурняў хай схопіць адчай.

Даклады, падрады, прынады
На лад свой перабудуй.
Прыдумай ім новы падатак
На вокны, на дзверы, ваду.

Калі ж закрычаць: «Паміраем!»,
Ты слёзы з вачэй выцірай...
Скажы ім: «Мы шчасце ствараем», —
А потым ізноў абірай.

## РАСПРАДАЖА

Герой Сацыялістычнай Працы!
Героям песні не пяюць.
Герой пайшоў на вечны шпацыр,
І на геройства ўсе плююць.

А тут аб'ява...
Як дарэчы!
Купцы купляюць арданы,
І цётка развінула плечы:
«Прабач, няма маёй віны».

Сустрэлі дзеці ўсё з ухвалай:
«Што ордэн той?
Рыззё, быллё!»...
Медаль Героя захавала:
Усё ж тут золата сваё.

Яшчэ пакінула на памяць
Два партызанскія медалі,
Каб памяць мужа не запляміць,
Ды і даведка: «Дзе былі?»

А іншых медалёў з дзесятак
Той спекулянт прыбраў да рук.
І чаравікі вырвала зацята,
Спадніцу, кофтачку, фартух...

І толькі як надыдзе свята,
Баліць душа ад скрухі той.
Ці ўспомняць дзеці, як хадзіў іх тата
На мітынг з зоркай залатой?

## СКАРГІ КАБЕТ

Заспрачаліся кабеты,
Чый найлепшы сёння муж.
«Жрэ бясплатныя абеды,
І паёк нясуць яму ж.

Піша важнаму міністру
Ён прамовы кожны дзень.
І бензін заўжды ў каністры...
Той міністр — дубовы пень.

Апранае жонку пышна...
А не гоняць і не б'юць».
«Мой няўдачнік:
Вершы піша,
Ды нідзе не выдаюць.

Хутка дзеці будуць голымі:
Паэтычны горкі хлеб.
З «Маладосці» збег у «Полымя»,
А і ў «Полымі» не лепш».

«Мой — загадчыкам музея.
Тут нічым не памагчы,
Экспанаты іржавеюць:
Пуста ў залах, хоць крычы».

«Мой на радыё рэдактар —
Хлусіць, хлусіць дзень за днём,
Ён сабраў пра ферму факты,
Знікла ферма ўся з агнём».

«Мой працуе рэжысёрам,
А тэатр наш давялі:

Дзве артысткі — проста сорам! —
У Германію сплылі».

Ах, як цяжка спавядацца:
Перад кожнай — толькі мель...
Думаюць, ці не падацца
У прыватную арцель.

# ЭПІГРАМЫ

---

## АЦЭНКА

Круглатвары, дзіўнаваты,
Дурнаваты, п'янаваты.
Ён не Быкаў наш дзяржаўны,
Не Сялюнін, не Каржавін
І не мудры Адамовіч
(Хоць папросіш — не адмовіць),
А тым болей ён не Бродскі...
Ён — тубылец даўгабродскі.

## ЖЫЎ БЯДАК

Жыў бядак па прозвішчу Бадак,
Таленты ён ненавідзеў люта.
Распраўляўся з імі так і сяк,
Выступленні разбаўляў атрутай.

Сам пісаў... Ах, лепш бы не пісаў:
Скрозь шаблон і вобразы без поўсці,
Здольнасці куртатыя яму
Бог паслаў,
і ён паэтам помсціць.

## ТВАРЦУ ПАРТЫЗАНСКАЙ ЭПАПЕІ

Людцы мае родныя,
Дайце мне народнага!
Век партыйны класік бэкаць
Будзе з ранку да начы...
А за мной — бібліятэкі,
А за мною — чытачы.

Нехта плавае ў тумане,
Захапляецца лухтой.
Давяду я партызанаў
Да канца вайны святой.

І пішу я том за томам,
А душа — галодная.
Эпапею склаў без стомы,
Дайце мне народнага!

## МІНІЯЦЮРА ПРА НЕПАТРЭБНАГА ХАЛТУРШЧЫКА

Крытык Бэндэ калісьці
Прагнуў нашых народных раструшчыць.
Час закрэсліў яго...
А цяпер новы цуд:
Атакуе сучасных паэтаў
Нахабны халтуршчык.
Асцярожна: Маеўскі!
Не наступіце на... бруд.

## НА ПАРОЗЕ
## ТРЭЦЯГА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Ці жыццё маё, ці выхаванне,
Толькі ў сэрцы рэзка правялі
Грань паміж біблейскімі валхвамі
І пастухамі роднае зямлі.

Грань паміж прамоўцамі застольнымі,
Што ірвуцца вечна да трыбун;
І гадамі горкімі застойнымі,
Што народ хацелі ўзняць на бунт.

Разбярыся, палічы, падумай,
Дзе пачаткі тут і дзе канцы...
Той вайны пачатак, поўны тлуму,
Помняць пасівелыя байцы...

Развялося розных экстрасенсаў,
І прарокаў грозных не злічыць.
Ды жыццё, відаць, не мае сэнсу,
І не ведаеш, як раны залячыць.

Племя дармаедаў...
З дэфіцытам
Лезе так нахабна да людзей.
Божа, дзе знайсці такое сіта,
Каб прасеяць бурны бег падзей?

На марозе людзі у трывозе,
І мяне глынуў наш мінскі вір...
Хто там едзе ў «тачцы»?
Мафіёзі.
Хто насустрач прэцца?
Рэкецір.

Скрозь такая сумятня, неразбярыха...
Што нам адрываць: талон, купон?
Дзеці спяць, а побач ходзіць ліха
За Чарнобылем атрутным наўздагон.

Гнеў і ярасць спеюць у народзе...
І ў каго спытацца, як сустрэць
Трэцяе тысячагоддзе?
Ці ў дваццатым веку дагарэць?

## ЛЕПШЫЯ ПТУШКІ БЕЛАРУСІ

Вясна прыйшла! Вясёлы шпак
Людзей апавяшчае спевам.
Табе шпакоўню, наш спявак,
Узнеслі мы на дрэва.

Гняздо пад кожнаю страхой
У вёсцы лепяць ластаўкі —
Хай пад аховаю тваёй,
Бо там каты зубастыя.

І не дай Бог спароць гняздо
Ў забаве, хай сабе дзяцінай:
Бяда наведае твой дом,
Пакрые твар твой рабацінне...

Ідзеш на трактары араць
Ці сеяць жыта добрае —
Табе ўвесь дзень пачнуць іграць
На струнах жаўраначкі дробныя.

А росы на траве густыя,
Гарацъ на іх пажарынкі.
Званочкі нашы залатыя —
Высока ў небе жаўранкі.

На ўзлессі дзяцел стук ды стук —
Па галаве свавольнікаў.
Яго пачуеш за вярсту:
Лічыць ён вучыць школьнікаў.

Яшчэ і вечар не атрос
На полі зоркі цёплыя,

Спеў пачынае шчодры дрозд —
Саліст, хоць сёння ў оперу.

А вераб'і, а вераб'і!
Нам з імі весела пад сонцам.
Не прададмо іх за рублі,
Не прададмо і за чырвонцы!

А мудрая, разумная
Варона. Божа мой!
Яна з табою сумная
І ў радасці з табой.

Пра салаўёў і пра буслоў
Ніякіх не патрэбна слоў:
Вы ведаеце добра
Сваёй зямлі аздобу.

## ЖЫЦЦЁ

Асенняю назолай —
Глухіх вятроў выццё...
Завеш сябе ты Зояй,
А я заву — жыццё.

Нас блытаныя сцежкі
Звялі пасля вайны.
Зайздроснікаў насмешкі,
Хоць не было віны.

Што за прыемнасць людзям —
Пляткарыць і маніць:
Ці тых мы сёння любім
І ці пра тых нам сніць.

Жывём амаль паўвека,
Не крыўдзім мы людзей.
Запасы лепшых лекаў
Складаюцца з надзей.

І сын Андрэй,
І ўнук Андрэй,
І праўнук ёсць Алесь.
Ты не сумуй і не старэй,
У гвалт кабет не лезь.

Таццяна — добрая дачка,
І дзве нявесткі здатных,
Я дачакаўся, прычакаў
Наследнікаў выдатных.

І Кацярынка ёсць у нас,
І падрастае Ксюша.

Я горка думаю не раз,
Як захаваць іх душы?

Да старасці падходзяць дні,
Ды нам часамі сорам,
Бо не хапае дабрыні,
А ў сэрцы ясных зорак.

А мы з табой па шмат гадзін
Глядзелі ў неба жніўнем:
Сусвет адзін, спакой адзін,
І перуны, і ліўні.

Храбрыўся за мяжой...
А чах,
І сэрца забалела...
Шчаслівы быў, калі ў вачах
Бярозка забялела,

Калі дыхнула зноў сасной,
Настоем змалку родным.
Дзень добры, пах любімы мой,
Дзень добры, шлях зваротны.

А потым дом...
І ты ўжо спіш,
І ўспамінаць не варта
Нью-Ёрк, і Лондан, і Парыж,
І ў Афрыцы экватар.

За ўсё мы цэнім даражэй
(Не перадовак глупства),
Калі на сэрцы ў нас цяжэй,—
Людское дабралюбства.

Суніцы ўжо не клічуць нас,
Баравікі не клічуць.

А дактары які ўжо раз
Рэцэпты павялічваюць.

Не сплю часцей, не бачу сноў,
Турботы невялікія —
Ці прыйдзе Барадулін зноў,
А ці пазвоніць Быкаў?

А дзе Законнікаў Сяргей?
Ці забяжыць Вярцінскі?
І адэльфан запас сабе
Ад крывянога ціску.

Вось нараджэння хутка дзень,
І думаю міжволі:
Да нас, відаць, ужо ідзе
Наш сябр Аўрамчык Коля...

І так, пакрыты сівізной
(Не проста ўсё пражыта),
Я чую звон ліствы вясной,
А ўлетку — шолах жыта.

Цягнік рассыпаў перастук,
Шаша скрыгоча тупа.
Яшчэ б прабегчы
Хоць з вярсту,
Пабачыць век наступны.

## ПАСЛАННЕ

*Тамары Фаменка, талінскай беларусцы*

Слова кожнае і кожны сказ бацькоўскі
Змалку трэба моцна бараніць...
Па дарозе доўгай, бруднай, коўзкай
Мовы матчынай запомні карані.

Плюй на клюкву...
Едзь у журавіны,
На балоце ягады збірай.
Да цябе мы прыкіпець павінны,
Журавінны, жураўліны край.

Кнігаўка заплача, піць папросіць,
Бусел заклякоча ў цішыні.
Гэта ўсё вясна, але не восень,
Жаўранак спявае ў вышыні.

І гаспадары, і гаспадыні
Пачастуюць ды не будуць суцяшаць.
Знікла маладосць у горкім дыме,
Засталася добрая душа.

Велікодным днём альбо калядным,
На Купалле ці на Сёмуху прыедзь...
Наша ўсё!
І смачна, і прынадна,
І гасцей чаканых будзем мець.

Гатаваць вы ўмееце мачанку?
А грузды?
Паказвай, шклянка, дно.

Я не п'ю, але наллю вам чарку,
Нават вып'ю з вамі заадно.

Хто гэта чаўпе, што мы адсталі?
Хлусіць хто, што мы ўжо не народ?
Наляцела прагная навала
Спекулянтаў і каўказскамоўны зброд.

Прыйдзе з Таліна маленькае пасланне
І набор цукерак — свята зноў.
Зноў яднанне, крэўнае спатканне
Беларускіх дочак і сыноў.

Надакучылі нам скаргі і праклёны,
З цемры выбірацца нам пара:
Пра бярозы заспявай, пра клёны,
На якіх ізноў гарыць зара.

# ПАРАНЫ ГАРОХ

Адзін пад ніз, чатыры па баках —
Бягомльскія плоскія каменні...
Я раскажу аб блізкіх дружбаках,
Як парыць мы гарох калісь умелі.

Нарвём струкоў зялёных аж паўторбы,
У яміну каменную кладзём.
А зверху шосты камень, самы добры,
Над ім агонь распалім, развядзём...

І ўвесь сакрэт.
Ачысцім яму ўмомант.
Смачней за ўсё распараны гарох.
Цяпер інакшы густ,
Інакшы смак і гоман:
Арганізуем, як даўней, на трох.

## ІМЯ

Хто стаіць у гэтым спісе,
Нібы з надмагільных пліт,
Старажытны летапісец
Ці сівы мітрапаліт?

Адкапаў жа лірык імя
(Ён архіўнасцю пратух).
Невукі! А імя Пімен
З Грэцыі прыйшло: пастух.

Сябр Пятрок, што значыць камень,
Ён ухілаў век не знаў
І каменнымі радкамі
Нас наперад заклікаў...

Каб не зналі галадоўкі
Тыя, што крычаць «ку-гу»,
Адбываў і я радоўку —
Пастуховую чаргу.

А трава — зялёным пухам,
Недалёка ад вады.
Ляскаў я пагрозна пугай
І крычаў: «Куды! Куды!»

Як любілі нас кабеты,
Частавалі чым маглі...
Я цяпер пішу санеты.
Чым яны дапамаглі?!

Нашы словы — не каровы,
А тым болей не aслы...

Свет на пашы — каляровы,
Як на сонцы два вяслы.

Адшукаеш глыбу-слова
Ды ўвапрэшся, як вяпрук,—
І ламаецца аловак,
Валіцца папера з рук...

І парады, і нарады...
А каму, каму, каму
На чыю, скажыце, радасць
Прамычыць карова «му»?

Пожні ў суме ўсе галосяць,
І хвале той не сціхаць:
Лепш майго не знойдзеш лёсу —
Горкай долі пастуха.

## НА ФРАНТАВЫХ ДАРОГАХ

Вясною трыццаць дзевятага года ў Кіраўск, дзе [redacted] працаваў настаўнікам, прыйшло пісьмо ад праўлення Саюза пісьменнікаў за подпісам Міхася Лынькова з просьбай адпусціць мяне на працу ў Мінск.

Пасля экзаменаў і выпускнога вечара дзесяцікласнікаў, з якімі мы вельмі зрадніліся, развітаўся я з сябрамі, настаўнікамі, суседзямі і паехаў з невыразнымі намерамі і надзеямі ў нашу сталіцу.

У Мінску ўладкаваўся ў знаёмых і пайшоў да Міхася Ціханавіча. Яго я збольшага ведаў, не раз сустракаў і слухаў выступленні: к гэтаму часу я ўжо быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. А творчасць Міхася Лынькова я любіў, асабліва яго апавяданні. Маё маленства прайшло ў мястэчку, дзе жылі беларусы і яўрэі. Таму апавяданне Міхася Ціханавіча «Гой» мне было асабліва блізкае і зразумелае. Прываблівала і рамантыка «Андрэя Летуна» і «Над Бугам». Іншая справа — сустрэцца з ім так блізка. У яго быў выразны, не падобны на іншыя, твар: прадаўгаваты, мужны, вочы светла-блакітныя. Калі злаваўся (а наогул ён умеў валодаць сабой як ніхто), вочы святлелі.

А як ён умеў слухаць! Тады ў кабінеце неяк так выйшла, што больш гаварыў я, нібы спавядаўся, а ён уважліва слухаў, зрэдку задаваў пытанні і, як мне здалося, прыглядваўся, вывучаў. Параіў мне ісці на працу ў газету «Літаратура і мастацтва», падказаў, дзе знайсці пакой для жыцця. Так я і зрабіў.

Праз некаторы час я зблізіўся з братам Лынькова Рыгорам, журналістам, які друкаваў вершы пад псеўданімам Рыгор Суніца.

Аднойчы вечарам мы з Рыгорам доўга хадзілі па горадзе, і ён запрасіў да сябе. Жыў Рыгор у брата, ад

пакояў Міхася Ціханавіча яго пакойчык аддзяляў невялікі калідор. Мы дапазна заседзеліся за чаркай, вялі халасцяцкія размовы ўперамешку з літаратурнымі. Я вырашыў заначаваць у Рыгора. Раптам увайшоў Міхась Ціханавіч. Мы запрасілі за стол. Ён усміхнуўся і сказаў:

— Глядзіце, уюнашы...— і выйшаў.

Праз колькі хвілін вярнуўся з коўдрай і падушкай:

— Кладзіцеся спаць...

Так пачалося маё жыццё ў Мінску. Пазнаёміўся з многімі пісьменнікамі. Вольнага часу пасля працы было мала: бібліятэка, тэатр, канцэрты, дыскусіі ў Доме пісьменніка. Ну і, вядома, пісаў вершы.

Аднаго разу мяне выклікаў Міхась Ціханавіч і сказаў:

— Трэба вам, маладым, паглядзець свету. Вырашылі паслаць вас у творчую камандзіроўку на Украіну. Ты будзеш за брыгадзіра.

Ён па-бацькоўску даваў парады, куды ехаць, што паглядзець, як трымацца.

Са мною паехалі Усевалад Краўчанка, Іван Грамовіч, Рыгор Няхай. Падарожжа было вельмі цікавае. Ад Мазыра па Прыпяці мы плылі да Кіева. Некалькі дзён пажылі ў сталіцы Украіны, дзе нас гасцінна сустрэлі пісьменнікі. Праплылі Дняпром, пабывалі ў Каневе на магіле вялікага Кабзара, наведалі Дняпрагэс. А пасля ад Херсона морам — да Адэсы. Украіна нас зачаравала. Мы ўсе ўпершыню ўбачылі мора і, вядома, днямі пякліся на адэскіх пляжах. І... нечакана засталіся без грошай. Не было за што купіць назад білеты. Давялося даць тэлеграму Міхасю Ціханавічу, каб выручыў. На другі дзень прыйшоў тэлеграфны перавод.

Калі вярнуліся ў Мінск, я пайшоў да Міхася Ціханавіча «даваць справаздачу». Першыя яго словы былі:

— Што, абакралі?

(Справа ў тым, што мая тэлеграма з Адэсы пачыналася словамі «Непредвиденные обстоятельства...».)

— Не хапіла грошай...

Міхась Ціханавіч даволі сурова «прабраў» за непрактычнасць і няўменне лічыць грошы, бо сам ён заўсёды жыў эканомна і ашчаджаў кожную дзяржаўную капейку.

— Гэтую тысячу, уюнаш, адлічаць з першага твайго ганарару,— прыгразіў ён.

Пасля палагаднеў і падрабязна распытаў, дзе мы былі, што бачылі, з кім сустракаліся.

Тое лета 1939 года было трывожнае. У Еўропе ішла вайна. Гітлераўцы душылі танкамі чужыя землі.

У пачатку верасня Міхася Лынькова выклікалі ў Смаленск, дзе тады знаходзіўся штаб Заходняй ваеннай акругі. Кожную ноч праз Мінск ішлі да заходняй граніцы нашы войскі, артылерыя. Аднаго дня забег у рэдакцыю Пятрусь Броўка і ціха сказаў:

— Мяне, Глебку і цябе выклікаюць у абласны ваенкамат. Пойдзем.

У ваенкамаце атрымалі прадпісанні, і на другі дзень цягнік імчаў нас у Смаленск.

Пад Смаленскам, у лясным ваенным гарадку Гнёздава, уночы нас выклікаў начальнік палітупраўлення і расказаў пра становішча, ваеннае і палітычнае. Немцы занялі большую палову Польшчы. Прыйшла пара вызваліць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Аддаў загад: наладзіць выпуск франтавой газеты «Беларуская звязда», лістовак, адозваў. Спецыяльны цягнік з паходнымі друкарнямі быў напагатове. Рэдактарам быў прызначаны Міхась Лынькоў, адказным сакратаром Ілья Гурскі. Адразу ўзяліся за працу, ужо ў вайсковай форме.

Калі спеццягнік рушыў на захад, сэрцы нашыя былі перапоўнены чаканнем і трывожнай радасцю: нарэшце наш народ уз'яднаецца.

У тым жа цягніку былі франтавыя газеты на рускай і польскай мовах. У «Красноармейскую правду» былі прызваныя некалькі вядомых рускіх пісьменнікаў. Да нас у вагон прыходзілі Уладзімір Лугаўской і Яўгеній Далматоўскі. Мы вучылі іх спяваць беларускія песні. Лугаўской меў моцны прыгожы бас і хутка пераймаў мелодыі. Няблага спявалі Пятрусь Усцінавіч і Міхась Ціханавіч.

Спыніліся ў Мінску. Нашым «штабам» на некалькі дзён зрабілася рэдакцыя часопіса «Полымя». Заходзілі шмат пісьменнікаў, прасіліся ўзяць з сабою. Зайшоў і Янка Купала. Мы ўзрадаваліся, а Міхась Ціханавіч папрасіў напісаць у газету верш ці артыкул. Твар Івана Дамінікавіча аж свяціўся ад прадчування доўгачаканай сустрэчы з заходнімі братамі. Купала напісаў артыкул.

І вось надышла доўгачаканая хвіліна, калі наш цягнік услед за войскам перасек мяжу. Я дзяжурыў па вагоне і стаяў у тамбуры, калі ўночы мы праехалі пад Негарэльскай аркай. Ніхто не спаў, усе былі моцна ўзрушаныя. Але гэта для іншых успамінаў.

Хочацца адзначыць дзве рысы Міхася Ціханавіча, якія я заўважыў у той час. Вядомы заслужаны пісьменнік атрымаў адказнае баявое заданне. Але ён не забыў маладога паэта, далучыў да вялікай справы.

І другое. Міхась Лынькоў ніколі не падкрэсліваў, што ён камандзір (больш правільна — рэдактар, камісар), начальнік. Трымаўся па-таварыску, роўна з усімі; рабіў нават чарнавую працу, што павінны былі б рабіць іншыя. Але быў па службе патрабавальны.

У Стоўбцах Броўка, Глебка і я пайшлі паглядзець горад, пагаварыць з людзьмі (і цяпер з радасцю ўспамінаю тыя сустрэчы і размовы). Заглянулі і ў былое афіцэрскае казіно. А ў гэты час прыйшоў загад перагружацца на аўтамашыны. Мы пра гэта не ведалі і спазніліся, прыйшлі пад канец работы. Лынькоў ра-

зам з усімі цягаў наборныя касы. Зрабіўшы нявінныя твары, мы ўключыліся ў агульны рытм. Наш суровы рэдактар нічога не сказаў. І толькі пазней на прывале ў лесе нязлосна, з нейкім сумам сказаў:

— А вы ўсё ж сукіны сыны, хоць бы пляшку таго каньяку прыхапілі.

Пасля паходу я застаўся служыць у Беластоку, літсупрацоўнікам армейскай газеты. Тут я і сустрэў вайну. Наша 10-я армія трапіла ў акружэнне. Прабіліся толькі асобныя часці і падраздзяленні, частка штаба арміі і палітаддзела (у тым ліку і наша рэдакцыя). Нашу паходную рэдакцыю (некалькі машын) разбамбілі. Былі ахвяры. Неверагодна цяжкі быў той шлях з Беластока на ўсход праз вогненныя вёскі і гарады.

Па ўзбочынах дарог бясконцай ракой ішлі і салдаты і цывільныя, а на дарогах усюды валяліся разбітыя машыны. Наша армія і ў акружэнні вяла гераічныя баі.

Прайшоўшы шмат вёрст пехатою, мы каля Фаніпаля знайшлі пакінуты грузавік, адшукалі сярод тых, што адступалі, і шафёра, заправіліся бензінам у мясцовай нафтабазе, будынак якой ужо займаўся агнём, і ўночы з цяжкасцю прабраліся праз апусцелы зруйнаваны Мінск. Выбраліся на Магілёўскую шашу і, змарнелыя, галодныя, зарослыя шчэццю, здалося, праз цэлую вечнасць дабраліся да штаба фронту, які ў той час быў у Магілёве.

Першы, каго мы ўбачылі ў распалажэнні палітупраўлення фронту, быў Міхась Лынькоў.

Цяпер бы я сказаў: містыка, дый годзе! Але тады не той быў час. Шчыра прывіталіся, і я коратка расказаў пра сваю дарогу з Беластока. Міхась Ціханавіч паведаміў, што яго, Крапіву, Барысенку і Стаховіча прыкамандзіравалі да франтавой газеты «Красноармейская правда». Там служыць загадалі і мне.

Хутка штаб і палітупраўленне Заходняга фронту перамясціліся пад Смаленск. Нам было загадана наладзіць выпуск франтавой газеты «За Савецкую Беларусь» на роднай мове. Міхась Лынькоў як рэдактар зноў паказаў сябе добрым, удумлівым арганізатарам і палітработнікам. Цяжка было з беларускімі шрыфтамі, карэктарамі. Але газета выйшла своечасова, і ваенныя лётчыкі разам з лістоўкамі закінулі яе ў акупаваныя раёны нашай рэспублікі. Хачу падкрэсліць: у нашай франтавой працы нам вельмі дапамагалі рускія таварышы — палітработнікі, журналісты, пісьменнікі.

Пасля чарговага адступлення мы апынуліся ў Касненскім лесе пад Вязьмай.

Аднойчы на світанні мы пілі гарачы чай (спалі тады на зямлі, захінуўшыся шынялямі, замерзлі). Асабліва любілі чай Міхась Ціханавіч і я. Нас нават празвалі «чаяхлёбамі». Ужо наляцелі з-пад Масквы фашысцкія налётчыкі. І раптам нейкі чарнакрыжы адставака прагрукатаў над намі і скінуў паблізу бомбу, якую яму не далі скінуць у іншым месцы. «Воздух!» — пачуўся запознены выгук. Усе памчаліся да якой-небудзь сховы, кінуўшы кубкі з чаем. Мы з Міхасём Ціханавічам — ці то не паспелі, ці то шкада было чаю — засталіся на месцы і грэліся самым тады жаданым для салдата пітвом. Хлопцы вярталіся, нібыта ў нечым вінаватыя. А Міхась Ціханавіч зусім нявінна звярнуўся да мяне:

— Ото смачны чай, ніколі такога не піў. Праўда, Пімен?

Наогул, наш Ціханавіч добра адчуваў гумар, любіў жартаваць, часамі ўедліва.

Але і ў яго было слабае месца. Калі ён вельмі ўжо каго дапякаў, той гаварыў хлопцам:

— Жыў некалі ў Бабруйску выдатны паэт Васілёк. Хочаце — пачытаю яго вершы...

Лынькоў заўсёды крыху бянтэжыўся. Справа ў тым, што сапраўды ў Бабруйску, калі ён рэдагаваў там газету «Камуніст», друкаваў і вершы пад псеўданімам Васілёк...

Неўзабаве з-пад Вязьмы нашу рэдакцыю перакінулі ў Гомель — адзіны кавалачак яшчэ свабоднай Беларусі.

На роднай зямлі і ў вайну дыхаецца лягчэй. А тут сустрэлі шмат знаёмых. Працаваў «Палесдрук», побач быў Добруш, дзе мы даставалі паперу. А то раней даводзілася шастаць у ацалелыя рускія райцэнтры, каб у мясцовай друкарні аддрукаваць тыраж нашай газеты.

І тут у Лынькова, Крапівы, Гурскага дый ва ўсіх нас вырвалася туга па сем'ях, якую мы старанна дагэтуль хавалі. Ніхто не ведаў, дзе іх жонкі, дзеці, бацькі, што з імі. Распытвалі ва ўсіх — адказу не было.

Пазней даведаліся, што сын Кандрата Крапівы Барыс гераічна загінуў на фронце; жонка Ільі Гурскага была ў партызанскім атрадзе; мая маці з сёстрамі і братам эвакуіраваліся ў Саратаўскую вобласць. Бацька, стары камуніст, застаўся партызаніць. А жонку Міхася Ціханавіча з сынам немцы закатавалі... Гэты боль не гаіўся ў яго сэрцы да канца жыцця. Ён зрабіўся яшчэ больш маўклівым і засяроджаным.

У Гомелі таксама нам доўга пабыць не давялося. Аднойчы ўночы наляцелі хваля за хваляй нямецкія бамбардзіроўшчыкі. На нашых вачах гінуў яшчэ адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі. Палалі цэнтральныя кварталы. Можна было разгубіцца (а нашы рэдакцыйныя машыны былі ў цэнтры). І тут Міхась Ціханавіч, часта даволі марудны ў рашэннях, даў прадуманае распараджэнне шафёрам:

— Ганіце машыны ў цэнтральны сквер. Там кругом гарыць, другі раз кідаць бомбы не будуць.

Так і зрабілі. Правялі ноч пасярэдзіне пажараў, а назаўтра праз пантонны мост перабраліся на другі бок Сожа і спыніліся ў лесе за Нова-Беліцай.

Адгэтуль нас перакінулі на Бранскі фронт. З Масквы прыехалі Пятрусь Броўка, Максім Танк. Стала весялей.

І тут здарылася бяда. Вораг прарваў фронт, адзін клін — на Арол, другі — на Жыздру. Мы апынуліся ў «мяшку». Фашысцкія танкі прарваліся да самага штаба фронту. Навокал усё грымела і гуло. Быў загад неадкладна адступаць. Але гаспадарлівы Міхась Лынькоў і тут застаўся Міхасём Лыньковым. Пакуль не закапалі ўвесь свежанадрукаваны тыраж газеты ў зямлю, ён і слухаць не хацеў пра ад'езд, хоць у газеце ніякіх сакрэтаў не было.

Тую начную дарогу, раз'езджаную, пакрытую чарназёмнай граззю, мы і цяпер успамінаем нядобрым словам. А тут яшчэ шафёр паўтаратонкі перакуліў у гразь наборныя касы. Мы разаслалі брызент і збіралі ў прыгаршчы неацэнныя для нас беларускія шрыфты.

Цудам вырваліся з «мяшка» і апынуліся ажно ў Лебядзяні на верхнім Доне. Тут мы пачулі радасную вестку пра разгром немцаў пад Масквой.

Тым часам нашу рэдакцыю адклікалі ў Маскву. Уначы паехалі на нейкі паўстанак грузіцца. Сцюжа стаяла страшэнная. А мы былі ў шынялях і кірзавых ботах. Чакалі некалькі гадзін. Усе пасінелі і калаціліся: сагрэцца не было дзе.

Нарэшце падалі таварняк. Пагрузіліся. У нашай цяплушцы стаяла жалезная «буржуйка», было трохі каменнага вугалю. Мы нашчапалі трэсак з нейкіх аполкаў, старых дошак. Прызначылі дзяжурных. Паехалі.

Як цяпер бачу: вакол жалезнай печачкі, распаленай дачырвана, сядзяць Міхась Ціханавіч, Кандрат Кандратавіч, Пятрусь, Максім, усе нашыя хлопцы, наборшчыцы, шафёры. Твары стомленыя, чырвоны

водбліск перабягае з аднаго на другога. Сэрца сціскае шчымлівае шкадаванне і разам з тым гордасць за маіх франтавых сяброў. Так мы ў дарозе і сустрэлі Новы, 1942 год.

У Маскве мы з усёй сваёй паходнай музыкай заехалі ў двор Саюза пісьменнікаў. Саюз і клуб былі амаль пустыя. Сланяліся нейкія невядомыя нам людзі. У клубе пісьменнікаў было выбіта некалькі акон: побач, на плошчу Паўстання, немцы нядаўна скінулі магутную бомбу. Тут мы і пераначавалі нашу першую маскоўскую ноч.

У хуткім часе адну групу пісьменнікаў (у тым ліку і мяне) накіравалі на Калінінскі фронт (бліжэй да Беларусі). Мы там пачалі выдаваць франтавую газету «За свабодную Беларусь» і сатырычны часопіс «Партызанская дубінка». Другая група засталася ў Маскве ў распараджэнні ЦК КПБ.

Мы зрэдку перапісваліся з Міхасём Ціханавічам. Я пісаў пра наша жыццё і пра навіны, што нам прыносілі з-за лініі фронту партызаны. На вялікі жаль, усіх пісем Міхася Ціханавіча мне не ўдалося захаваць.

Я вучыўся ў яго прынцыповасці, дысцыпліне, вернасці слову, патрабавальнасці да сябе і да іншых, сур'ёзным адносінам да літаратурнай працы.

Нядаўна я перачытваў яго даклады і выступленні на нашых пісьменніцкіх з'ездах і пленумах. Ён не гаварыў гатовымі слоўнымі блокамі, ходкімі выразамі, хоць, вядома, і ён умеў абагульняць. Міхась Ціханавіч выступаў заўсёды як пісьменнік, як літаратар, называў усё сваімі імёнамі: схематызм, рыторыка, фармалізм, безгустоўнасць, кепская мова. І называў канкрэтныя творы і прозвішчы пісьменнікаў, часта блізкіх яму людзей. Нам бы цяпер такі стыль.

Яму было цяжэй, чым іншым: усе свае беды, трывогі і засмучэнні ён таіў глыбока ў сэрцы і не лез ніколі са споведзямі, скаргамі ці нараканнямі.

Некаторым ён здаваўся сухаватым, крыху абыякавым. Як яны памыляліся!

Успамінаецца адзін пасляваенны пленум СП СССР. Мы жылі ў гасцініцы «Масква». Увечары нашы сябры разышліся хто ў тэатр, хто ў клуб пісьменнікаў, хто ў рэстаран. Я стаміўся і рашыў адпачыць. Раптам тэлефонны званок. Лынькоў.

— Ты нікуды не ідзеш? Заходзь да мяне, закажам у нумар вячэру.

Я сказаў, што не варта, бо я накупляў розных прысмакаў, ёсць і бутэлька каньяку.

Хутка Міхась Ціханавіч прыйшоў да мяне. Успомнілі мілы нашаму сэрцу Бабруйск, дзе мы ў розныя часы жылі і працавалі. Смакавалі крыху забытыя назвы: Бярэзінскі фарштат, Сацыялка, хутар Млынок, Сярэбраны бор... Прыгадалі розныя франтавыя здарэнні.

Прайшліся па нашым жыцці апошніх дзесяцігоддзяў, успомнілі па чарзе сяброў, знаёмых. Але ў яго словах не было ні намёку на плётку, ні зласлівасці, ні варожасці да не зусім сумленных людзей. Рэдка я бачыў яго такім адкрытым. Яшчэ раз пераканаўся, як тонка Міхась Ціханавіч разбіраўся ў людзях, у псіхалогіі і старых і маладых літаратараў.

Ён добра ведаў, хто чаго варты і ў жыцці і ў літаратуры.

...Некалькі гадоў запар мы адначасова жылі ў Каралішчавічах. Ён любіў розную «машынерыю». Адно лета муштраваў свой матацыкл, наганяючы жах на слабых нервамі, пакуль ледзьве не пакалечыўся. Яму было ў радасць, калі хто-небудзь з нас прывозіў яму арыгінальную запальнічку ці што-небудзь падобнае. Сам ён ніколі не забываў прывезці сябрам з-за мяжы гальштук ці сарочку.

Аднойчы на Нарачы ён прапанаваў правезці мяне на сваёй маторцы. І так хвацка прычаліў да берага,

што я апынуўся ў вадзе і давялося апранаць яго сухое адзенне.

Яго вельмі любілі дзеці (адчувалі, што ён іх любіць). Лынькоўскія вогнішчы зрабіліся легендай. Ад нашага Дома творчасці да Свіслачы вяла сцяжынка, уся засмечаная лаўжамі, дзе вадзіліся змеі. Міхась Ціханавіч, на нечуваную радасць і ўцеху дзецям, спаліў лаўжы. Змеі зніклі.

Давялося жыць і працаваць з ім і зімой, калі ён канчаў «Векапомныя дні». Пакоі нашы былі побач. Абодва па даўняй завядзёнцы любілі пісаць уночы. Звычайна ў гадзіны тры ночы хто-небудзь з нас стукаў у сценку, даваў знак, што пара канчаць. Ці ў яго, ці ў мяне садзіліся за стол, кроілі сала, чысцілі цыбулю, бралі па чарцы.

— Ну, што ў цябе сёння?

— Тры вершы напісаў...

— Мнагавата. А я ледзь-ледзь дзве старонкі нашкрэбаў... А ведаеш, я нядаўна паскардзіўся Канстанціну Міхайлавічу, што пішу і не падабаецца напісанае. Дык дзядзька Якуб усміхнуўся і сказаў: «А ты падзяры і зноў напішы».

Ён ніколі не чытаў тое, што напісаў за ноч. А пісаў шмат і добра. «Векапомныя дні» — першы буйны праўдзівы раман пра народную барацьбу з фашыстамі, пра партызанскі рух.

У апошнія гады яму цяжка было хадзіць на сесіі Вярхоўнага Савета, на сходы. Ніхто б яго не папракнуў, калі б ён лепш пасядзеў дома, адпачыў, палячыўся. Але Міхась Ціханавіч заўсёды хадзіў на ўсе паседжанні. Гэта быў салдат. Да канца.

# КРАПІВА

Я пішу гэта слова пра свайго старэйшага друга з хваляваннем і радасцю: мы сябравалі з ім шмат гадоў, разам былі на фронце. І жыццё яго было незвычайнае: багатае падзеямі, вялікімі літаратурнымі здабыткамі, напоўненае пакутлівымі шуканнямі і перажываннямі, творчай радасцю. І горам: яго старэйшы сын Барыс загінуў на вайне...

Нарадзіўся Кандрат Крапіва пад канец XIX-га стагоддзя. Яго малая радзіма — Уздзеншчына, багатая на таленты. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе і ў гарадскіх школах у Стоўбцах і Койданаве. Здаў экстэрнам экзамен на званне народнага настаўніка. Настаўнічаў.

Але перад гэтым яшчэ хлапчуком, а пасля юнаком ён дасканала ведаў усю сялянскую працу: умеў і араць, і касіць, і малаціць, і дровы вазіць, і кароў пасвіць. Веданне народнага жыцця, характару беларускага селяніна было жыватворнай крыніцай яго творчасці.

А жыццё прадаўжалася. Пачалася першая сусветная вайна. Крапіва скончыў школу прапаршчыкаў. Ваяваў на румынскім фронце. Як настаўніка яго дэмабілізавалі. Зноў настаўнічаў. Быў камандзірам Чырвонай Арміі. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт у 1930 годзе, калі абсалютная большасць сучаснага насельніцтва Беларусі яшчэ і не нарадзілася.

Людзі майго веку добра помняць, якой велізарнай папулярнасцю карысталіся сатырычныя вершы і байкі Крапівы ў даваенных дваццатых і трыццатых гадах. Не было той хаты, дзе б яны не чыталіся. Тады народ умеў шчыра смяяцца і рагатаць. Крапіва,

як і Купала, і Колас, прылучаў беларускі народ да ведаў, да культуры. Яго сатыра бязлітасна высмейвала забабоны, бескультур'е, п'яніц і гультаёў, падхалімаў і кар'ерыстаў, бюракратаў і мяшчан: «Дзед і баба», «Хвядос—Чырвоны нос», «Сука ў збане», «Сава, асёл ды сонца», «Ганарысты парсюк», «Махальнік Іваноў», «Дыпламаваны баран» і шмат іншых. Творы Крапівы дабратворна ўплывалі на жыццё людзей, выхоўвалі народ.

Крапіва напісаў звыш дзесятка п'ес. Ён разам з майстрамі Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы стварыў сапраўдны тэатр Крапівы.

У сярэдзіне трыццатых гадоў я глядзеў у гэтым тэатры «Канец дружбы» з выдатным акторам Крыловічам. Незабыўнае ўражанне. Яшчэ большае — ад пастаноўкі «Партызан». І зусім ашаламляльнае — ад пастаноўкі п'есы «Хто смяецца апошнім».

Сапраўдную літаратуру і сапраўднае мастацтва робяць толькі вялікія майстры. Такім майстрам і стаў Кандрат Крапіва, надзвычай таленавіты, па-грамадзянску смелы. Глебаў — Туляга, Платонаў — Зёлкін, Рахленка — Гарлахвацкі ды і ўсе астатнія купалаўцы паказалі найвялікшае майстэрства. Былі ў тыя часы «пільныя» талмудзісты і дактрынёры, якія імкнуліся зняславіць і забараніць гэту п'есу. Але народ горача яе ўспрыняў.

Я працаваў вясковым настаўнікам, завочна вучыўся ў інстытуце, прыязджаў на сесіі ў Мінск. І заўсёды імкнуўся не прапусціць ніводнай пастаноўкі ў купалаўскім тэатры. У 1938 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, а пазней я прыехаў у Мінск. Вось тады я і пазнаёміўся з Кандратам Кандратавічам. Высокага росту, заўсёды сур'ёзны, з суровым тварам. Аж страшнавата было: не такім я ўяўляў любімага сатырыка. І толькі калі мы разам былі на Бранскім фронце ў 1941 годзе, я зразумеў, які ён мужны, спра-

вядлівы, добры і верны таварыш; чалавек вялікіх ведаў, культуры і... рэдкай дасціпнасці.

Але перш чым трапіць на Бранскі фронт, Кандрат Кандратавіч удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне. Вось што пазней мне расказаў Аляксей Аляксандравіч Суркоў: «Я прыехаў у адну дывізію як карэспандэнт «Красной звезды». Папрасіўся ў лепшы полк. Мне назвалі. «А ў тым палку служыць камандзірам роты капітан Атраховіч. Таксама пісьменнік». Мне гэта прозвішча ні пра што не сказала. Паехаў у полк. Пагаварыў з людзьмі, а пад канец папрасіў: «Вызавіце капітана Атраховіча». Праз некаторы час у заснежаным шынялі з'явіўся... Кандрат Кандратавіч Крапіва. А я і забыў, што Крапіва — псеўданім. Пазней я папрасіў у вышэйшага начальства, каб яго перавялі ў іншае месца, даў поўную атэстацыю як пісьменніку, чалавеку».

Мяне Айчынная вайна застала ў Беластоку. Пасля вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь мне загадалі служыць у армейскай газеце 10-й арміі. Многія часці нашай арміі трапілі ў акружэнне. Некаторыя з баямі прабіліся на ўсход. Мы з рэдакцыйнымі машынамі дабраліся амаль да Баранавіч. Але тут усе нашы машыны былі разбомблены. Некаторыя мае таварышы загінулі. Мы, хто ацалеў, ішлі галодныя праз палаючыя Баранавічы, праз дзесяткі разбітых гарадоў і вёсак. Каля Фаніпаля ўбачылі пакінутую палутарку. Сярод вайскоўцаў, якія цягнуліся на ўсход абочынамі дарог, знайшлі шафёра. Заправіліся бензінам у Фаніпальскай МТС, бочку з бензінам ускінулі на машыну і паімчаліся шукаць штаб фронту. Цэлую ноч праездзілі па дымным разбітым Мінску: большасць мастоў была ўзарвана, ваенныя часці пакінулі Мінск. Толькі на поўначы грымела кананада. Як мы даведаліся пазней, там вяла цяжкі бой дывізія генерала Русіянава, якая стала Першай гвардзейскай.

Паехалі па барысаўскай дарозе. Але насустрач імчаліся некалькі грузавікоў з параненымі: пад Барысавам высадзіўся нямецкі дэсант. Скіравалі па прасёлачных дарогах на Магілёў. На паўдарозе спыніліся ў ціхай вёсцы напіцца вады, заправіць машыну. Нас абступілі спалоханыя жанчыны, старыя, дзеці. Што мы маглі ім тады сказаць? «Хутка вернемся». А ў душы — сорам і неразуменне, што ж гэта ў нас робіцца? Жанчыны пачалі нас угаворваць: «Вазьміце некалькі авечак, салдацікі, вы ж галодненькія. А мы не ведаем, куды гэтых авечак гнаць, ды і няма каму...» Звязалі адну, уціснулі на грузавік (а мы садзілі ў машыну толькі тых, хто меў зброю).

Дабраліся ў Магілёў. Тут і быў штаб фронту і палітупраўленне, куды нам было загадана з'явіцца. Я сышоў з машыны, і мне паказалі, дзе знаходзіцца франтавая газета «Красноармейская правда». І першы, каго я ўбачыў на сцежцы, быў Міхась Лынькоў. Міхася Ціханавіча я добра ведаў: ён быў старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі, а яшчэ я сябраваў з яго малодшым братам Рыгорам, часта бываў на яго кватэры па вуліцы Апанскага. Абрадавана паздароўкаліся. Міхась Ціханавіч сказаў:

— Тут і Кандрат, і Барысенка, і Стаховіч. Мы пакуль што служым у «Красноармейской правде». Трэба і цябе туды забраць. Пойдзем да Кандрата...

Тым часам непадалёк пачуліся нейкія крыкі, каманды. А гэта наша развязаная авечка пачала шукаць сваіх і нарабіла шуму.

Кандрат Кандратавіч (ужо страявы маёр, дзве шпалы), паздароўкаўшыся, пажартаваў:

— Гэта ты з Беластоку прывёз барана? Ну і нарабіў ён тут перапалоху: думалі, дыверсант.

Я сціпла зазначыў:

— Гэта авечка.

Далей пачалося франтавое жыццё. На нашых

вачах бамбілі Магілёў. На нашых вачах загінулі спачатку Смаленск, а пасля Гомель. Мы ўжо выпускалі франтавую газету на беларускай мове «За Савецкую Беларусь». Пісалі артыкулы, фельетоны, вершы, рыфмаваныя «шапкі» і «вокны», лістоўкі. Усё гэта лётчыкі закідвалі на часова акупаваную тэрыторыю Беларусі, у партызанскія злучэнні. І тут слова Крапівы вылучалася. Запомнілася: «Гітлер хваліцца, а фрыцы валяцца». Як пазней расказалі нам партызаны, яны выразалі з губкі пячаткі і штампавалі нямецкія загады. Помню яшчэ яго гэткае чатырохрадкоўе:

Хай нямецкія улады
Выдаюць свае загады.
Нам іх цяжка разбіраць,
Будзем с... падціраць.

Вораг заняў Магілёў, Смаленск, Гомель і шмат іншага, дарагога і роднага. Мы (франтавая наша рэдакцыя) апынуліся на Бранскім фронце. З Масквы пад'ехалі да нас Максім Танк, Пятрусь Броўка. Але і на Бранскім нядоўга папрацавалі параўнальна «спакойна». Немцы прарвалі фронт, занялі Арол і Жыздру. Мы выбіраліся з «мяшка» па разбітых гразкіх дарогах. І тут я яшчэ раз падзівіўся з волі, спакою, дысцыплінаванасці і вытрымцы нашых старэйшых сяброў — Лынькова і Крапівы. Аднойчы ўночы наша машына са шрыфтамі перакулілася. Некаторыя вельмі нервовыя людзі закрычалі: «Кідайце, а то трапіце ў рукі немцаў». Лынькоў і Крапіва (ён адказваў за стан нашай зброі і сховы рэдакцыі) разаслалі брызент, і ўсе мы выграблі на яго шрыфты з граззю. Пасля адмылі бензінам. Так была выратавана наша паходная друкарня.

Апынуліся ў горадзе Мічурынску. На душы было цяжка. Большасць з нас не ведала пра лёс сваіх родных, і тут нас усцешыла першая радасць: па радыё

перадалі загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага аб перамозе нашых войск пад Масквой. І што тут рабілася! Крычалі «ўра», падкідвалі шапкі, абдымаліся. Сыпаў снег (наогул, зіма сорак першага была вельмі лютая), але мы ўсёй франтавой сябрынай сходзілі на магілу Мічурына, ушанавалі ў такі радасны дзень памяць вучонага.

Хутка Кандрата Кандратавіча і мяне выклікалі ў Ялец, дзе быў тады штаб і палітупраўленне фронту.

Ехалі даволі хутка: Кандрат Кандратавіч у кабіне, я — у кузаве. Хлопцы раздабылі мне кажух. Начальнік палітупраўлення генерал Пігурноў з добрымі словамі і пажаданнямі ўручыў Крапіве білет члена ВКП(б), а мне — кандыдацкую картку, тут мы і даведаліся, што нашу рэдакцыю адклікаюць у рэзерв ГлаўПУРККА, у Маскву. У палітупраўленні было ў нас многа сяброў, у тым ліку і беларусаў. Набліжаўся Новы год. З тылу на фронт прыслалі шмат навагодніх падарункаў. Нас нагрузілі і каўбасой, і салам, і цукрам, і тым-сім мацнейшым. Сябры пасядзелі з намі за сталом, павіншавалі нас і пажадалі добрай дарогі і перамогі. Вось тады Кандрат Кандратавіч і сказаў мне:

— Называй мяне на «ты», а то няёмка: мы ўсе паміж сабой на «ты», а ты ўсё мне «вы» ды «вы». Мы ж франтавыя сябры.

А мне было няёмка: розніца ў 21 год. І я яшчэ не адзін раз блытаўся, бо вельмі паважаў старэйшага сябра, пакуль гады не зблізілі нас.

Вярталіся мы ўночы. Дарогу замяла завіруха. Я захінуўся ў кажух і праспаў да самага Мічурынска. Наш шафёр пасля расказаў: «Мы з Кандратам Кандратавічам чатыры разы раскапвалі дарогу, я хацеў вас пабудзіць, але Крапіва не дазволіў».

Пра Крапіву, пра наша франтавое жыццё можна напісаць цэлую кнігу. Пасля Масквы я трапіў на

Калінінскі фронт, у 1943 годзе служыў на Паўночна-Заходнім, а потым у Іране.

Кандрат Кандратавіч і іншыя нашы «старыя» засталіся ў Маскве пры Цэнтральным штабе партызанскага руху, выдавалі плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну», пісалі лістоўкі, вершы, фельетоны, артыкулы.

Віншуючы мяне з 40-годдзем Перамогі, Кандрат Кандратавіч з уласцівай яму сціпласцю напісаў: «Мы хоць і не здабывалі перамогу, але дапамагалі чым маглі».

Я дэмабілізаваўся з арміі ў лютым 1946 года. Крапіва тады рэдагаваў «Вожык». Запрасіў на працу і мяне. Я з радасцю згадзіўся, тым больш што там працаваў і адзін з лепшых маіх сяброў Максім Танк. Мы працавалі весела і дружна. Прыйдзе Кандрат Кандратавіч і запытае: «Ну, многа сёння нарагаталі?» Не вельмі. І вось возьме аловак сам майстар. Пераставіць слова, дадасць сказ — і матэрыял зайграе.

А ў сакавіку 1946 года мы спраўлялі 50-годдзе Крапівы. На яго кватэры. Жыў ён тады на Старажоўцы, у драўляным дамку. Сабраліся франтавыя сябры. Было шмат жартаў, эпіграм, вясёлых віншаванняў. У той час зноў ажылі, ірваліся да ўлады вульгарныя крытыкі, аглабельшчыкі, якія шмат псавалі крыві нашым старэйшым пісьменнікам, нашым настаўнікам. Але мы хутка далі ім адпор. Успомнілі на тым вечары радкі самога юбіляра:

Крытык, родненькі, даруй
Мне з маёю музай.
Кіраваць-то ты кіруй,
Ды не вельмі тузай.

Пасля вайны Крапіва быў дырэктарам акадэмічнага інстытута, віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР. З'явіліся новыя вершы, п'есы. Праз кожныя 10 гадоў мы ўрачыста адзначалі яго юбілей. Ён смяяўся: «Я прывык да юбілеяў».

У нас з'явіліся ўнукі, а ў Кандрата Кандратавіча — і праўнукі. Сустракаліся радзей. Але ён застаўся чулым і ўважлівым да сваіх сяброў. Я ў Іране захварэў на трапічную малярыю. У Мінску вылечыўся, але яна тады-сяды вярталася да мяне.

У 1956 годзе выйшаў першы Збор твораў К. К. Крапівы. Ён прыслаў мне тамы і зрабіў такі надпіс:

«Дарагому Пімену Панчанку са шчырым пажаданнем —

Каб яго трасуха болей не трэсла —
Не выкідвала з творчага крэсла,
Каб ён здаровы быў і бадзёры,
Як яго творы».

Кандрат Крапіва — адзін з найглыбейшых знаўцаў жыцця беларускага народа. Сапраўдным жыццём, яго праблемамі, канфліктамі, характарамі дыхае кожны твор выдатнага пісьменніка — і паэтычны, і драматургічны, і празаічны. Ён і думае па-народнаму. Колькі рассыпана ў яго творах народных прыказак, прымавак, ды і тыя, што прыдумаў сам пісьменнік, здаюцца нам такімі блізкімі і роднымі, нібы прыйшлі з беларускага фальклору. Ён заўсёды высока цаніў і цэніць тых пісьменнікаў, творы якіх напісаны багатай сакавітай мовай. Яго вострае пяро высмейвала тых, хто піша неахайна і надумана, беднай і невыразнай мовай.

У адной з апошніх па часе п'есе «Брама неўміручасці» Крапіва выкрывае кар'ерыстаў і прыстасаванцаў, якія нахабна хочуць найперш стаць у чаргу па эліксір неўміручасці. І толькі пажылая калгасніца просіць гэты эліксір для сваёй кароўкі, бо малако патрэбна і дзецям, і ўсім людзям.

Успамінаецца лета 1956 года, калі мы жылі ў Доме творчасці «Каралішчавічы», які пасля набыў імя Якуба Коласа.

Сядзелі мы ўтрох: Крапіва, Макаёнак і я, размаў-

лялі пра надзённыя падзеі, пра розныя праявы пасляваеннага жыцця. Раптам да вялікага дома пад'ехала знаёмая нам машына. Прыехаў Якуб Колас. Ён доўга хварэў, лячыўся ў Маскве. Мы з радасцю прывіталіся з Канстанцінам Міхайлавічам. Ён прыехаў па нейкай справе да Броўкі, але таго не было.

— Можа, мы ўтрох заменім Петруся,— пажартаваў Кандрат Кандратавіч.

Мы доўга сядзелі з любімым народным паэтам у пакоі Крапівы, стараліся развеяць яго благі настрой, бо Колас сказаў, што ён хутка памрэ...

Калі Канстанцін Міхайлавіч паехаў, Крапіва нам сказаў:

— Калі б не было Купалы і Коласа, то не было б ніякай беларускай літаратуры. Усё жыццё мы павінны ў іх вучыцца, як жыць і пісаць.

На вялікі жаль, прадчуванне Коласа збылося: праз два тыдні ён памёр.

# ВЫДАТНЫ МАЙСТАР ПАЭЗІІ

Новы час, новыя абставіны патрабавалі свайго песняра. Бялінскі некалі пісаў: «Паэт, болей чым хто-небудзь, павінен быць сынам свайго часу».

Такім паэтам свайго часу, свайго пакалення стаў Аркадзь Куляшоў.

Мне кожны год, нібы жыццём другім,
Жыць у дваццаты век наш давялося...
Я — акіяну жытняга калоссе:
Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,
Яшчэ да дна не вычарпаным, лёсе.

Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў нарадзіўся 6 лютага 1914 года ў Саматэвічах на Магілёўшчыне ў сям'і сельскіх настаўнікаў.

Друкавацца Куляшоў пачаў у дванаццаць год. Да вайны выйшла некалькі яго паэтычных кніг. Ад празрыстых, бясхітрасных, але не прымітыўных ранніх вершаў да сапраўдных шэдэўраў паэзіі, такіх як «Юнацкі свет», «У зялёнай дуброве», «Сцяг брыгады», «Прыгоды цымбал», «Толькі ўперад», «Манаълог», «Цунамі», «Новая кніга», «Варшаўскі шлях», «Хамуціус»,— такая дарога яго паўвекавой дзейнасці.

Жыццёвыя падзеі, з'явы, якія даследаваў паэт, неабдымныя па шырыні і разнастайнасці ахопу. Сонечны, непаўторны свет юнацтва, дружбы, кахання, пакуты людзей на імперыялістычнай вайне, рамантыка і гераізм грамадзянскай вайны, калектывізацыя, Вялікая Айчынная вайна, космас і думы пра будучыню — вось няпоўны пералік тых падзей нашага жыцця, да якога дакранулася неспакойнае пяро Куляшова.

Можна без перабольшання сказаць, што паэзія Аркадзя Куляшова — духоўная энцыклапедыя яго пакалення. Яна палымяная, высокаграмадзянская.

Вершы і паэмы Куляшова не старэюць, бо, увабраўшы ў сябе канкрэтныя прыкметы нашага часу, авеяны подыхам вечнасці.

Самабытны паэтычны голас Куляшова — гэта свет новага жыцця, свет сумеснай працы, свет аптымізму і радасці, свет чалавечай адкрытасці, дабрыні і спагады.

Выбух маладых вясновых пачуццяў, сваточнасці ў паэзіі Куляшова трыццатых гадоў быў вельмі прывабным, асабліва для моладзі.

Для Аркадзя Куляшова на працягу ўсяго творчага шляху характэрны вернасць некаторым тэмам, пастаянства яго глыбокага пачуцця да роднай зямлі — «малой радзімы». Адзін мудрэц некалі сказаў: «І малая радзіма — таксама вялікая, бо яна адзіная».

У паэзію Куляшова ўвайшлі, як жывыя, адухоўленыя істоты, і магілёўская хмарка, і родныя бары, і ельнікі, і рэчкі маленства і юнацтва — Бесядзь і Віхра. Невялікая, але дарагая сэрцу паэта Бесядзь пройдзе праз усё яго жыццё ў паэзіі.

Другая скразная тэма паэзіі Куляшова — гэта ўслаўленне дружбы, сяброўства, кахання. З далёкіх юнацкіх гадоў дайшоў да нас верш пра Алесю, акрылены музыкай Ігара Лучанка,— стаў цудоўнай песняй, якую палюбіў увесь народ.

Пазней Куляшоў напіша ўсхваляваны і горкі «Маналог», прысвечаны памяці сяброў юнацтва Змітрака Астапенкі і Юлія Таўбіна. У паэме «Далёка да акіяна» ён маляўніча апіша і родную хату, і маці, да вобраза якой будзе неаднойчы вяртацца з сыноўняй любоўю ў вершах розных гадоў:

Я хаце абавязаны прапіскаю —
Калыскаю, падвешанай пад столь.
Я маці абавязан кожнай рыскаю,
Драўлянай лыжкаю, глінячай міскаю —
Усім, чым працы абавязан стол.

Напіша і «Варшаўскі шлях», паэму вялікай сілы, глыбіні і шчырасці пра свайго сябра Аляксандра Твардоўскага.

Вось як малюе ён вобраз паэта:

З рукамі каваля, з душой жняі,
Не раз ён тут салдатам нёс уцеху
І жартам весяліў іх, каб яны
Забыліся на змрочны жарт вайны...
...Не раз, стаіўшы плач зямлі сірочай,
Ён іх на подзвіг зваў сваёй прарочай,
Чарнарабочай кнігай пра байца,
Не ўсімі дачытанай да канца...

Яшчэ адна скразная тэма паэзіі Куляшова — гэта вайна. Прысвечаныя гэтай тэме паэмы «Крыўда» і «Хлопцы апошняй вайны», напісаныя ім у маладыя гады. Нягледзячы на некаторую адцягненасць сюжэтаў гэтых паэм, асобныя эпізоды здзіўляюць дакладнасцю перажыванняў людзей на вайне.

У перадваеннай лірыцы паэт усё болей і болей задумваецца пра тое, што будзе, «калі вайна мой мірны край агорне».

І вось гітлераўская Германія напала на Савецкі Саюз. Беларусь захлынулася ў агні і крыві. Пачаўся смяротны бой народа з фашыстоўскай навалай.

Куляшоў, шукаючы ваенкамат, пеша прайшоў шлях ад Мінска да Оршы, цягніком даехаў да Калініна, дзе добраахвотна ўступіў у рады Чырвонай Арміі. З Калініна быў пасланы ў ваенна-палітычнае вучылішча пад Ноўгарадам, а адтуль накіраваны на службу ў армейскую газету «Знамя Советов», дзе і праслужыў самыя цяжкія часы. Ён на ўласныя вочы пабачыў усё нязмернае гора нашага народа, суцэльныя руіны гарадоў і вёсак, непамерна горкія страты.

Тады і былі напісаны вершы «Над брацкай магілай», гэты мужны рэквіем па загінуўшых байцах;

«Ліст з палону», верш, поўны глыбокага гора, але і вялікай чалавечай годнасці. Тады ж былі напісаны вершы «Балада аб чатырох заложніках», «Маці», «Камсамольскі білет» і іншыя.

Па сіле ўздзеяння на чытача гэтыя вершы былі аднымі з мацнейшых, напісаных паэтамі-франтавікамі. Яны друкаваліся як у франтавой беларускай газеце, так і ў цэнтральным друку. На ўсіх франтах воіны-беларусы паўтаралі пранікнёныя радкі паэта:

Беларусь мая родная,
Як жа рвуся яшчэ раз
Пеша ўсю цябе змераць,
Увесь і чабор твой і верас!
Сэрца просіць шляхоў,
Што цяжкім маім ботам пад сілу;
Наглытацца хачу за сябе і за тых,
Што не ўстануць з нябыту;
Вочы просяць нябёсаў тваіх,
Ім твайго не хапае блакіту.

У 1942 годзе на Калінінскім фронце Аркадзь Куляшоў напісаў сваю славутую паэму «Сцяг брыгады».

Аляксандр Твардоўскі, які быў адным з першых чытачоў гэтай паэмы, пазней, у 1946 годзе, так пісаў пра яе: «...паэма гэта была голасам сэрца, поўнага болю за родную беларускую зямлю, плачам па ёй і гарачай светлай веры ў яе сілы да барацьбы, у яе вызваленне. І гэты голас прагучаў яшчэ тады, калі не толькі ўся Беларусь знаходзілася пад гнётам нямецка-фашысцкіх захопнікаў, але і многа рускай зямлі на ўсход ад яе...»

Карціны разбуранай Беларусі напісаны Куляшовым з вялікай эпічнай сілай. Вось жытнёвае поле ваеннага часу:

Пакасілі яго кулямёты,
Усё пакасілі,
А тупыя фашысцкія боты
Яго малацілі.

Танкі гусеніц жорнамі
Жыта пасля памалолі,
Коні потныя, чорныя
Хлеб замясілі на полі,

Кроў была ім дражджамі,
Палілі агнём і жалезам,
І ляжыць камянямі
Хлеб з пякарань фашысцкіх за лесам.

Паэма вабіць вобразамі мужных людзей, якія ненавідзелі фашызм і гераічна змагаліся з ім. Гэта Рыбка, Зарудны, ляснік з лесвічыхай і той басаногі пяцігадовы хлопчык Васілёк, якому Алесь Рыбка аддаў апошні хлеб і які «прабег па халоднай зямлі» і па сэрцы паэта.

«Сцяг брыгады» быў перакладзены на рускую мову і дзесяткі моў іншых народаў.

«Сцяг брыгады» стаў вялікім дасягненнем усёй савецкай паэзіі ваеннага часу. Гэта сапраўды народная паэма — адна з вяршынь творчасці Аркадзя Куляшова. Яна аказала значны ўплыў на творчасць паэтаў многіх народаў.

Другая вяршыня творчасці Аркадзя Куляшова — гэта «Новая кніга». Шырока разгарнуліся маштабы паэзіі Куляшова: ад акіяна да космасу. Як нідзе, тут шчыльна спрасаваны глыбокія думкі і пачуцці аўтара. Майстэрскі напісаныя, чаканыя строфы паэта ўмясцілі ўвесь боль, гнеў і надзеі нашага часу. Паглядзіце, як актуальна гучаць яны і сёння:

Ні перад злом, ні перад крывадушшам
Сцяг белы я ніколі не ўзніму.
Пазбавіўшы ад грознага відовішча
Свет, не дазволю я, каб дым і пыл
Зямлю ператварылі ў бамбасховішча,
Мільярд прапісак — у маўклівы прысак,
Мільярд калысак — у мільярд магіл.

Амаль сто гадоў назад вядомы французскі пісьменнік Жуль Рэнар пісаў: «Талент — пытанне коль-

касці. Талент не ў тым, каб напісаць адну старонку, а ў тым, каб напісаць іх трыста. Дужыя не хістаюцца. Яны садзяцца за стол, яны карпеюць. Яны давядуць справу да канца, яны спішуць усю паперу, яны звядуць усё чарніла. Вось у чым адрозненне людзей таленавітых ад маладушных... Літаратуру могуць рабіць толькі валы. Самыя магутныя валы — гэта геніі, тыя, што не пакладаючы рук працуюць па васемнаццаць гадзін у суткі. Слава — гэта бесперапынныя намаганні».

Можна аспрэчваць гэтае сцвярджэнне. Але ў ім многа праўды.

У адным вершы Аркадзь Куляшоў так і напісаў: «Я — вол...»

Сапраўды, Аркадзь Аляксандравіч быў вялікі і нястомны працаўнік. Ён напісаў сотні вершаў, каля дваццаці паэм. Перакладаў на беларускую мову кнігі Пушкіна, Лермантава, Катлярэўскага, Лангфела, Ясеніна, Куліева, асобныя творы Шаўчэнкі, Маякоўскага, Твардоўскага, Пракоф'ева, Рыльскага, Малышкі, Нагнібеды, Гамзатава і іншых.

Яму былі прысуджаны дзве Дзяржаўныя прэміі СССР, Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы, прэмія Ленінскага камсамола Беларусі.

Пры жыцці паэта на беларускай, рускай і мовах братніх народаў выдадзена 93 яго кнігі.

Паэзія Аркадзя Куляшова з гадамі не старэе, а набывае яшчэ большую моц, сілу і хараство. Яго вершы і паэмы — адзін з самых каштоўных скарбаў нашай літаратуры.

Суровая, але чалавечная, крыштальна праўдзівая, вогненная і пяшчотная, напоеная ўсёй духмянасцю беларускай зямлі, паэзія Аркадзя Куляшова будзе жыць. Яго імя — у тым вялікім сузор'і, дзе гараць і свецяць зоркі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

# СЫН ПАЛЕССЯ

Летам 1939 года мы, група маладых беларускіх пісьменнікаў, пабывалі ў творчай камандзіроўцы на Украіне. Гэта была наша першая творчая камандзіроўка. Сярод нас былі І. Грамовіч, У. Краўчанка, Р. Няхай, У. Кандраценя і я. Ад Мазыра плылі па Прыпяці, пасля па Дняпры да Кіева.

Кіеў нас зачараваў і ўзрушыў. Мы сустракаліся з М. Рыльскім, І. Качаргой, маладымі ўкраінскімі пісьменнікамі, хацелі сустрэцца з А. Малышкам, творчасць якога мы ўсе тады любілі, але Андрэй быў у ад'ездзе. У Адэсе мы ўпершыню ўбачылі мора. Тут мы да таго разгуляліся, што большасць хлопцаў растраціла ўсё да апошняга рубля. Мне давялося даць тэлеграму старшыні нашага пісьменніцкага саюза, каб тэрмінова выслаў у Адэсу грошы на білеты дадому. На другі дзень грошы мы атрымалі.

У Мінску каля Дома пісьменніка я сустрэў Кузьму Чорнага. Ён заклапочана запытаў: «Што, абакралі?» — «Ды не, па нявопытнасці растрацілі ўсе грошы». Гэта ж пытанне задаў мне і Міхась Лынькоў. Я вінавата прызнаўся ва ўсім. «Дык вось што, вьюнаш, з першага ганарару тваёй кніжкі будзе ўтрымана гэтая тысяча». Пазней, калі мы былі разам на Бранскім фронце, Міхась Ціханавіч жартам не раз прыпамінаў: «Пасля вайны абавязкова ўтрымаюць з твайго ганарару адэскую тысячу».

А летам 1939 года ў Мінску праходзіла нарада маладых пісьменнікаў. Нас папрасілі выступіць. Мы з усёй красамоўнасцю расказвалі пра дзівосную зямлю Украіну, пра яе вішні (якраз тады вішні даспелі), прыгажосць украінскіх гарадоў, палёў, стэпаў, рэчак;

пра прыгажосць дзяўчат, пра Уладзімірскую горку і славутую Сафію...

З таго часу мы на ўсё жыццё палюбілі Украіну і яе прыгожых людзей, яе паэтаў і пісьменнікаў.

...У часе перапынку да мяне падышоў прыгожы высокі хлопец і пазнаёміўся — Мележ. Я ўжо трохі чытаў вершы маладога паэта Івана Мележа.

— Ну як спадабалася Вам нашае Палессе?

[redacted] сказаў:

— Прыгожае, але мы мала што ўбачылі. А вось Прыпяць і прыгожая, і зялёная, і паўнаводная.

Пасля гэтай сустрэчы мы не бачыліся з Мележам гадоў дзесяць, калі не больш: паход па вызваленню Заходняй Беларусі, два гады жыцця ў Беластоку, пяць франтоў Вялікай Айчыннай вайны і, нарэшце, спякотны Іран. Дэмабілізаваўся з арміі ў 1946 годзе.

Мінск ляжаў у руінах, і [redacted] хадзіў пратаптанымі ў попеле сцежкамі і ўспамінаў, дзе што было. Вечарамі збіраліся франтавыя сябры, бралі па добрай чарцы і бясконца ўспаміналі пра нашы ваенныя гады, успаміналі, хто дзе загінуў, хто ацалеў у гэтым ліхалецці. Сярод новых імёнаў называлі Янку Брыля і Івана Мележа. «Паэт Іван Мележ?» — пытаўся я. «Не, празаік Іван Мележ, вершаў ён не піша».

Так я даведаўся, што Іван Мележ жывы, але цяжка паранены, закончыў універсітэт і аспірантуру і стаў выкладчыкам роднага універсітэта. Пазней ён працаваў у рэдакцыі «Полымя». Вось тут мы сутракаліся часцей і ён мне шмат расказаў пра ваенныя гады, пра шпіталь, пра сваю працу над апавяданнямі і аповесцямі.

Мне падабаліся яго «Гарачы жнівень», «У завірусе» і не вельмі спадабаўся «Мінскі напрамак». Пра гэты раман я ўнікаў гаварыць. І раптам даведаўся, што ў пачатку 70-х гадоў ён карэнным чынам пачаў перапрацоўваць «Мінскі напрамак». Вось тут ён мне

задаваў многа пытанняў: як у 39-м годзе выглядаў Мінск, як жылі людзі, што гаварылі, які ў іх быў настрой. А людзі ў 1939 годзе пачалі жыць значна лепш. Я пераехаў з Кіраўскага раёна ў Мінск і працаваў у газеце «ЛіМ», праўда, нядоўга. Людзі верылі, што вайны не будзе, нават расказаў Мележу тагачасны анекдот. На месцы, дзе цяпер Дзяржаўны банк, размяшчалася консульства Польшчы. Гітлер напаў на нашу заходнюю суседку. Пачалася другая сусветная вайна. Да міліцыянера, які ахоўваў Польскае консульства, падышоў п'янаваты чалавек:

— Чаго ты тут стаіш?

— Проходите, гражданин, проходите...

— Эх ты, газетак не чытаеш!

А ў газетах шмат трывожных паведамленняў, але ніводнага ганьбавання гітлераўскіх захопнікаў не было. Слова фашыст было забаронена.

Я тады кватараваў у добрай гаспадыні, якая была каталічкай. Калі я прыходзіў дадому, яна заўсёды пыталася: «Што новага з Польшчай?» У тагачасным клубе пісьменнікаў людзі ведалі «пра ўсё». Вось я дакладваў гаспадыні і пра Польшчу, і пра іншыя еўрапейскія падзеі. Гаспадыня кляла Гітлера і пасля доўга малілася за палякаў.

Пра наш быт 39-га года, пра настрой людзей я расказваў Мележу. Адважыўся і сказаў, што мне не падабалася ў «Мінскім напрамку». Ён, здаецца, не пакрыўдзіўся.

Але перада мной быў ужо другі Мележ. Пісьменнік, які напісаў «Людзей на балоце», быў на дзве галавы вышэй за ўсіх нашых празаікаў. Нарадзіўся выдатны мастак, са сваім голасам, з яркімі фарбамі, з непаўторнымі чалавечымі характарамі Васіля, Ганны, Апейкі, Глушакоў, Башлыкова і іншых. На нас дыхнула вялікай праўдай жыцця, нас зачаравала казачнае Палессе дваццатых гадоў.

Слава імгненная і невыпадковая. Мележ гэта добра адчуваў і нават трохі іранізаваў над гэтым.

19 мая 1962 года ён падпісаў на сваім рамане «Людзі на балоце»: «Сталічнаму чалавеку Пімену ад чалавека з балота — з дружбаю і любоўю» Іван Мележ.

Мележ многа працаваў над кожным творам і з пагардай гаварыў пра тых, хто паспешліва адгукаўся на актуальную тэму: «Ні праўда, ні майстэрства тут не начавалі».

Неяк аднойчы раней часу прыехалі мы на пленум СП у Маскву. Не было вольных нумароў, і нас пасялілі ў гасцініцы «Масква» ў двухпакаёвы нумар. Зранку да Мележа прыйшла рэдактар (кніга «Людзі на балоце» мелася выйсці на рускай мове). Жанчына-рэдактар гаварыла гучна, і мне ўсё было чуваць. Давялося пачуць недарэчнасць перакладчыка і проста непісьменнае дзікунства і здзек над беларускай (асабліва палескай) мовай. Я сабраўся ісці па сваіх справах. За дзвярыма мяне дагнаў Іван: «І табе, пэўна, непрыемна чуць мой раман на такой фантастычнай мове. Буду шукаць новага перакладчыка, замест Гарбачова. Мне сёння абяцалі нумар. Табе будзе спакайней».

Яшчэ слава Мележа пабольшала пасля надрукавання «Подыху навальніцы». Тут загучала сапраўдная трагедыя беларускага народа. Іван Мележ, здаецца, напісаў пра Палессе так, як ніхто да яго не пісаў. Дыхнула прыгажосцю туманных земляў, цяжкой бесперапыннай працай і горкай радасцю маладых палешукоў. Вось тут і прыпомнілася тое, што часта паўтараў Іван Паўлавіч у сваіх артыкулах і прамовах: «Знайсці сябе», «Трэба шукаць свой шлях».

Ён гэты шлях і сябе знайшоў. І што важна, героі палескай хронікі Мележа не палескія правінцыялы, а агульначалавечыя тыпы. Роздум, боль і радасць,

спадзяванні і надзеі былі блізкія для сялян усіх народаў, усіх краін.

З 1966 года мы працавалі разам з Іванам Мележам сакратарамі праўлення СП БССР. Праца нас яшчэ больш зблізіла. Іван цярпець не мог некаторых кіраўнікоў нашага саюза і заўзятых выступальшчыкаў і дробязнасці пытанняў, якія мы абмяркоўвалі на сходах і секцыях. А вось выступленні самога Мележа заўсёды поўніліся турботай пра стан і якасць нашай літаратуры. Калі хто-небудзь пачынаў са слоў: «Выконваючы рашэнні з'езда...», Мележ шаптаў мне на вуха: «Пачалося чарговае пустазвонства».

Аднойчы летам мы адпачывалі з Мележам у Крыме, у санаторыі «Беларусь». Ён пісаў пра мора, хвалі, штормы і тое-сёе прачытаў мне. Я заўважыў, што сонца і, наогул, святло ў яго няправільна апісана. Ён пачаў злавацца. Тады я прапанаваў адшукаць нашага добрага знаёмага шахматыста грасмайстара Суэціна, які меў маску для падводнага плавання і ўвесь час нырає глыбока ў мора. Суэцін пацвердзіў правільнасць маіх заўваг. Яшчэ нямала і дадаў новых. У «Крымскіх малюнках» усё зменена. У раздзеле «Хочацца падужацца» ён расказвае, як штармавыя хвалі аднеслі яго далёка ў мора і як ён перажыў цяжкія хвіліны свайго дужання з бурлівым морам, пакуль праз некаторы час не выкінула яго на бераг.

Я глыбока веру ў праўдзівасць большасці твораў Мележа, але на гэты раз аўтар, улюбёны ў марскую стыхію, залішне пафантазіраваў. Я гэта добра ведаю, бо сам добра плаваў і нырає у неспакойныя хвалі на тым жа крымскім беразе.

Незабыўным было падарожжа на Нарач і плаванне на параходзе па славутым возеры.

Іван Паўлавіч любіў працаваць ноччу. Гэты недахоп быў і ў мяне. І ён часта у гадзін 11—12 званіў, спачатку спытаўшыся: «Твае ўжо паснулі?» Гаварылі мы

і пра літаратуру, і пра жыццё. Яго злавала самаўпэўненасць бюракратаў, літаратурных алілуйшчыкаў і звычайная халтура, якая завалодвала нашымі выданнямі. Мележ не любіў доўгіх, шматдзённых паездак, але на юбілей М. Горкага ён паехаў з радасцю. На параходах з Масквы адплыла ў Горкі вялікая дэлегацыя пісьменнікаў. Тады на параходзе я пазнаёміў Івана Паўлавіча з Георгіем Маркавым, які працаваў першым сакратаром СП СССР. Маркаў прачытаў раманы Мележа — вынікі цяпер вядомыя.

Іван Паўлавіч любіў сялянскую працу, сялянскую мудрасць і родны вясковы побыт. Аднойчы ён забыў на дачы нейкі матэрыял: «Давай з'ездзім на дачу, паглядзіш, як я жыву, гэта зойме мала часу, і ты паглядзіш мой сад». Усё было хутка зроблена, і пад канец Іван пачаў расказваць ледзь не пра кожнае дрэўца саду. Убачыўшы нешта на маім твары, ён сказаў: «А ўсё-ткі я больш селянін за цябе». І нібы выпадкова ўспомніў: «У цябе ёсць цудоўны радок: «Якая непаўторная паўторнасць...» Я пра гэты верш ужо і забыў, але Іван, мне здаецца, злавіў галоўнае ў жыцці селяніна: кожны год паўтараюцца сяўба, сенакос, жніво, шматлікія сялянскія турботы. І заўсёды ўсё гучыць па-новаму.

У 1971 годзе быў залаты юбілей Івана Паўлавіча. Вечар адбыўся ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Сабралося многа прыхільнікаў таленту Мележа. Прыехалі землякі. Усхвалявана выступалі пісьменнікі, у тым ліку і Еўдакія Лось. Я прачытаў верш, прысвечаны юбіляру, «Зямля бацькоў»:

А на Палессі ўсё нядробна:
Цяжкая спадчына вякоў,
Цяжкія рукі хлебаробаў,
Цяжкія сны палешукоў.

Якую трэба мець адданасць
І сэрца сынава, каб так

Любіць палескі край туманны
І маці бедны андарак.

Якую мужнасць мець патрэбна,
Каб хуткасці наперакор
Уваскрасіць і воблік зрэбны
Сяла, і водбліск даўніх зор.

Нас б'е па сэрцах паскарэнне,
Сціскаюцца прастора, час.
А матчынай зямлі карэнні
Ніколі не адпусцяць нас.

Хвалюючае падабенства!
Старонкі Мележа кранi —
І з небыцця, з майго маленства
Мае узнікнуць Куранi.

І час імклiва незваротны
Мастак ізноў вяртае нам,
І ажывае ўладна роднасць,
Хоць я з мясцін інакшых сам.

Пад навальнічы подых рэзкі
Я пад буслянкаю стаю
І ў ціхай вёсачцы палескай
Сябе малога пазнаю.

І, навальніцаю абмыты,
Па сцежцы, як па паяску,
Іду па лузе аксамітным
Ля выспаў белага пяску.

Развеяўся настрой паганы,
Каліны зноў цвітуць мае.
І свеціць мне усмешка Ганны,
Любоў яе і боль яе.

Зямля бацькоўская, святая.
Так, гэта мы. Увесь народ...
Мне ў сэрца бусел залятае
З трывожных прыпяцкіх балот.

Дзяўчаты з Палесся спявалі любімыя песні Івана Паўлавіча: Але я здзівіўся: чаму яго землячкі

апранутыя ў сарафаны і какошнікі. Напэўна ж, у матчыных куфрах захаваліся ўборы беларускай палескай красы.

— Ат, прыслалі па разнарадцы.

Так некаторыя дурныя дзеячы хацелі прывіць беларусам рускую культуру. Гэта непрыемна ўсхвалявала Мележа, але агульны добразычлівы настрой людзей хутка зноў перадаўся яму.

А мне давялося пахваляваццa крыху пазней, пасля смерці Івана Паўлавіча. Наша радыё запісала ўсе выступленні, гарачыя пажаданні, але не запісала хвалюючае разумнае выступленне самога Івана Мележа: не хапіла плёнкі. Такая безадказнасць і бязладдзе пакінулі нас без жывога мудрага слова Івана Паўлавіча Мележа ў юбілейны вечар.

Іван Мележ з павагай ставіўся да працавітых людзей, у тым ліку і да пісьменнікаў, быў начытаны і ў жыцці мне запомніўся як сапраўдны інтэлігент. Мележ быў сапраўды народным пісьменнікам. І нагрузку на яго ўскладалі заўсёды вялікую. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, быў старшынёй Беларускага камітэта міру, а таксама старшынёй аддзялення таварыства СССР — Францыя.

Я помню дзіцячую радасць на твары Івана, калі ён, прыехаўшы з Францыі, паказваў мне медаль, на якім было выбіта — Івану Мележу.

Калі мы бывалі на з'ездах пісьменнікаў у Маскве, ён цягнуў мяне за руку і казаў: пойдзем далей ад тлуму. І мы ішлі за Крамлёўскі палац, каб палюбавацца зелянінай і далёкай сінізной Масква-ракі.

У 1976 годзе, пры актыўнай дапамозе Машэрава, быў пабудаваны новы дом пісьменнікаў. З'езд прайшоў удала. Я з Янкам Брылём адпрасіліся на творчую працу. А Іван Мележ яшчэ застаўся сакратаром СП, бо не было больш аўтарытэтнага празаіка.

Аднойчы нам сказалі, што Машэраў запрашае нас

у паездку на верталёце над Палессем. Раніцою мы былі гатовы. У верталёце з непрывычкі стаяў такі гул, што цяжка было гаварыць, але пасля прызвычаіліся. З намі ехалі Пётр Машэраў, Рыгор Кісялёў і вучоны аграном Шавялуха, з пісьменнікаў было нас пяцёра: Максім Танк, Іван Мележ, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак і я.

— Вы добра правялі з'езд, цяпер мы хочам паказаць вам нашы новыя саўгасы на Палессі.

Цікава было глядзець у ілюмінатар на зялёную і блакітную прастору роднай зямлі. У адным месцы мы ўбачылі мноства буслоў, што хадзілі важна па балоце.

— Вось Пімен казаў, што ў нас звяліся буслы,— жартам сказаў Рыгор Кісялёў,— няхай любуецца цяпер...

Мы сядзелі з Максімам Танкам насупраць Машэрава і Кісялёва. Калі яны паснедалі, Машэраў загадаў: «Ану ідзіце снедаць, а мы на ваша мейсца сядзем». Мележ сядзеў пасярэдзіне верталёта з Віктарам Шавялухам і нешта горача гаварыў. Шамякін і Макаёнак сядзелі ў далёкім зацішку і хітра паказвалі нам паўлітэрку. Гэта прапаноўвалі і нам з Максімам, але мы адмовіліся, бо Машэраў не піў і не цярпеў п'яных.

Апусціліся мы ў новым саўгасе. Раённае начальства развесіла карты свайго раёна і падрыхтавалася да справаздачы. Але Машэраў прывітаўся з імі і пайшоў у пасёлак, дзе ставілі новыя драўляныя дамы. Мы пайшлі ўслед. Машэраў перш за ўсё цікавіўся, чым кормяць рабочых, як падвозяць матэрыялы, колькі людзі зарабляюць, чым яны не задаволены. Так, трохі з гвалтам, праяснілася ўся карціна. Мы ўслед за Машэравым хадзілі ў магазін, сталоўку. Цёпла развітаўшыся з рабочымі, мясцовымі начальнікамі, мы ўзабраліся на верталёт і паляцелі ў глыб Палесся.

Праз некалькі хвілін пасля адлёту Машэраў разгарнуў на стале вялікую карту, а потым паклікаў

Мележа: «Ну, паказвай, дзе тваё Глінішча?» Але Мележ разгублена тыцкаў пальцам, а паказаць Глінішча не здолеў. Паклікалі штурмана. Ён трохі нешта распытаў у Мележа і дакладна абазначыў, дзе будзе Глінішча.

— Вось тут і садзіцеся,— сказаў Машэраў. Праз некаторы час верталёт пайшоў на зніжэнне і мы селі ў Глінішчы каля вялікай школы. Не паспелі мы выйсці з верталёта, як сыпанулі сотні вучняў і сярод іх усе настаўнікі. Нас акружылі хлопчыкі і дзяўчаткі з яснымі вачыма. Машэраў прывітаўся і стаў выштурхваць нас у шчыльны вучнёўскі круг.

— Вы ведаеце, хто гэта?

— Іван Мележ — наш зямляк.

— А ці чыталі вы вершы Максіма Танка?

— Чыталі і на памяць вучым.

— А ці атрымлівалі вы двойкі за вершы Пімена Панчанкі?

— Не.

Вось так прайшло знаёмства з юнымі землякамі Мележа ў яго родных Глінішчах, ля школы, якую ён скончыў.

Пасля мы паляцелі далей. Пра ўсё расказваць не буду, а спыніліся мы на ваенным аэрадроме і паабедалі разам з лётчыкамі. Вось тут з ваеннымі лётчыкамі ўзялі па добрай чарцы. Позна вечарам мы, перапоўненыя ўражаннямі, вярнуліся ў Мінск. Мы дзякавалі начальнікам аэрафлоту, а яны адказвалі адно: «Лётайце самалётамі аэрафлоту».

Набліжаўся чарговы Усесаюзны з'езд пісьменнікаў. Мы дамовіліся з Мележам ехаць разам. У цягніку вырашылі, што ляжам спаць раней, бо заўтра будзе нервовы, сумятлівы дзень. Разышліся па сваіх купэ. Але тут з суседняга вагона да нас зайшоў Алесь Адамовіч (аднакурснік па БДУ маёй жонкі Зоі Кірылаўны). Распачаліся ўспаміны, анекдатычныя гісторыі.

Пра сон мы і забыліся. І ў гэты час пастукаўся Іван Паўлавіч (ён пачуў наш рогат з суседняга купэ). Размова яшчэ больш ажывілася (а я ведаў, як цяжка было Івану аднаму апранацца з-за параненага пляча). Доўга за поўнач ліліся размовы. Мой васьмігадовы ўнук, якога мы ўзялі з сабой у Маскву, соладка заснуў. У Маскве Адамовіч спяшыў па нейкай справе і адразу некуды паехаў. А мы з Мележам узялі таксі і паехалі па новым маршруце, каб паказаць унуку цікавыя раёны Масквы. Калі праязджалі раку каля гасцініцы «Украіна», Мележ паказаў на будынак СЭВ і запытаў майго ўнука: «На што гэта падобна?» Унук Андрэй адразу адказаў: «На разгорнутую кнігу».— «Правільна, малайчына, а вось дзед Пімен не здагадаўся».

У Маскве ўсё ішло вядомым чынам: зарэгістраваліся, уладзіліся ў гасцініцу, пабылі на адкрыцці з'езда.

Мележ развітаўся з намі і сказаў, што едзе з Масквы падлячыцца ў Крым. Сустрэнемся, тады дагаворым, што не дагаварылі. Але больш нам сустрэцца не давялося.

Калі мы гаварылі пра яго творчасць, Мележ сур'ёзна казаў: «Хачу аддзячыць свайму народу за ўсё». І гэта ён паўтараў не адзін раз. Я быў здзіўлены, напалоханы, калі ён аднойчы ў тэлефоннай гутарцы мне сказаў: «Пімен, я хутка памру». Я спрабаваў спачатку жартаваць, а потым сур'ёзна з болем даказваў яму, што гэта немагчыма. Але ён у тую апошнюю вясну ўсё часцей паўтараў: «Я хутка памру». Я тады не ведаў, што, акрамя цяжкой раны пляча, у яго зусім хворыя ныркі... Ад аперацыі ён адмовіўся.

Пасля з'езда я з сям'ёю адпачываў у сваім дамку ў Каралішчавічах. І раптам з рэдакцыі «ЛіМа» раздаўся нечаканы, аглушальны званок.

— Памёр Мележ.

Я недарэчна ўсклікнуў:— Як памёр? — але горкая

праўда аглушыла мяне. Я спехам напісаў невялікі артыкул пра Івана Мележа і перадаў у Мінск. На пахаванне Івана Мележа сабралася многа народу каля Дома пісьменнікаў. Прыйшлі: Пётр Машэраў, Рыгор Кісялёў, Аляксандр Кузьмін. Гучалі развітальныя прамовы, сэрца,рэзала жалобная музыка. А ён і мёртвы здаваўся прыгожым, дарагім людзям. Вось тут мяне падвяло сэрца,і па загаду ўрачоў адвялі дамоў. (Дом быў побач.) І я, не выціраючы слёзы, прашаптаў: «Бывай, дарагі сябра!» Так мы развіталіся з адным з самых таленавітых, самых праўдзівых і сумленных пісьменнікаў Беларусі Іванам Мележам. Пасля Кузьмы Чорнага гэта быў другі празаік еўрапейскага маштабу. Маё сэрца апусцела ад непапраўнай страты. Але жыла нязгасная ўпэўненасць, што назаўсёды застанецца ў памяці свайго народа, свайго любімага Палесся — аўтар неўміручай палескай хронікі.

Як незабыўны голас свайго дарагога сябра, берагу ягоны надпіс на першым томе шасцітомніка: «Дарагі Пімен! Адзін з самых радасных успамінаў майго юнацтва — сінія-сінія, чыстыя-чыстыя вочы аднаго, тады малавядомага паэта і яго чыстая, шчырая, светлая кніжка «Упэўненасць». З той пары было многа featuring рознага ў свеце, і былі многія кнігі. Цяпер, азіраючыся, бачу: сінія вочы не ашукалі (хоць за жыццё пабляклі, сталі больш шэрыя): паэзія гэтага ўжо далёка-шырока вядомага «дзеда» — уся надзіва чыстая, шчырая, сардэчная, поўная сумленнасці, дабра да людзей, адданасці ім. Шчасця табе, Паэт! Добрай дарогі далей табе!

Празаік Іван Мележ.

*5/XI — 73 г. Мінск».*

# ПОДЗВІГ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Усе аповесці і апавяданні Васіля Быкава я ведаю, ад першай да апошняй надрукаванай старонкі. Люблю яго творчасць аддана, закахана і яшчэ неяк па-іншаму, па-брацку. Зноў толькі што перачытаў яго чатыры тамы. І «Знак бяды».

Дык чаму ж, перачытваючы такія родныя творы Васіля Быкава, часам ізноў сціскаецца сэрца ад хвалявання і макрэюць вочы? Хочацца пазваць блізкага чалавека і сказаць: «Паслухай, як гэта хораша!»

Так супала, што нядаўна я перачытваў раманы пра вайну Эрнеста Хемінгуэя і яго публіцыстыку. Я гэта пішу не для параўнання ці супрацьпастаўлення. Барані божа! Гэта людзі розных эпох, пакаленняў, сацыяльных і жыццёвых абставін. Адзінае, што яднае нашага выдатнага беларуса з вялікім амерыканцам,— гэта нянавісць да фашызму, да вайны. І яшчэ: амаль аднолькавае разуменне задачы пісьменніка.

Хемінгуэй пісаў: «Пісаць добра — значыць пісаць праўдзіва. А праўдзівасць расказу будзе залежаць ад таго, наколькі аўтар ведае жыццё і наколькі добрасумленна працуе, каб, нават калі ён выдумляе, гэта было як на самой справе». І яшчэ: «Для сапраўднага пісьменніка кожная кніга павінна быць новым пачаткам, новай спробай дасягнуць недасяжнага. Ён заўсёды імкнецца зрабіць тое, што да яго ніхто не рабіў ці што іншыя спрабавалі зрабіць і не здолелі».

А было Васілю Быкаву ўсяго семнаццаць, калі сустрэў вайну. Горкі палын на вуснах і пякучы сорам на сэрцы ў дні адступлення. Смерць на кожнай вярсце, руіны, полымя пажараў, агонь артналётаў, смярдзючы едкі дым ад выбухаў, і ўсюды кроў, у тым ліку і ўласная: два разы паранены. Вайна жахлівая жартаўніца:

як яму цяжка было даведацца, што ён пахаваны ў брацкай магіле пад Кіраваградам, а яшчэ цяжэй было ягонай маці: атрымала пахавальную на Васіля. Але ён, на наша шчасце, выжыў, каб пасля гэтай выклятай вайны, пасля перамогі напісаць для свайго народа і ўсіх людзей зямлі суровую і страшную праўду пра вайну, пра чалавека на вайне, пра народ на вайне.

Прайсці вайну (тым больш сапраўдным актыўным удзельнікам), пабачыць усе пакуты роднай зямлі, пакуты чалавечага цела, убачыць высокія ўзлёты чалавечага духу, салдацкую адвагу і мужнасць, вялікі патрыятызм і самаахвярнасць, убачыць здрадніцтва і праявы страху і баязлівасці — значыць даведацца пра жыццё, пра чалавека амаль усё. А напісаць пра гэта праўдзіва, таленавіта — гэта значыць зрабіць свой вопыт часткаю вопыту ўсяго чалавецтва. Гэта сапраўдны чалавечы і пісьменніцкі подзвіг.

Жыццё ў Быкава было складанае і нялёгкае. Круціліся пад нагамі нядобразычліўцы і зайздроснікі, крытыканы і крыкуны, якія гарлалі: «Ізноў пра вайну? Трэба пісаць больш аптымістычна і пра мірнае будаўніцтва». Былі і такія, якія абвінавачвалі сумленнага пісьменніка чорт ведае ў чым.

Цяпер, можа, каму-небудзь і смешна, і не паверыць: «Няўжо такое магло быць?» Але, як сказаў А. Твардоўскі, «все это было на земле» (дарэчы, Аляксандр Трыфанавіч заўсёды ставіўся да Васіля Быкава чуйна і добразычліва, высока цаніў яго талент).

А народ адразу прыняў Быкава сэрцам, душой і розумам. Франтавікі сказалі: «Гэта праўда. Часамі горкая, але праўда». Наша армія ўзяла аповесці на ўзбраенне. Былыя партызаны і падпольшчыкі, прачытаўшы «Воўчую зграю», «Пайсці і не вярнуцца», «Абеліск», «Круглянскі мост», сцвердзілі: «Гэта праўда».

Моладзь і цяпер зачытваецца «Альпійскай бала-

дай» — гэтым светлым гімнам каханню, які прагучаў у такі трагічны час.

Цяпер Васіль Быкаў — сусветна вядомы пісьменнік. Яго аповесці друкаваліся на дзесятках моў у краінах Еўропы, Амерыкі, Азіі, Афрыкі. У яго дзесяткі мільёнаў чытачоў і прыхільнікаў на ўсёй планеце. Сёння Быкаў — гордасць беларускага народа і ўсёй літаратуры.

Пра Айчынную вайну пісалі многія пісьменнікі, але толькі 4—5 непасрэдных удзельнікаў вайны, і перш за ўсё былых лейтэнантаў (Сіманаў, Бондараў, Бакланаў, Астаф'еў), напісалі самыя праўдзівыя, глыбокія кнігі пра апошнюю вайну. Васілю Быкаву ў гэтым спісе адно з першых месцаў. А для мяне асабіста — ён першы. Быкаў і некалькі пісьменнікаў з яго пакалення пайшлі далей за тых, хто пісаў пра вайну да іх.

Пісаць праўду пра людзей, пра вайну (калі ёсць вялікі талент, бескампраміснае сумленне, прынцыповасць) — гэта шчасце і радасць, горкая радасць. Амаль усе кнігі Быкава трагічныя. Падумайце, колькі разоў аўтару разам са сваімі героямі давялося пакутаваць і паміраць, бо вайна — страшэнная бяда для кожнага народа, з'ява трагічная, бязлітасная. «Не паспеў нарадзіцца і ўжо сірата. Ні бацькі, ні маткі» — гэта з «Воўчай зграі», Ляўчук перадае немаўля, у якога забілі бацькоў-партызанаў, старому партызану, а сам, паранены, ідзе ізноў у бой. «Галоўнае, да цёткі якой. Каб карміла» — яго апошняя турбота. А ў малога няма нават імя. Не паспелі назваць. «Віктар! — крыкнуў ён, прыпомніўшы, што так звалі Платонава.— Віктар, скажы. А прозвішча Платонаў, Віктар Платонаў».

Я вельмі люблю гэтую аповесць «Воўчая зграя». Можа, таму, што ў нечалавечых умовах выяўляецца такая высокая чалавечнасць: узаемавыручка, самаахвярнасць і дабрыня герояў Быкава. У гэтай аповесці, як і ва ўсіх яго творах, мы радуемся крыштальна

яснай пазіцыі Васіля Быкава, яго гуманнасці, вялікай любові да чалавека, да жыцця.

Вядома, у аповесцях Быкава, як гэта было і ў жыцці, ёсць і ворагі, і здраднікі, і баязліўцы, і хітруны, і эгаісты, усе гэтыя аўсеевы, пшанічныя, блішчынскія, сахно, рыбакі, галубіны, задарожныя і жорсткія брытвіны.

Але асноўныя героі — патрыёты, сумленныя, адважныя людзі, бясконца адданыя Радзіме байцы, чорнарабочыя вайны.

Лазняк, Жаўтых, Іван Цярэшка, Каця, Валошын, Чумак, Алесь Мароз, Іваноўскі, Сцёпка Таўкач, Міця, Маслакоў, Ляўчук, Грыбаед, Зося Нарэйка і многа іншых. І, вядома, Сотнікаў. І, вядома, Сцепаніда. Якія непаўторныя людзі, і ў кожнага высокая чалавечая годнасць! Гэта наш народ, гэта глыбокія народныя характары.

Перад смерцю Сотнікаў думае не пра сябе, а каб «нешта зрабіць для іншых». Ён думае: смерць павінна нешта сцвярджаць, нешта адмаўляць, каб яна не была марнай.

Перад гібеллю лейтэнант Іваноўскі ясна і горка думае: «Але застануцца жыць іншыя. Яны перамогуць, ім аднаўляць гэтую зялёную шчаслівую зямлю, дыхаць на поўныя грудзі і кахаць. Але хто ведае, ці залежыць іх лёс ад таго, як памрэ на гэтай дарозе дваццацідвухгадовы камандзір узвода лейтэнант Іваноўскі?»

Гэта сапраўды аптымістычная трагедыя. Найвялікшымі героямі мінулай вайны былі тыя, што палеглі ў баях на граніцы, у Брэсцкай крэпасці, што палілі бутэлькамі з сумессю варожыя танкі. Тыя, хто кідаўся са звязкамі гранат пад танкі, хто грудзьмі клаўся на варожы кулямёт. Тыя, хто амаль без танкаў і самалётаў знішчаў крывавых акупантаў. Тыя, хто быў забіты, расстраляны, павешаны ў першыя гады вайны.

Кнігі Быкава — найлепшая прапаганда супраць вайны і пераканаўчае сцверджанне патрыятызму, гуманізму, дабрыні, чалавечнасці.

Ляўчук з аповесці «Воўчая зграя» ацалеў на вайне, толькі руку страціў. Яму дужа радасна, што хлопчыку, якога ён ўратаваў, удалося выжыць з вайны, што далей жыццё да яго паставілася больш літасціва. Ляўчук поўны добразычлівасці, хоць і не ўяўляе, які зараз Віктар Платонаў, бо прайшло трыццаць год. Ён ідзе на першае спатканне. Дзяўчаткі пытаюць яго: «Вы таксама герой?» Ляўчук сціпла і сарамліва адказвае: «Я? Ды які я герой! Я не герой. Так...»

Вельмі цікавае і характэрнае разважанне Леўчука перад сустрэчай з невядомым Віктарам: «Ён ведаў, што чалавек не вызначаецца толькі сваёй прафесіяй або пасадай, ёсць яшчэ характар, нораў, дабро ці злосць — гледзячы, што пераважае, тое і вызначае чалавечую годнасць...

...Але кім бы ні быў па прафесіі ці пасадзе, найперш павінен быць чалавекам. Ляўчук не ўкладваў у гэта паняцце якога складанага ці філасофскага сэнсу, гэта ў яго фармулявалася проста: каб быў добры, разумны і ўдачлівы, але не за кошт другіх. Ён дужа ўжо шмат нагледзеўся ў жыцці на розных спрытнюгаў, якія ладзілі свой дабрабыт за кошт іншых і былі разумныя з выгадай для сябе, з найбольшай для сябе карысцю. Такіх Ляўчук ненавідзеў, як можна было ненавідзець на вайне тых, хто спрабаваў выжыць цаною гібелі іншых».

Мне здаецца, што гэта адна з самых дарагіх для Васіля Быкава думак. Яна дарагая і для большасці франтавікоў, для ўсіх сумленных людзей. Быкаў актыўна ўключае чытача ў працэс творчасці. Ляўчук націскае кнопку, а потым павярнуў ручку дзвярэй. А дадумаць, як адбудзецца сустрэча, давядзецца нам. Як і сустрэчу Сцёпкі (з «Круглянскага моста») з ка-

місарам. Хай едзе камісар! Як і далейшы лёс параненай Зосі Нарэйкі. Але мы падрыхтаваны ўжо майстэрствам пісьменніка. Мы спадзяёмся на лепшае ў чалавеку, у чалавечым лёсе. Мы ўсе прагнем праўды, міласэрнасці, справядлівасці, кахання, дружбы, даверлівасці, чалавечнасці.

[redacted] мог бы гаварыць і пісаць пра Васіля Быкава бясконца. Я вельмі люблю і глыбока паважаю яго рэдкі магутны талент, яго непараўнанае майстэрства, яго чуйнае мудрае сэрца. А сёння скажу: жыві яшчэ доўга, доўга, у добрым здароўі і творчым настроі, дарагі мой чалавек і любімы пісьменнік!

# СВЕТЛАЯ, ДОБРАЯ, ТАЛЕНАВІТАЯ

Караліўчавічы — любімы Дом творчасці пісьменнікаў старэйшага пакалення — урадам рэспублікі быў падараваны нам пасля вайны. З кватэрамі тады было цяжка, і ўсе мае франтавыя сябры Крапіва, Лынькоў, Броўка, Танк, Куляшоў, Глебка са сваімі сем'ямі жылі цэлае лета ў Караліўчавічах. Тады гэта месца было глухаватае, не сапсаванае бульдозерамі і трактарамі, без асфальтаваных дарог і сцежак. Не было яшчэ ні фінскіх дамкоў, ні цагляных будынін. Усе жылі ў двухпавярховым доме, там і сталаваліся. А навокал зеляненелі, спявалі, радавалі вока сасняки, бярэзнікі, дубовыя гаі. У непагоду глуха шумелі і скардзіліся цёмныя ельнікі. А грыбоў было, а ягад! Дый арэхаў хапала...

Прачуўшы пра гэта, тут не адно лета правёў і наш дарагі Якуб Колас. Таму і Дом творчасці названы яго імем.

Пазней сюды пачалі наязджаць Шамякін, Макаёнак, Навуменка, Калачынскі і больш маладзейшыя пісьменнікі. Зімою цяжка было дастаць пакоі: у Караліўчавічах добра пісалася...

Часта ўспаміналі фронт, мінулую вайну, хадзілі па грыбы, купаліся ў Свіслачы, чыталі адзін аднаму новыя вершы, уважліва сачылі за творамі маладых пісьменнікаў. Вечарамі распальвалі вялікія вогнішчы. Галоўным майстрам агню быў Міхась Лынькоў. Малыя так і ліплі да яго, збіралі горы сушняку, а сам майстар цягнуў на паляну смалістыя карчы.

Я так падрабязна пішу пра даўняе жыццё ў Караліўчавічах, бо той час прыемна ўспамінаць як час вялікай шчырасці і добразычлівасці.

Тут аднойчы Пятрусь Броўка мне сказаў: «Звярні

ўвагу на маладую паэтэсу Еўдакію Лось,— і з усмешкай дадаў: — Мая зямлячка, з Ушаччыны».

А я ўжо запомніў гэта імя. Маю сястру завуць таксама Еўдакія. А тут яшчэ такое звонкае прозвішча: Лось. Некаторыя з яе вершаў мне спадабаліся. Яны былі простыя, але кранал і сэрца шчырасцю і чысцінёй. Запомніўся верш «Гняздо ластавак», прысвечаны сёстрам.

З'явіліся першыя кнігі Еўдакіі Лось: «Сакавік», «Палачанка», «Людзі добрыя».

Сёння я зноў гартаю яе кнігі і зноў радуюся шчырасці паэтэсы. Карані яе паэзіі ў народным жыцці, у фальклоры. Галоўная паэтычная дума яе — радасць жыцця, гордасць за сваю радзіму, за свой партызанскі край і народ. Верш, прысвечаны Петрусю Броўку, называецца «Продкі». Верш «Партызанская зямлянка» прысвечаны легендарнаму У. Е. Лабанку. А пазней з'явіліся вершы, прысвечаныя землякам: Лынькову, Быкаву, Барадуліну, Бураўкіну. Ёсць у яе вершы пра дзеда і бацьку, пра любімага брата, які гераічна загінуў на Украіне пад Фаставам. Яна часта ўспамінала пра брата.

У Еўдакіі Лось было моцна развіта пачуццё радзімы, роднай зямлі. І ў ранніх і больш позніх вершах яна славіла хараство жыцця, усмешку лістка і «дожджыкам апырсканую сцежку».

Праклюнуліся елачкі на ўзгорку,
Пралескі свецяць, покуль не паснуць...
Я тут расту.
Мне соладка і горка.
Мяне адсюль вятры не адарвуць.

Альбо верш «У Віцебску»:

У Віцебску жыве рака,
І недзе ў ёй струменьчык скача
З таго святога раўчука,
Што называецца — Ушача...

А вось «Палачанка»:

Можа, ты не такая і белая,
А празвалі бялянкай,
Можа, ты не такая і смелая,
А слывеш партызанкаю...
Я з табою расла,
Ела хлеб травяны і бульбяны,
Я з табою была,
Калі ў лес ты ішла ў партызаны.

У сярэдзіне пяцідзесятых гадоў я пазнаёміўся з Еўдакіяй. Яна скончыла Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага, працавала рэдактарам вучэбна-педагагічнага выдавецтва. Яна расказала пра сваё ваеннае дзяцінства. Я пахваліў яе вершы, але параіў пісаць больш пра тое, што перажыла, што глыбока легла на сэрца. Пазней у яе выйшла кніга «Людзі добрыя». Еўдакія падаравала мне гэты зборнік з надпісам: «П. Е. Панчанку. З павагай. Адзін верш у гэтай кніжцы як бы падказаны Вамі. Таму я асмелілася прысвяціць яго Вам. Даруйце. Пастараюся лепш».

Верш называўся «На дарозе». Верш горкі. Яна праязджала на машыне па роднай зямлі, дзе калісьці плакала бялявая дзяўчынка, дзе калісьці на гэтай зямлі яна грэла маленькія пяткі, бедавала па згубленай лялыцы, плакала над раструшчаным гусянём. І яшчэ пра найгоршую бяду, пра вайну:

А яна прыпаўзла, прыкацілася потым,
Абакрала, зрабіла дзіця сіратой.
Заліла палыны мае кроўю і потам,
Зацягнула сінюткія далі слатой...

Летам у канцы пяцідзесятых гадоў я з сям'ёю адпачываў у Каралішчавічах. Там жа адпачывала і пісала вершы Еўдакія. Майму сыну Андрэю было гадоў шэсць ці сем, у школу ён яшчэ не хадзіў. Мая маці вышыла яму белую сарочку, але хлапчук рос хутка, і сарочка зрабілася яму цеснаватай. Еўдакія сур'ёзна

з ім аб нечым размаўляла, а пасля напісала верш «Андрэйкава кашуля»:

Андрэйкаву кашулю
Бабуля вышывала.
Над белай палатнінай
Нястомна працавала.

Але намнога вырас
Андрэйка за зіму,
І рукавы кашулі
Кароткія яму.

Насіць такі адзетак
Клапотна для Андрэя:
Колькі ні абцягвай —
Рукаў не падаўжэе!

Бабуля спачувае:
— Расці, унучак мой!
Я новую кашулю
Вышыю зімой.

Дзеці як ніхто адразу адчуваюць праўду, добразычлівасць і, вядома, фальш. Мой малы сын, калі ўжо хадзіў у школу, нярэдка прасіў: «Прачытай, тата, верш, што напісала цёця Дуся пра маю кашулю».

Еўдакія добра разумела дзіцячую душу, напісала для дзяцей цікавыя шчырыя кнігі. Вось як хараша пазней яна напісала ўжо свайму сыну:

Устань, дзіцятка, на зары,
На досвітку устань.
З баравічком пагавары,
Кляновы ліст дастань...
Вітайся з сонным птушанём,
З ялінкай і сасной,
А потым — з надышоўшым днём,
А потым і са мной.

З той маладой пары і да канца жыцця яна ўяўлялася мне аднолькава: прыгожая, з ільнянымі валасамі, светлая, вясёлая, дружбацкая, зрэдку гняўлівая і

рэзкая (водгук на няпраўду, нейчую злосць, неахайнасць альбо гультайства), але часцей заклапочаная, працавітая, смяшлівая і заўсёды, як цяпер бы сказалі, камунікабельная. Яна правільна пра сябе напісала:

Працую не на знямогу,
Не на пазбыццё сну.
Працую на перамогу,
Як у вайну.

І сама сардэчна прызнаецца:

Ах, Беларусь, мая ты доля,
Мая сляза і пацалунак,
Маё рунеючае поле,
Мой песнямі набіты клунак.

Еўдакія Лось многа ездзіла па нашай краіне, была і за мяжой. Пасля тых паездак заўсёды з'яўляліся новыя цыклы цікавых вершаў. Пра Сібір і Украіну, Маскву і Азербайджан, Венгрыю і высокія Татры, Літву і Польшчу, Латвію і Балгарыю.

У Еўдакіі Лось усюды было шмат сяброў: партызаны і шахцёры, ільнаводы і маракі і, вядома, паэты. Нашую мілую і прыгожую Еўдакію ўсе любілі. Я сам быў сведкам многіх праяў дружбы і прыязнасці да нашай цудоўнай паэтэсы. У вершах гэта значыцца: «Букет ад Кайсына Куліева». Альбо: «Рыжская песня» — Ояру Вацыецісу. Я быў тады разам з Еўдакіяй у Рызе. Наша пісьменніцкая дэлегацыя праводзіла ў Латвіі Тыдзень беларускай літаратуры. Вельмі добра прайшла наша дэкада сярод гасцінных латышскіх сяброў. А нашу Еўдакію адразу забралі ў палон маладыя латышскія паэты і паэтэсы. На вялікі жаль, ужо няма многіх з той дэлегацыі, няма і надзвычайна таленавітага Ояра Вацыеціса.

Мне чамусьці ўспамінаецца верш Еўдакіі Лось, навеяны нашымі народнымі песнямі:

Прыйшлі паслы
Ад лугоў, ад нівы.
Павялі паслоў
Да прыбраных сталоў.
Сівой бярозе —
Месца на куце.

Калі я працаваў рэдактарам часопіса «Маладосць», мы з Еўдакіяй Лось сустракаліся часцей. Бывала і так, што я крытыкаваў яе пасрэдныя ці недапрацаваныя вершы. «Вы ж можаце напісаць лепш, дык навошта вы нам несяце недаспелыя вершы?» — казаў я. І яна саромелася, як малое дзеўчанё. Іншым разам несла спачатку да Міколы Аўрамчыка, а пасля ўжо да мяне. Але гэта здаралася нячаста.

А яшчэ помніцца мне Еўдакія на адным са з'ездаў пісьменнікаў у Маскве. Мы ішлі з гасцініцы «Расія» на прыём у Крамлёўскі Палац з'ездаў. Трэба было прайсці ўсю Красную плошчу па брусчатцы. Еўдакія была ў прыгожым цёмным плашчы, а туфлі — на высокіх тонкіх абцасах. Ёй было цяжка і нязручна. Я ёй жартаўліва паспачуваў: «Прыгожая жанчына заўсёды павінна трохі папакутаваць». Цяпер бы, мажліва, так не жартаваў.

Але найбольш запомніліся мне Дні рускай літаратуры ў Беларусі. З дэлегацыяй прыехаў мой добры франтавы друг, з якім мы год разам служылі ў армейскай газеце «Героический штурм» на Паўночна-Заходнім фронце,— Міхаіл Святлоў. Для нас гэта была радасная і шчаслівая сустрэча, цікавая паездка па паўночнай Беларусі. Мы даволі часта сустракаліся ў Маскве. А вось у Беларусь пасля вайны ён прыехаў упершыню. Нам далі на двух легкавую машыну. «У нас здесь просторно,— сказаў Міхаіл Аркадзевіч,— может, пригласим хорошего человека». Я паклікаў Еўдакію. Яна з радасцю згадзілася. Паездка наша была проста цудоўная. Спыняліся ў прыгожых мясцінах, і мы з Дусяй наперабой расказвалі Міхаілу Святлову

пра наш край. Еўдакія хутка ўвайшла ў нашу размову, была цікавай, дасціпнай.

Прайшлі вечары ў Глыбокім, Полацку, Віцебску. Міхаіл Аркадзевіч меў аглушальны поспех. Не падвялі і беларускія паэты. А Еўдакія была нашым упрыгожаннем. Пасля паездкі Святлоў сказаў мне: «Славная женщина и поэт хороший».

Мы з Еўдакіяй Лось выступалі шмат разоў на літаратурных вечарах: у прыватнасці, 20 красавіка 1976 года на творчым вечары Івана Мележа, на розных юбілеях. Еўдакія Лось была не толькі добрым таварышам, але і вельмі чулым чалавекам. Я пасля аднаго літаратурнага вечара захварэў. У мяне з той пары захаваўся ліст: «Дарагі Пімен Емяльянавіч, я Вас прашу сардэчна: папраўляйцеся! Ужо трэці дзень звоняць і звоняць людзі, якія віншуюць з вечарам, дзякуюць, кажуць, што такога цікавага вечара яшчэ не было. Канешне, гэтаму памаглі Вы. Дзякую і вельмі перажываю, што Вы нездаровы. Прыміце хоць кветкі. Е. Лось».

Яна пісала ў 1963 годзе:

«Чалавеку быць чалавечным,
Мне здаецца, няцяжка зусім!»

Для яе самой, для яе паэзіі гэта было няцяжка. Бо Еўдакія Лось была сапраўдным чалавекам і паэтам.

Светлая, добрая, таленавітая.

Такая яна для мяне была і засталася ў памяці на ўсё жыццё.

# НАШ ПУШКІН

Дзецям майго пакалення найбольш падабаліся вершы Пушкіна і Коласа.

Мороз и солнце. День чудесный...
Ці: Тятя, тятя, наши сети
Притащили мертвеца.
А ў Коласа: Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому...
Ці: Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне...
Альбо: Грукоча дзядзька наш па бруку,
Адзін за дзесяць робіць груку.

Пазней прыходзіла захапленне Лермантавым, яго любоўю і нянавісцю, яго Дэманам і Мцыры. І Максімам Багдановічам з яго летапісцам і зоркай Венерай.

А затым у сэрцы пасялілася любоў да Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна і да Янкі Купалы. Навечна.

Было месца і Тарасу Шаўчэнку, і Маякоўскаму. Значна пазней Цютчаву і Блоку, Ясеніну (доўга мы чыталі яго вершы тайком) і Твардоўскаму.

Але Пушкін — з маленства свой, блізкі, родны. Мільгаюць радкі з розных гадоў майго жыцця: і пра ката, які ўдзень і ўночы ходзіць каля дуба на залатым ланцугу; і пра скваппага папа і яго работніка Балду; і пра Чарнамора; і пра залатога пеўніка; і пра Руслана і Людмілу. І строфы, звернутыя да яго няні, Арыны Радыёнаўны:

Выпьем, добрая старушка...

А далей «Капітанская дачка» з непаўторным тагачасным жыццём (стэп, падараваны кажух, расправы пугачоўцаў) і «Дуброўскі» з яго каханнем і высакароднасцю. Тым больш, як сцвярджаў наш настаўнік, гісторыя з Дуброўскім адбылася са шляхціцам з Ві-

цебскай губерні, і казаў, што Пскоўская вобласць — больш чым суседка Беларусі.

Непрыкметна нараслі гады, і ў нашым жыцці гучалі новыя строфы Аляксандра Сяргеевіча:

Мой дядя самых честных правил...

Ці: Онегин, я скрывать не стану...

А затым маладосць назаўсёды зарубіла на сэрцы:

Я помню чудное мгновенье:
Передо мной явилась ты,
Как мимолетное виденье,
Как гений чистой красоты...

І яшчэ: Не пой, красавица, при мне
Ты песен Грузии печальной.

І, нарэшце, на парозе сталасці прагучалі ў душы «Палтава» і «Медны коннік»:

Как будто грома грохотанье —
Тяжело-звонкое скаканье
По потрясенной мостовой.

Пушкін нам як ласка, падараваная Богам.

Ніхто з нашчадкаў, ніводзін паэт не здолеў пераўзысці геній Пушкіна: яго мудрасць, глыбіню, яркасць і ў той жа час яго непасрэднасць, прастату, штодзённую неабходнасць людзям.

У 1938 годзе Саюз пісьменнікаў Беларусі паслаў мяне (разам з Рыгорам Бярозкіным і Уладзімірам Кандрацэнем) у Маскву на першыя курсы-канферэнцыю маладых пісьменнікаў саюзных рэспублік.

Калі мы прыехалі ў Маскву, з вакзала перш-наперш пайшлі на Красную плошчу. Потым уладкаваліся ў гасцініцы і шуганулі да Цвярскога бульвара. Трэба сказаць, што ў Маскве мы былі ўпершыню. Але нам шанцавала на добрых людзей, і хутка мы глядзелі на помнік Пушкіну. Пасля помнік перанеслі на плошчу, але мне запомніўся ён на старым месцы, на бульвары. Тады, у снежні 1938 года, быў пахмуры са сняжком

дзень. Выгляд Цвярскога быў будзённы, але мы былі перапоўнены шчасцем сустрэчы з Масквой, з выдатнымі пісьменнікамі, што і Аляксандра Сяргеевіча з нейчай лёгкай рукі ахрысцілі «сонечны Пушкін». Гэта, вядома, звычайны шаблон. Але хутка мы пераканаліся, што Пушкін сапраўды сонечны.

Прайшло некалькі дзён, і нас павялі ў оперны тэатр імя Станіслаўскага і Нёміровіча-Данчанкі, які знаходзіўся на вуліцы Пушкіна. Ішлі слухаць оперу Мусаргскага «Барыс Гадуноў». І хто ставіў? Усевалад Меерхольд. Нядаўна закрылі яго тэатр, і Меерхольд часова працаваў рэжысёрам у оперным тэатры.

Перад наведаннем тэатра разумныя людзі, якія тонка разумелі і Пушкіна, і Мусаргскага, расказалі нам, што дало спалучэнне двух геніяў — Пушкіна і Мусаргскага. Асцярожна (тады былі небяспечныя трыццатыя гады) нам гаварылі пра ўладу і народ, псіхалагічную глыбіню і музыкальнае багацце «Барыса Гадунова». Але што словы, што тэорыя!

Мы былі ашаломлены пастаноўкай.

Пасля нас запрасілі ў гасцінную, і з намі пачаў гутарку сам Усевалад Меерхольд. Мы былі наіўнымі правінцыяламі і, хоць былі начытанымі да ачмурэння, сцэну, тым больш оперную, ведалі слаба. Усевалад Эмільевіч не смяяўся з нашых, часам наіўных, пытанняў. Ён сказаў, што гэта самая народная опера і ніхто глыбей і праўдзівей не напісаў пра трагедыю рускага народа. У канцы гутаркі Меерхольд пачаў марыць пра будучы тэатр. Калі-небудзь будуць пісаць толькі кароткі сцэнарый, а акторы будуць самі імправізаваць... І ў гэтую ноч мы доўга не маглі заснуць, у сэрцы зноў і зноў узнікала то скарга Гадунова, які пачаў вар’яцець, то жаласная просьба жабрачка, які прасіў у цара грошык...

У Ленінград я трапіў толькі пасля вайны. У першы раз ленінградскія сябры мне расказвалі пра блакаду...

Другі раз за мяне ўзяўся мой добры друг і перакладчык Павел Кабзарэўскі, родам з Магілёва.

У Паўла была своеасаблівая звычка знаёміць гасцей з Ленінградам. Так мы паехалі спачатку ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Каля адной з камер ён сказаў: «Заплюшчы вочы» і ўвапхнуў мяне ў камеру і зачыніў за сабою дзверы. Расплюшчыў вочы і бачу: ляжыць на турэмным ложку мёртвы вязень. Пасля мы пайшлі да царквы, перад якой адпявалі дзекабрыстаў. Дошка, прыбітая каля ўвахода, сведчыла, што дзекабрысты, яшчэ жывыя, самі сябе адпявалі ў той дзень. Мужны і высокай годнасці быў гэты народ — дзекабрысты!

Вярнуліся на левабярэжжа Ленінграда, і Павел павёў мяне ў кафэ. Папілі кавы, закусілі. І тады мой сябра кажа: «Ты сядзеў на тым месцы, дзе апошні раз сядзеў Пушкін перад дуэллю на Чорнай рэчцы». Як выявілася, гэта была кандытарская Вольфа і Беражэ... Потым мы перайшлі на другі бок Мойкі, дзе ў доме № 12 знаходзіўся музей-кватэра Аляксандра Сяргеевіча. Усё ўразіла: і дыван, на які паклалі смяротна параненага паэта, і незлічоная колькасць кніг у кабінеце паэта і ў іншых пакоях...

Пасля мы доўга хадзілі па Ленінградзе, глядзелі на «Невы державное теченье, береговой его гранит». Былі з намі Медны коннік, і Летні сад, засыпаны жоўтым лісцем, і Неўскі праспект. Прыгадваліся і Лермантаў, і Гогаль, і Талстой, і Цютчаў, якія так ці інакш склаліся як пісьменнікі пад уздзеяннем Аляксандра Сяргеевіча.

Пушкін дапамог выстаяць гераічным ленінградцам, бо гэта быў ягоны горад, з усімі плошчамі і вуліцамі, з садамі, палацамі і музеямі.

Мне ўспомнілася там, у Ленінградзе, што, калі я на пачатку вайны з байцамі адступаў з Беластока, мы ўночы выбіраліся са зруйнаванага Мінска на Маскоўскую шашу. Апошняй вуліцай, якую мы пакідалі ў

Мінску, была Пушкінская. (Там, дзе знаходзяцца Дом друку, Акадэмія навук Беларусі — цяпер прадоўжаны праспект Францыска Скарыны. А назву Пушкінскі атрымаў новы праспект у заходнім раёне Мінска, недалёка ад Кальварыі.)

Няма таго беларускага дома, дзе не было б кніг Аляксандра Сяргеевіча. Да рускіх выданняў далучыліся і творы Пушкіна, перакладзеныя на беларускую мову Янкам Купалам і Якубам Коласам, К. Чорным, К. Крапівой, П. Броўкам, А. Куляшовым, М. Танкам і іншымі паэтамі.

Я любіў раздаваць кнігі Пушкіна родным і блізкім, настаўнікам, вучням. Цяпер на маіх паліцах застаўся 10-томны збор твораў А. С. Пушкіна і тры томікі малой серыі «Бібліятэка паэта». Спадзяюся, што хутка да іх далучыцца двухтомнік твораў Аляксандра Сяргеевіча, перакладзены на беларускую мову лепшымі майстрамі нашай літаратуры.

## СЛОВА ПРА ПАЎЛО ТЫЧЫНУ

Дарэвалюцыйная беларуская паэзія, у тым ліку і творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа, развівалася пад жыватворным уплывам народнага жыцця, народнай творчасці, паэзіі Пушкіна, Някрасава і асабліва Тараса Шаўчэнкі.

Паслярэвалюцыйная паэзія Беларусі была пад значным уздзеяннем вершаў і паэм Блока, Маякоўскага і Паўло Тычыны. Так, імя Тычыны па праву запісана ў першым залатым радку новай паэзіі.

У гады маладосці і сталасці я чытаў і перачытваў вершы і паэмы Паўло Рыгоравіча і на ўкраінскай і на беларускай мовах.

А трэба сказаць, што творы Паўло Тычыны ў нас многа і добра перакладалі лепшыя паэты рэспублікі.

Свежая па тэматыцы, заўсёды глыбокая па думцы, наватарская па форме і зместу, суровая і пяшчотная, праўдзівая і шчодрая, аптымістычная паэзія Паўло Тычыны зрабіла на мяне і маё пакаленне незвычайнае ўражанне, па-сапраўднаму кранула нашы сэрцы. Ад першага зборніка «Сонечныя кларнеты», праз кнігі «Вецер з Украіны», «Пачуццё сям'і адзінай» да хвалюючага рэквіема «Пахаванне сябра», да апошніх вершаў і паэм — непаўторны голас Тычыны ўслаўляў радзіму, працу, дружбу. У гэтым яго неўміручая сіла, і слава, і хараство.

Паўло Тычыну ведала і любіла Беларусь.

Яго добра запомніў Мінск з часу вядомага паэтычнага пленума.

Тычына сябраваў з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

Мы, маладзейшыя, заўсёды рады былі хоць нядоўгай сустрэчы з Паўло Рыгоравічам і ў Кіеве і ў Маскве.

Назаўсёды засталіся ў нашых сэрцах яго абаяльнасць, яго інтэлект і інтэлігентнасць.

Паўло Рыгоравіч Тычына быў рэдактарам першай анталогіі беларускай паэзіі на ўкраінскай мове. Ён цудоўна пераклаў творы Багушэвіча, Купалы, Коласа, Броўкі, Танка. Я ганаруся тым, што Паўло Рыгоравіч перакладаў і мае вершы.

У 11—13 тамах акадэмічнага выдання Збору твораў Якуба Коласа надрукавана многа артыкулаў, нататак і лістоў пра ўкраінскую паэзію. У 1935 годзе Якуб Колас быў у складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў, якая ездзіла ў Парыж на сусветны кангрэс пісьменнікаў у абарону культуры. У яго там нямала кароткіх партрэтаў, характарыстык вядомых замежных і савецкіх пісьменнікаў Анры Барбюса, Генрыха Мана, Луі Арагона, Аляксея Талстога, Мікалая Ціханава, Ільі Эрэнбурга, Міхаіла Кальцова, Барыса Пастарнака, Галакціёна Табідзе і іншых.

Ёсць там запісы і пра ўкраінскіх пісьменнікаў: «Мікітэнка... увесь у руху, да ўсяго прыслухоўваецца, аб усім распытваецца. Ён не можа дапусціць, каб якая-небудзь справа адбылася без яго. Яго блакнот повен розных запісаў.

...Пятро Панч, суровы і салідны, з такім выглядам, як бы ён на цябе крыху сярдзіты.

З ім часта кампануе лагодны Паўло Тычына — чалавек надзвычайна скромны, прыязны і як бы чым заклапочаны. Яго аблічча сведчыць аб яго нейкіх затоеных думках і аб упартай унутранай рабоце, якую ён так міла прыхоўвае нявіннымі жартамі.

Часамі, хоць і рэдка, забягае сюды Карняйчук, прыносячы з сабой маладыя смех і вясёласць».

Якуб Колас чуйна прымеціў асноўныя рысы Паўло Рыгоравіча: прываблівую чалавечнасць, высокую духоўнасць і няспынную ўнутраную работу.

Аб такой жа высокай духоўнасці сведчыць сучас-

ная магутная проза Украіны і новая хваля вельмі таленавітай украінскай паэзіі, у якой чуецца голас сонечных кларнетаў Тычыны.

Паўло Рыгоравіч заўсёды быў вельмі чулым да сваіх сяброў.

У 1936 годзе Якуб Колас паслаў Тычыне наступны ліст:

«Дарагі Паўло Рыгоравіч!

Прыміце маю самую шчырую падзяку за Ваша выступленне па радыё ў дзень майго трыццацігоддзя літаратурнай дзейнасці. Я сядзеў за сталом разам з сваёю сям'ёй каля прыёмніка і слухаў. Калі Вы ў канцы свайго высокапаэтычнага слова сказалі, што я чую Вас, я не мог стрымацца, каб не сказаць: «Чую, дарагі Паўло Рыгоравіч!»

І мне таксама хочацца сказаць: «Мы чуем Вас, дарагі Паўло Рыгоравіч!»

Толькі таленавіты народ, украінскі народ мог нарадзіць такога выдатнага паэта.

# САПРАЎДНЫ НАРОДНЫ ПАЭТ РАСІІ

Вялікая славянская рака Дняпро-Славуціч са сваімі прытокамі Дзяснoй, Беразінoй, Сожам і Прыпяццю, як спрадвечнае дрэва дружбы, яднала і яднае тры братнія народы: рускі, беларускі і ўкраінскі.

Многа слаўных гарадоў стаіць на Дняпры: украінскія на чале з Кіевам, беларускія Магілёў і Орша, а ў верхнім цячэнні Дняпра — старажытны Смаленск, горад-воін, горад-працаўнік, надзейны шчыт Расіі. У Айчынную вайну 1812 года Смаленск гераічна абаранялі войскі генералаў Раеўскага, Барклая-дэ-Толі, Баграціёна.

У 1941 годзе адважна змагаліся за Смаленск 16-я і 21-я арміі. Тут, у баях пад Смаленскам, нарадзілася савецкая гвардыя. Першай гвардзейскай дывізіяй камандаваў сын смаленскай зямлі генерал Русіянаў, які вызначыўся і пры абароне Мінска.

Смаленская зямля дала свету кампазітара М. Глінку, вучонага-вандроўніка М. Пржавальскага, флатавода П. Нахімава, скульптараў М. Мікешына і С. Канёнкава, маршала М. Тухачэўскага, першага касманаўта Ю. Гагарына, воіна і беларускага партызана М. Ягорава, які ўзняў пераможны сцяг над рэйхстагам, паэтаў М. Ісакоўскага і А. Твардоўскага.

Перад 40-годдзем Перамогі за мужнасць і стойкасць, якія праявілі абаронцы Смаленска, масавы гераізм у гады Вялікай Айчыннай вайны гораду Смаленску нададзена ганаровае званне «Горад-герой».

Смаленская зямля — блізкая і родная нам, беларусам. Гэта мне прыемна падкрэсліць, успамінаючы імя выдатнага майстра рускай літаратуры, добрага сябра беларускага народа і беларускай літаратуры Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага.

Справядліва пісаў М. В. Ісакоўскі: «А. Т. Твардоўскага з поўным правам, з поўнай падставай можна назваць не толькі рускім народным паэтам, але і народным паэтам усяго нашага шматнацыянальнага Савецкага Саюза».

Мы, паэты-франтавікі, цяпер ужо старэйшыя беларускія пісьменнікі, добра ведалі Аляксандра Твардоўскага, даволі часта сустракаліся з ім і ў іншых гарадах. Твардоўскі шмат разоў прыязджаў у Мінск, любіў і паважаў Янку Купалу і Якуба Коласа, высока цаніў творчасць Васіля Быкава і Янкі Брыля, захапляўся паэзіяй Аркадзя Куляшова, многія гады быў блізкім сябрам беларускага паэта. Высока цаніў паэзію Максіма Танка і Міколы Засіма. Аўтару гэтых радкоў у ваенныя і пасляваенныя гады пашчасціла не адзін раз сустракацца з Аляксандрам Твардоўскім, чытаць яму свае вершы, слухаць толькі што напісаныя раздзелы «Васіля Цёркіна», сядзець разам з ім у адным застоллі, спяваць рускія і беларускія песні, якія ён добра ведаў і любіў. Асабліва «А ў полі вярба» і «Ой, рэчанька, рэчанька» і рускія «На муромской дорожке», «Сел на лавку, думал, думал...».

Аляксандр Твардоўскі і вонкава вылучаўся сярод іншых людзей: высокі ростам, здаровы, сінявокі, з выразна рускім тварам, сур'ёзны і гнеўны, дасціпны, іранічны, уважлівы.

У кожнага чалавека розных дзесяцігоддзяў, які чытаў Твардоўскага, склаўся свой вобраз паэта. Адным ён запомніўся як выдатны летапісец перадваенных гадоў; іншым як любімы франтавы паэт; некаторым як непараўнаны паэт-сатырык («Цёркін на тым свеце»), які непрымірыма вёў барацьбу з бюракратызмам. Для многіх Твардоўскі быў і застаўся глыбокім лірыкам і паэтам-філосафам.

У яго жыцці і паэзіі заўсёды была галоўная дума (часам ён любіў называць яе генеральнай думай) —

жыццё народа. Паэт сам быў часткай гэтага жыцця. Ягоныя вершы і паэмы мелі моцны ўплыў на чалавека (а значыць, і на ўсё грамадства), на салдата часоў вайны, на будаўніка сібірскіх гідрастанцый,— паэт быў гэтым і шчаслівы.

Біяграфія А. Твардоўскага простая: нарадзіўся на глухім хутары ля вёскі Загор'е на Смаленшчыне 21 чэрвеня 1910 года. Бацька рабіў кавалём. Дзяцінства і юнацтва паэта было як і ва ўсіх вясковых дзяцей: праца ў полі, каля дома, у кузні, начлег і турботы пастушка, вучоба ў сельскай школе. Але ў хаце вясковага каваля была асаблівасць: тут заўсёды гучалі вершы Пушкіна, Някрасава, Нікіціна. Іх чыталі дзецям і маці і бацька. Часта спявалі любімыя песні. Часцей за ўсё народныя. Адгэтуль любоў [redacted] маленства да друкаванага слова, да паэзіі, да народнай песні і глыбокае веданне сялянскага жыцця. Першыя вершы А. Твардоўскага надрукаваў у смаленскай газеце М. Ісакоўскі. Першыя ягоныя вершы ў маскоўскім часопісе «Октябрь» надрукаваў М. Святлоў. Было ў Аляксандра Трыфанавіча нялёгкае жыццё: праца і праца без адпачынку. І ў дадатак вучоба: спачатку ў Смаленскім педагагічным інстытуце, а пасля ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры. Прымаў удзел у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь, у фінскай вайне, усе гады Вялікай Айчыннай — у франтавой газеце. Пасля вайны 16 гадоў рэдагаваў часопіс «Новый мир».

Славу Твардоўскаму як паэту прынесла паэма «Страна Муравия» (1936). Яна была горача сустрэта чытачом і высока ацэнена крытыкай. Фантастычны сюжэт: аднаасобнік Маргунок едзе на сваім кані ў пошуках краіны Муравіі, дзе няма калгасаў, дзе «земля в длину и в ширину — кругом своя. Посеешь бубочку одну, [redacted] та — твоя». Жыццё ў вёсцы ішло цяжка, жорстка і беспаваротна. Твардоўскі сам быў у віры гэтага жыцця, адчуў увесь драматызм тагачасных супярэч-

насцяў, не пабаяўся сказаць усю праўду пра калектывізацыю, не ўхіліўся ад ацэнкі з'яў тых гадоў. Фантастычная паэма была насычана такімі праўдзівымі, рэальнымі дэталямі, сакавітасцю малюнкаў сельскага жыцця, багатай і дакладнай мовай, што кожны можа сцвердзіць словамі, напісанымі пазней: «Тут ни убавить, ни прибавить,— так это было на земле...»

Самы славуты твор Аляксандра Твардоўскага — «Васіль Цёркін», кніга пра байца. Герой кнігі — Цёркін — мужны бывалы салдат, які пры адступленні сам сябе нібы назначыў палітруком і заўжды паўтараў адну палітбяседу: «Не унывай».

Не зарвемся, так прорвемся,
Будем живы — не помрем.
Срок придет, назад вернемся,
Что отдали — все вернем.

Вобраз Цёркіна — праўдзівы, сакавіты, абаяльны. Ён з тых салдат, што ўсё ўмее, усім дапаможа, і бяду развее, і ворага перахітрыць. Цёркіна любілі на ўсіх франтах. У кожнай часці заўсёды быў нехта падобны да Цёркіна.

У паэме шмат салдацкага гумару, аўтарскай дасціпнасці, народнай мудрасці. Але памыліліся тыя, хто лічыў, што Твардоўскі імкнуўся жартамі і дасціпнымі гісторыямі развесяліць, падбадзёрыць смяртэльна стомленых байцоў. Было і гэта. Але ў паэме напластавалася столькі трагічнага, горкага, цяжкага, непапраўнага — усяго, што было на гэтай самай крывавай вайне. Такія раздзелы паэмы, як «Перад боем», «Бой у балоце» і асабліва «Пераправа», дзе «люди теплые, живые шли на дно, на дно, на дно...», паказваюць усю праўду і жорсткасць вайны. Многія з байцоў, якія чыталі папярэдні раздзел «Цёркіна», маглі і не дажыць да наступнага. Таму паэт імкнуўся кожны раздзел зрабіць закончаным, гранічна праўдзівым, бо на вайне нельга было пражыць «Без чего? Без правды сущей,

правды, прямо в душу бьющей, да была б она погуще, как бы ни была горька». Таму што «Страшный бой идет, кровавый, смертный бой не ради славы, ради жизни на земле».

Аляксандр Твардоўскі зрабіў свайго Васіля Цёркіна неўміручым. І не толькі таму, што гэта народжаны і загартаваны ў баях класічны тып салдата. А таму, што паэт з самага пачатку папярэдзіў чытача, што Цёркін не загіне, бо «проста шкода малайца». Нават пабыўшы на тым свеце, Цёркін вяртаецца да жыцця.

У гэтай пазіцыі паэта — сімвал яго веры ў неўміручасць народа, упэўненасць у перамозе народа над ворагам.

Побач з «Цёркіным» трэба паставіць яго другую паэму пра вайну «Дом ля дарогі». У ёй з ашаламляльнай праўдай і сілай сказана пра жонку і дзяцей салдата, які быў на вайне. Пра тых, каго фашысты пагналі ў няволю ў Германію. Салдат вяртаецца з вайны, а жонкі і дзяцей няма. Яны недзе ў няволі. Салдату дапамагаюць пабудаваць хату. Салдат уладкоўваецца, пакутуе і чакае сям'ю. І сёння нельга без хвалявання чытаць лірычную хроніку «Дом ля дарогі» — гэту праўду пра народную трагедыю.

Апошнім буйным творам А. Твардоўскага была паэма «За даллю — даль». Гэту рэч нават цяжка назваць паэмай. Гэта самая шчырая споведзь, гэта глыбокі роздум пра наш складаны і пакутны час. Твардоўскі заўсёды быў смелым і чалавекам і паэтам. Ён не баяўся самай горкай праўды, кранаў самыя складаныя і балючыя пытанні нашага жыцця.

Лірычныя вершы А. Твардоўскага, якія напісаны пасля вайны, асабліва ў апошнія гады: «Я убит подо Ржевом», «В тот день, когда окончилась война», «Ни ночи нету мне, ни сна», «Снега потемнеют синие», «Вся суть в одном-единственном завете», «Я знаю, никакой моей вины», «Береза» і шмат іншых — гэта вы-

датная з'ява не толькі ў рускай паэзіі. Твардоўскі валодаў нейкай чарадзейнай сілай даверлівасці і пераканальнасці, што кожны чытач мог падумаць: «Гэта паэт асабіста да мяне звяртаецца. А гэта пра мяне».

У беларускага народа, у беларускіх паэтаў асаблівае стаўленне да А. Т. Твардоўскага. Ён перанёс разам з намі ўсё гора адступлення. Ён служыў у франтавой газеце на адным з беларускіх франтоў. Ён пісаў пра Беларусь вершы, апавяданні і нарысы, у тым ліку: «В Витебске», «Первый день в Минске», «Поездка в Гродно», «Лявониха», «Мировой дед», «Костя» і іншыя.

Аляксандр Трыфанавіч заўсёды нам казаў: «У вас ёсць у каго вучыцца. Янка Купала і Якуб Колас — сапраўды народныя паэты».

Твардоўскі пераклаў некалькі беларускіх народных песень, вершы Куляшова, Засіма, Сурначова.

У кнізе А. Кандратовіча пра Твардоўскага «Ровесник любому поколению» ёсць цэлы раздзел «Я люблю белорусскую поэзию...». Там падрабязна расказана, як дружыў вялікі рускі паэт з беларусамі, як многа друкаваў вершаў беларускіх паэтаў, калі быў рэдактарам «Нового мира».

А мы вучыліся ў Твардоўскага мужнасці і прынцыповасці, высокаму майстэрству, народнасці і праўдзе, каб услед за ім кожны з нас мог паўтарыць: «...Еще и впредь мне будет трудно, но чтобы страшно — никогда».

Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі быў непаўторным паэтам. Ён глыбока думаў пра жыццё, пра народ. Ён ніколі не пісаў пра другараднае, а заўсёды пра галоўнае, пра самае важнае ў жыцці народа.

Імя Аляксандра Твардоўскага навечна залатымі літарамі ўнесена ў той невялікі, але галоўны спіс сапраўды народных паэтаў Расіі, дзе значацца імёны Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Блока.

# ЁН ЛЮБІЎ БЕЛАРУСЬ

Ягоныя кнігі складаюць цэлую бібліятэку: вершы, паэмы, даследаванні, публіцыстыка, пераклады... А пачаў друкавацца Максім Тадэевіч вельмі рана, калі яму было дванаццаць гадоў. У пятнаццаць гадоў выйшла з друку першая кніга вершаў «На белых астравах».

А пасля — кніга за кнігай, лівень цудоўных, светлых і мудрых вершаў. Вось назвы некаторых даваенных зборнікаў: «Трынаццатая вясна», «Кіеў», «Лета», «Збор вінаграду». У гэтых кнігах спявалі, кахаліся, працавалі, дружылі, любілі сваіх сяброў нашыя сучаснікі — людзі дваццатых і трыццатых гадоў.

У Айчынную вайну голас Максіма Рыльскага чулі на ўсіх франтах, голас палымянага патрыёта, у якім зліваліся смутак па Украіне, гнеў і нянавісць да фашысцкіх акупантаў. У адным толькі 1942 годзе ён выдаў тры кнігі: «Слова пра родную маці», «Світальная зара», «Светлая зброя». А вось назвы некалькіх пасляваенных кніг: «Вернасць», «Братэрства», «Сад над морам», «Масты», «Смага», «Траянды і вінаград», «Чарада журавоў», «У ценю жаўранка», «Зімовыя запісы», «Галасіеўская восень»...

Ён быў неперасягнены мастак, чараўнік украінскага слова. Яркая вобразнасць, гнуткі верш, народная інтанацыя, тонкі гумар. І разам з гэтым высокае грамадзянскае гучанне вершаў, уменне бачыць радаснае і прыгожае ў жыцці, у жыцці братоў і суседзяў. І ўсюды — праўда жыцця, праўда пачуццяў, філасофская глыбіня. І ўсюды — выразны гуманістычны ідэал чалавека, грамадства.

Пры жыцці Максім Тадэевіч быў адзначаны самымі высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі, з'яўляўся дэ-

путатам Вярхоўнага Савета СССР некалькіх скліканняў, быў акадэмікам Акадэміі навук СССР, лаўрэатам Ленінскай і дзяржаўных прэмій.

Аднойчы, у сярэдзіне вайны, я быў камандзіраваны з фронту па нейкіх справах у Маскву. Вось тады мяне і пазнаёмілі з Максімам Тадэевічам. Прызнацца, я яго трохі пабойваўся. У яго быў выразны патрыцыянскі твар. Строгасць і суровасць. Вочы глядзелі праніклів а і дапытліва. Але варта было пачаць размову, як уся ягоная непрыступнасць (так мне тады здавалася) знікла. Перада мной сядзеў мудры і абаяльны чалавек. Ён не ціснуў сваім аўтарытэтам, а вельмі зацікаўлена распытваў пра фронт, пра жыццё ў акупаванай Беларусі. Хацелася ўсё даверліва расказаць яму, як роднаму бацьку, як разумнаму і вопытнаму старэйшаму сябру.

А як шмат ён ведаў пра Беларусь! І, галоўнае,— любіў нашую зямлю, наш народ. Ды як жа іначай! Ён шмат гадоў сябраваў з Янкам Купалам і Якубам Коласам, высока цаніў іх творчасць, перакладаў іх, дый проста вельмі любіў як людзей, як верных сяброў.

Пасля вайны і мы, маладзейшыя, добра пасябравалі з Максімам Тадэевічам. Яго цягнула да паэтычнай моладзі. Даволі часта я сустракаўся з ім то ў Маскве, то ў Кіеве. Не адзін раз ён прыязджаў у Мінск.

Сваю любоў да Беларусі ён шчыра выказаў у нізцы вершаў «На братняй зямлі», ва ўспамінах пра Янку Купалу і Якуба Коласа.

Ён пераклаў вершы П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова і аўтара гэтых радкоў.

Прашу ў чытача прабачэння, але не магу стрымацца, каб не расказаць, як выдаваўся мой ладны аднатомнічак (275 старонак) на ўкраінскай мове ў 1961 годзе. Я не пра сябе, пра шчырае сэрца вялікага паэта.

Максім Рыльскі напісаў да маёй кнігі прадмову. Вось яе пачатак:

«Мы хадзілі ў перадвосеньскім беларускім лесе, непадалёк ад Мінска. Размаўлялі пра літаратуру, пра агульных знаёмых, мажліва, і спрачаліся. Не памятаю. Але добра памятаю, з якою ціхаю любоўю дзівіўся паэт на такія знаёмыя яму сосны і бярозы, як радасна ўдыхаў ён паветра, напоенае пахамі грыбоў і лісця, як упэўнена ступаў па няроўных пясчаных лясных дарожках... Так, мабыць, ступаў калісьці паэт Пімен Панчанка і па дарогах другой сусветнай вайны, пра якія не адзін гарачы і горкі радок выліўся з-пад яго-нага неспакойнага пяра. Так упэўнена пракладвае Пімен Панчанка і сваю паэтычную дарогу — адзіную сваю, самабытную, выразна выдзяляючыся поўным і свежым голасам у шматгалосай, шматгучнай, шчодрай паэзіі сучаснай Беларусі. Шчырасць і чысціня — першыя адзнакі гэтага голасу».

Вядома, я быў шчаслівы і ганарыўся (і цяпер ганаруся) гэтай высокай ацэнкай вялікага майстра ўкраінскай паэзіі.

Так жа высока (а можа, і яшчэ вышэй) ён ацэньваў паэзію Максіма Танка і Аркадзя Куляшова.

Кожную падараваную мне кнігу Максім Тадэевіч заканчваў словамі: «З любоўю М. Рыльскі».

Залішне казаць, што і я, і мае таварышы былі проста закаханыя ў гэтага сівагаловага і вельмі чалавечнага ўкраінскага мудраца.

Мы нярэдка гасцявалі ў яго ў хаце, што стаіць у Галасіеўскім лесе. Максім Тадэевіч — чалавек энцыклапедычных ведаў, вытанчаны інтэлігент, любіў народныя жарты і, наогул, дасціпнасць і вострае слова. «У гэтым лесе зачыналася палова кіяўлян»,— жартаваў ён.

Я вельмі любіў шмат якія яго вершы і асабліва той, дзе яблыкі даспелі, лётаюць ластаўкі, а Ануля

плача: ёй пара. Пры чарговай сустрэчы, калі паэты па чарзе чыталі свае вершы, ён паглядзіць на мяне, усміхнецца і пачне: «Яблыкі даспелі...»

Аднойчы мы прыехалі ў Кіеў на Дэкаду беларускай літаратуры. Помню, былі Броўка, Танк. Максім Тадэевіч павёз нас да Андрэеўскай царквы, што пабудавана па праекце Растрэлі. Выйшаў з машыны і адвярнуўся: «Маўляў, самі ацаніце, якое гэта хараство». Мы хадзілі вакол царквы, адыходзілі, набліжаліся, войкалі і айкалі. Захапляліся. А ён усё маўчаў. І павёз нас да Сафійскага сабора, які быў пабудаваны ў пачатку адзінаццатага веку. Гэты архітэктурны цуд нас даканаў. Мы былі перапоўненыя геніяльнай архітэктурай, старажытнымі фрэскамі, абразамі сярэдневякоўя...

Пазней, за ўкраінскім смачным сталом, Максім Тадэевіч прачытаў нам невялікую лекцыю пра Кіеў, яго гісторыю, яго шэдэўры. А потым з нейкім сумам сказаў: «У вас у Мінску ўсё разбурана і знішчана, але ж ёсць у вас Полацк, Еўфрасіння і Сафія. Ёсць Пінск, ах, як трэба ўсё гэта берагчы і захоўваць...— І зусім нечакана ён нас папракнуў: — Ёсць у вас выдатны паэт, але, здаецца, яго вы недаацэньваеце...» Мы разгубіліся. А ён ціха дадаў: «Максім Багдановіч». Мы тут узбурыліся і нават праспявалі (не вельмі ўдала) «Зорку Венеру».

Колькі было хвалюючых сустрэч з Максімам Тадэевічам. Ён вазіў нас на старое рэчышча Дняпра лавіць рыбу. Рыльскі быў славутым рыбаловам. Пра Максіма Тадэевіча і яго сябра Астапа Вішню (таксама знатнага рыбалова) у Кіеве ды на ўсёй Украіне існуе цэлы фальклор пра іхнія рыбацкія і дружбацкія гісторыі і здарэнні. Смачна было сёрбаць юшку, якую зварыў сам Максім Рыльскі.

Аднойчы ён заехаў да мяне ў каралішчанскі дамок. На сваёй машыне, з сынам Тарасам і нявесткай. Добра

гаварылася і пілося, але... ён хацеў палавіць у нас рыбу. Я запрасіў Андрэя Макаёнка і Міхася Калачынскага, і мы паехалі на Волму. І беларускую юшку гатаваў таксама Максім Тадэевіч. Такім ён і застаўся ў маёй памяці на ўсё астатняе жыццё: ён у водбліску вечаровага вогнішча, з тварам, глыбока парэзаным гадамі, сівагаловы, з добрымі, мудрымі і крыху журботнымі вачыма — неўміручы паэт Украіны.

# ДРУГ ПА РАДАСНАМУ, ТРЫВОЖНАМУ ВЕКУ

Загаловак гэтага артыкула — вынятка з надпісу на кнізе Рыгора Бярозкіна. Так, мы пражылі радасны і трывожны век.

Абодва мы пачалі друкавацца ў сярэдзіне 30-х гадоў. Я працаваў настаўнікам у Кіраўскім раёне і завочна вучыўся ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, а Рыгор Бярозкін быў студэнтам Мінскага педінстытута імя М. Горкага.

Пазнаёміліся мы ў 1936 годзе. У Мінску, у Доме пісьменніка, быў праведзены літаратурны вечар двух маладых: журналіста з Палесся Усевалада Краўчанкі і мой. Было добразычлівае абмеркаванне твораў, што мы прачыталі. Старэйшыя паэты і празаікі нешта крытыкавалі, нешта хвалілі, але тактоўна і прыязна. І вось тут выступіў тонкі высокі юнак і пачаў мяне «разбіваць» за перайманне Багрыцкага. Я любіў гэтага паэта, але захапляўся не надта. А пісаў я пра калектывізацыю, бандытызм. За мяне заступіўся Змітрок Бядуля: «Што вы нападаеце на маладога паэта? Ён здольны чалавек. У яго добрыя вершы. Вось толькі ён няправільна ўжыў слова «абразанка»...» А на Бягомльшчыне так і гаварылі (у нас па лясах пасля грамадзянскай вайны шастала многа бандытаў). Людзі гаварылі не «абрэз», не «ўрэз», а «абразанка».

Пасля вечара мы прайшліся па горадзе, павячэралі на фабрыцы-кухні. Рыгор быў больш начытаны, у курсе ўсіх літаратурных спраў, і падзарабляў артыкуламі і аглядамі ў «ЛіМе», «Полымі». І што адразу кінулася ў вочы, гэта глыбокае веданне літаратуры (па нашым колішнім узроўні), асабліва паэзіі. І яшчэ: добры беспамылковы густ. Ён адразу схопліваў, дзе праўда, дзе фальш. І заўсёды быў максімалістам.

А трэба сказаць, што тады пачаў буйна лапушыцца вульгарны сацыялагізм, набірала сілу аглабельшчына пад кіраўніцтвам Бэндэ.

Бярозкіну было тады ўсяго 18 год (мне 19). Але ён ужо адчуваў нейкія небяспечныя зрухі і з'явы.

Адзін, тады славуты, паэт напісаў: «І я шчаслівы, бо заўсёды шчаслівы той, хто бальшавік». Гэтага паэта ўсюды праслаўлялі, цытавалі памянёныя радкі. А мы з Грышам смяяліся і, калі былі далей ад Дома пісьменніка, здзекаваліся: «Памруць у бальшавіка маці, дачка ці жонка — ён і тады будзе шчаслівы? Глупства і ідыятызм!»

Ён любіў у маладосці крыху павучаць: «Пры таленце ці паэтычных здольнасцях самае важнае — асоба, індывідуальнасць, свой погляд на з'явы, рэчы, пачуцці; трэба ствараць свой свет». І яшчэ: «Вось Ясенін і Маякоўскі».

А трэба сказаць, што Ясенін быў тады пад забаронай, але мы яго чыталі. «Ясенін — галубок, а Маякоўскі — бамбардзіроўшчык, які прэ напралом». Ён захапляўся выдатнымі паэтамі і стараўся прывіць свой густ і мне. З беларускіх паэтаў ён найбольш любіў Янку Купалу і Уладзіміра Хадыку, а пазней Аркадзя Куляшова, з якім праз год і я сябраваў. На кнізе «Аркадзь Куляшоў» Рыгор Бярозкін у 1979 годзе зрабіў мне такі надпіс: «Пімену Панчанку — даўняму, добраму, надзейнаму другу, на ўспамін аб чалавеку, якога мы — і ты, і я — вельмі шанавалі і любілі».

Бярозкін любіў тэатр, часта мы з ім хадзілі то ў купалаўскі (тады БДТ-1), то ў яўрэйскі, дзе акторам быў ягоны брат. Грыша пазнаёміў мяне з выдатнымі акторамі гэтага тэатра, «прасвяціў» мяне ў яўрэйскім фальклоры, а заадно прывабіў дзіўнай творчасцю Ісака Бабеля.

Але найбольш мы сышліся ў 1938 годзе, калі на месяц паехалі ў Маскву. Тут я прывяду даволі вялі-

кую цытату з кнігі самога Рыгора Бярозкіна, які раней за мяне напісаў пра гэтыя падзеі:

«У самым пачатку снежня 1938 года тры маладыя беларускія літаратары — Пімен Панчанка, Уладзімір Кандраценя і аўтар гэтых радкоў — прыехалі на курсы-канферэнцыю маладых пісьменнікаў саюзных рэспублік...

Што за незабыўны, насычаны ўражаннямі, цудоўны месяц пражылі мы тады ў Маскве! І з кім мы толькі не сустракаліся, хто не завітаў на аганёк сяброўскай размовы з дваццаццю зялёнымі, нявопытнымі літаратарамі!

Прыходзіў Фадзееў, яшчэ не сівы, лёгкі, акрылены, расказваў пра работу над «Апошнім з Удэге». Аляксей Талстой цярпліва тлумачыў: «Валачыцца па пратораных дарожках з грымасамі і ўсмешкамі, прымервацца, баяцца апячы сабе пальцы на гарачым, слухаць направа і налева...— гэта не мастацтва, гэта рамесніцтва, шкоднае і несумленнае рамесніцтва». Ціхі, марудны Бабель здзіўляў імправізацыямі на розныя тэмы. Грымеў няўрымслівы Вішнеўскі: «А ці знаеце вы, колькі камісараў было ў грамадзянскую вайну» (гэта ў адказ на маю крытычную заўвагу: чаму Камісар з «Аптымістычнай трагедыі» не мае прозвішча?). Федзін успамінаў сваё акцёрства ў маладосці, вайну, рэвалюцыйны Пецярбург, сустрэчы з Горкім.

А музеі, тэатры, майстэрні мастакоў!

У музеі-кватэры Маякоўскага, у Гендрыкавым завулку, нас чакаў Асееў. У музеі Талстога — Шклоўскі. Па Траццякоўцы нас вадзіў «сам» Ігар Грабар, а Канчалоўскі гасцінна расчыніў нам скарбніцу сваіх нацюрмортаў і бэзу.

Пасля «Анны Карэнінай», «Ворагаў» і «Гарачага сэрца» ў Мастацкім тэатры нас прымалі ў рэпетыцыйнай зале Тарасава, Тарханаў, Кедраў. Шэкспіраўскі спектакль у Вахтангава, «Рэвізор» у Малым, лялькі ў

Абразцова. Самотны Меерхольд даверыў нам мару пра грандыёзны тэатр пад адкрытым небам і «каб гледачоў было не менш, чым на футбольным матчы з баскамі»...

За дзень да трагічнай смерці з намі сфатаграфаваўся Чкалаў. Мы пілі і пелі з Сяровым, славутым лётчыкам, героем Іспаніі...

Свята паэзіі і мастацтва, урачыстасць чалавечага духу і таленту, лавіна ўражанняў! І незаменная, незабыўная зарадка на працу без скідак, без ільгот, без патурання слабасцям, неахайнасці, невуцтву...»

Я мог бы дадаць дзесяткі новых імёнаў, сустрэч, уражанняў. Але асноўнае Бярозкін перадаў дакладна і правільна. Гэта быў для нас сапраўдны універсітэт літаратуры і мастацтва, дзе выкладчыкамі былі выдатныя творцы.

Затым жыццё наша пайшло з нейкім драматычным паскарэннем, крутымі паваротамі, рэзкімі і не заўсёды радаснымі зменамі.

Летам 1939 года мяне выклікалі ў Мінск, і я стаў працаваць у газеце «Літаратура і мастацтва». Год назад я быў прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў, выйшла мая першая кніжка вершаў «Упэўненасць».

А восенню 39-га года пачаўся вызваленчы паход у Заходнюю Беларусь. Пасля паходу я застаўся служыць у Чырвонай Арміі, у армейскай газеце 10-й арміі, у Беластоку. Тут мяне і застала вайна. Дэмабілізаваўся ў 1946 годзе. І толькі тады я даведаўся пра лёс Рыгора Бярозкіна: ён быў рэпрэсіраваны. Мяне гэта страшэнна ўразіла. Толкам ніхто не мог расказаць пра Рыгора; тады ўсе аглядваліся, і гэтыя тэмы былі забаронныя. Праўдалюбцы з'явіліся пазней, пасля 20-га з'езда КПСС. Тое-сёе мне расказаў Аркадзь Куляшоў. Пазней паведаміў, што ён з Твардоўскім напісалі ў адпаведныя органы пісьмо, у якім просяць рэабілітаваць Рыгора Бярозкіна, таленавітага крытыка, які

быў ні ў чым не вінаваты і абылганы аглабельшчыкамі і зайздроснікамі.

У 1954 годзе я пачаў рэдагаваць альманах «Советская Отчизна» (пазней «Нёман»). А хутка вярнуўся з далёкіх краёў і Рыгор Бярозкін. Я адразу запрасіў яго на працу. Мне стала лягчэй працаваць: было на каго абаперціся, адбівацца ад графаманаў і халтуршчыкаў.

Грыша не любіў расказваць пра Сібір і Казахстан. Гэта, відаць, болем засела ў яго сэрца. Праўда, пра тое неяк жыццё расказаў мімаходам. «Паўзе клоп па сценцы, а ў мяне няма сілы яго раздавіць...»

Больш любіў расказваць пра вайну, пра Сталінград, пра Вену. А ваяваў Бярозкін добра: ордэн Чырвонай зоркі і Айчыннай вайны, шматлікія медалі дарэмна не давалі.

Пачалася самая плённая пара яго творчасці. Адна за другой выходзяць кнігі: «Паэзія праўды», «Свет Купалы», дзве кнігі пра Аркадзя Куляшова, кніга пра Максіма Багдановіча, «Пімен Панчанка», «Постаці», «Звенні» і іншыя.

Пра «Звенні» хочацца сказаць падрабязней.

Неяк у апошні час у нас павялося так, што пісьменнікі мала чытаюць. Ну, сябе, таварыша, «ворага»...

А мы некалі праседжвалі ў ленінцы, каб усё новае прачытаць: і новыя творы, і крытыку, і шмат чаго іншага. У нас сваіх бібліятэк не было (акрамя якіх двух-трох дзесяткаў любімых кніг). Часопісаў мы выпісвалі мала, беднаватыя былі. А ў бібліятэцы — усё можна было дастаць — і старое і новае. А пасля хадзілі па горадзе і выказвалі свае думкі, спрачаліся. Не было сённяшняй зайздрасці да іншых, гаварылі праўду адзін аднаму ў вочы.

У «Звеннях», як і ў іншых кнігах Бярозкіна, няма і следу правінцыяльнасці ці вучнёўска-студэнцкага пераказу вядомых ісцін. Пра Купалу, Багдановіча,

Куляшова ён пісаў свежа, пераканальна, смела ўключаў у свой аналіз прыклады з рускай і савецкай паэзіі. Пушкін, Лермантаў, Някрасаў, Твардоўскі, Маякоўскі часта ўспаміналіся на старонках кнігі. І на гэтым фоне Бярозкін ярка і доказна сцвярджаў, што развіццё беларускай паэзіі праходзіла не без уздзеяння рускай літаратуры.

Рыгор Саламонавіч умеў паказаць, у чым індывідуальнасць і веліч паэзіі Купалы, Багдановіча, Куляшова, не мінаў ён і маладзейшых, асабліва пранікнёна напісаў (нібы напрарочыў лёс) пра талент Рыгора Барадуліна.

Маладыя крытыкі, што вельмі рана адышлі ад нас, як і сам Бярозкін, Міхась Стральцоў, Варлен Бечык стварылі свае таленавітыя кнігі пра Купалу, Багдановіча, Куляшова. Але напачатку былі пад моцным уздзеяннем Рыгора Бярозкіна. У яго быў магутны інтэлект, глыбокія веды, непагасная любоў да паэзіі, літаратуры, да ўсяго новага і таленавітага.

У канцы пяцідзесятых гадоў мяне назначылі рэдактарам «Маладосці». Рыгор некаторы час яшчэ працаваў у «Советской Отчизне», але не спрацаваўся з новымі людзьмі. Пайшло вандраванне па розных выданнях: то «ЛіМ», то яшчэ што... Сустракаліся мы радзей, абзавяліся сем'ямі, дзецьмі... Бярозкін ніколі не скардзіўся на сваё жыццё, на новую працу, на куслівых і пыхлівых людзей. Застаўся да смерці дасціпным, цікаўным. Замест таго каб запытацца: «Як жывеш, як здароўе?» ён пры сустрэчы пачынаў з жарту, са сваёй ці маскоўскай хохмы: «Ты яшчэ не разлюбіў Мандэльштампа і Пастарнака?»

Такім і застаўся ў маёй памяці Рыгор Бярозкін — друг на ўсё жыццё.

# НЕЗАБЫЎНАЯ ЦЁТКА УЛАДЗЯ

Уладзіслава Францаўна Луцэвіч — вечны спадарожнік, сябар, натхніцель і сапраўдная берагіня Купалы. Мы ўсе (хто блізка ведаў) называлі яе цётка Уладзя ці нават цёця Уладзя. А жанчыны са старых літаратурных сем'яў называлі проста — Купаліха. І толькі калі пры гэтым быў хто-небудзь з начальнікаў альбо незнаёмы чалавек, мы падкрэслена называлі Уладзіслава Францаўна.

Я пазнаёміўся з ёю, калі працаваў настаўнікам і завочна вучыўся ў Мінскім настаўніцкім інстытуце. Мае сябры Алесь Бачыла, Рыгор Няхай і я даведаліся, што Янка Купала кожную суботу прыходзіць галіцца ў цырульню, што была ў гарадской лазні па Садовай вуліцы. А дом Івана Дамінікавіча быў насупраць гэтай лазні. Мы часта хадзілі ў гэтую лазню, і потым гулялі па вуліцы ў надзеі яшчэ раз пабачыць любімага паэта.

Уладзіслава Францаўна першая з намі пазнаёмілася: «Вы, хлопцы, напэўна, вершы пішаце? Вось Янка паголіцца, я пазнаёмлю вас». Але мы тады з трапяткой павагі да паэта проста ўцяклі.

Пазнаёміў мяне з Янкам Купалам у верасні 1939 года Міхась Лынькоў. Наша франтаваная газета «Беларуская звязда» спынілася на некалькі дзён у Мінску ў Доме пісьменніка. Купала прыйшоў святочны — у шэрым паліто, настрой радасны: вызвалялася Заходняя Беларусь. «Гэта наш малады паэт Пімен Панчанка»,— назваў мяне Лынькоў. Купала пацiснуў мне руку: «Чуў, чуў...»

У гэтыя дні Іван Дамінікавіч некалькі разоў прыходзіў да нас у рэдакцыю. І так здарылася, што мяне яшчэ тройчы знаёмілі з ім Броўка, Глебка і Гурскі:

яны адлучаліся з рэдакцыі па сваіх справах і, вярнуўшыся, сустракалі Купалу. Купала прыжмурваў вочы: «Чытаў, чытаў... Ведаю, ведаю...»

Пасля гібелі паэта, якую ўсе цяжка перажывалі, мы з Пятром Глебкам апынуліся зімой 42-га года ў рэзерве палітработнікаў Чырвонай Арміі.

У гасцініцы «Масква» сустрэліся з Уладзіславай Францаўнай, разам пагаравалі, паўздыхалі. А пасля яна і кажа: «Чаго вы, хлопцы, тут кіснеце? Давайце гарэлку і франтавую закусь і пойдзем знаёміцца з добрымі людзьмі». Так мы пазнаёміліся з сям'ёй блізкага сябра Купалы дырэктара дзяржаўнага выдавецтва літаратуры Чагіна. Каго толькі мы не сустрэлі ў гэтай сям'і. (А яны жылі, як і многія масквічы ў той час, у гасцініцы «Масква».) Там мы пазнаёміліся з жонкай Луначарскага Разанель, Дзям'янам Бедным, Карнейчуком і Вандай Васілеўскай, Бажаном з прыгожай маладой жонкай...

Пасля вайны мы нярэдка ўспаміналі з цёткай Уладзяй гэтыя сустрэчы.

Я аднойчы захварэў. Пра гэта даведалася цёця Уладзя і прыслала да мяне ўсіх знаёмых дактароў, што родам з Беларусі. Я глытаў розныя горкія таблеткі, пакуль неяк Пятро Глебка не скамандаваў: «Годзе, так чалавека можна і на той свет адправіць!» — дастаў з кішэні паўлітэрку і сказаў: «Вось цяпер будзем лячыцца па-франтавому».

У снежні 1945 года я прыехаў у Мінск з Ірана. На месцы старога купалаўскага дома стаяў новы двухпавярховы: цяпер музей Янкі Купалы. Зазірнуў у музей і, на радасць, сустрэў Уладзіславу Францаўну... Яна, як заўсёды, была энергічная, лаяла нейкіх начальнікаў, выбівала патрэбныя матэрыялы і тут жа раілася: «Вось тут змесцім такі матэрыял, а там такі...»

У 1949 годзе Акадэмія навук БССР выдала зборнік вершаў «Янку Купалу». Уладзіслава Францаўна па-

дарыла гэты зборнік мне з такім надпісам: «Паважанаму і дарагому т. П. Панчанку на шчыры ўспамін аб Янку. У. Луцэвіч 24.VII-49 года».

У зборніку быў змешчаны мой верш «Мінску», які быў напісаны на фронце ў 1942 годзе, дзе былі такія радкі: «Хачу пакланіцца руінам той хаты, дзе Янка Купала паэмы тварыў...»

І хоць дужа была занятая працай у музеі па складанні зборнікаў пра Купалу, цёця Уладзя заставалася ўсё такой жа гасціннай і добразычлівай. Аднойчы яна запрасіла Глебку і мяне ў сваю кватэру, што была побач з паркам Горкага. Уладзіслава Францаўна была вельмі экспансіўнай: не паспелі з'есці адзін прысмак, а гаспадыня патрабавала прынесці другі. Глебка не вытрымаў: «Цёця Уладзя, гэта смачна, і [redacted] не аддам, праўда, Пімен?»

Успаміны чаргаваліся з жартамі, слёзы з любімымі купалаўскімі радкамі. А пад канец, як заўсёды, мы заспявалі любімую купалаўскую:

Як на свет радзіўся Янка,
Ён заплакаў многа-мала...
А зязюлька кукавала:
Ку-ку, кінь дакуку...

У 1949 годзе мы паехалі ў Вязынку — на радзіму Івана Дамінікавіча. З якой цікавасцю і трапяткой улюбёнасцю мы аглядалі ўсе рэчы гэтага музея. А пасля на зялёным узгорку, непадалёк ад хаты Купалы, пад шыракалістым дубам, мы адсвяткавалі адкрыццё Вязынкі-музея.

Былі ўсе старэйшыя пісьменнікі: і Крапіва, і Лынькоў, і Броўка, і Глебка... Чыталі вершы, успаміналі Івана Дамінікавіча, і сярод нас была як ганаровая гаспадыня Уладзіслава Францаўна.

Яна любіла родныя мясціны. Аднойчы яна прапанавала мне і майму сябру паехаць у Дзяржынава. Мы ехалі праз Валожынскі раён — радзіму Уладзіславы

Францаўны. І колькі прагучала чароўных успамінаў пра юнацтва цёці Уладзі. Яна аж памаладзела тварам.

На вялікі жаль, у 1960 годзе Уладзіславы Францаўны не стала. Яна не бачыла, як мы перавезлі з Масквы прах Івана Дамінікавіча і пахавалі на Вайсковых могілках. Не бачыла, як у парку Купалы ўзняўся велічны помнік любімаму народнаму паэту працы Анатоля Анікейчыка.

Але вобраз Уладзіславы Францаўны Луцэвіч увесь час перад намі, як перад намі і яе няўрымслівая натура, добразычлівасць, клапатлівасць, вялікая энергія ў імя таго, каб вечна звінела неўміручая песня Янкі Купалы.

# МАТЧЫНА ЛАСКА

З радасцю сустрэў паведамленне аб стварэнні рэспубліканскай дзяржаўнай праграмы «Спадчына». А вось і першы нумар часопіса, які мы чакалі.

У нашых сэрцах зацеплілася надзея, што зноў адродзіцца беларуская мова, якую Адам Міцкевіч (наш зямляк) лічыў адной з самых прыгожых, самабытных. Марылі, што ажыве нацыянальная культура і нарэшце ўспомнім сваю гісторыю без чорных і белых плям і раскажам яе праўдзіва і цікава сваім дзецям, унукам і праўнукам.

Калі ў 1942 годзе ў Маскве загінуў наш незабыўны Янка Купала, над яго труною былі накрэслены словы: «Мне сняцца сны аб Беларусі...»

Праз 20 гадоў, у 1962 годзе, урна з прахам Купалы была перавезена ў Мінск. Невялікая група старэйшых беларускіх пісьменнікаў (куды ўключылі і мяне) бачыла, з якой павагай і журбою праводзілі масквічы нашага Янку Купалу. У Данскім манастыры ў калумбарыі крэматорыя сабраліся славутыя рускія паэты і пісьменнікі на чале з Канстанцінам Федзіным. Пасля яны пранеслі урну з прахам па доўгай алеі да самай машыны.

А вось у Мінску пачаліся цуды. Ніхто не ведаў, куды паставілі урну, калі і на якіх могілках будуць хаваць Янку Купалу... Пачаўся новы, хрушчоўскі наступ на беларускую мову і культуру.

Вайсковыя могілкі (на Даўгабродскай) сталі апошнім прыстанішчам вялікага беларускага песняра. Быў жалобны мітынг, развітальныя прамовы. Мы разыходзіліся сумныя і збянтэжаныя, бо насустрач нам ішлі і ішлі мінчане і пыталіся: «Дзе пахавалі Янку Купалу?»

Калі ў 1945 годзе вярталіся з арміі ў родны горад ці вёску, перш-наперш лічылі, хто застаўся жывы, хто і дзе загінуў, што ацалела пасля страшэннай вайны.

У Мінску на руінах цэнтра на снезе былі пратаптаны сотні сцежак. Ацалелі асобныя збудаванні (Дом урада, Дом афіцэраў, Оперны тэатр, чырвоны касцёл, тое-сёе на пляцу Волі). Я хадзіў па тых сцежках і прыпамінаў, што тут стаяла, што тут было: рэдакцыя «Звязды», Саюз пісьменнікаў, кніжны магазін... На пляцу Волі мяне ўзрадавалі да болю знаёмая гадзіннікавая вежа (пазней яе па нейчым загадзе знеслі), касцёл (яго пазней знявечылі і аддалі пад спартыўную залу), царква, а вось гасцініцы «Еўропа» не было (на гэтым месцы збудавалі кансерваторыю).

Пазней мне, бескватэрнаму, далі пуцёўку ў Нясвіжскі замак, дзе зрабілі санаторый для партызанаў, партыйных працаўнікоў. Мы аглядалі замак і дзівіліся, як грунтоўна і велічна будавалі пры Радзівіле. Наведалі бліжэйшы касцёл, дзе ў сутарэнні ляжалі забальзаміраваныя родзічы князя.

Я ўспамінаю даваенны і зруйнаваны Мінск, бо памятаю радкі Янкі Купалы з верша «Спадчына» (на вялікі жаль, яны выкінуты з вядомай песні):

І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён не з'едзены.

Беларускія землі заўсёды былі пад нейчай каронай ці акупацыяй: і Польшча, і Расія, і Літва, і французы, і шведы, і немцы... Шмат скарбу збрыло проч: мы і цяпер не ведаем, дзе крыж Ефрасінні Полацкай, дзе старажытныя кнігі і рукапісы, дзе неацэнныя старыя іконы, жывапіс, царкоўнае золата і срэбра...

Але і трутнямі знішчана многа, асабліва ацалелае пасля вайны. Полацк і Віцебск, Тураў і Пінск, Гародня і Заслаўе — гэта неацэнныя гістарычныя помнікі,

наша гісторыя. І гэта не поўны пералік. Шкада, што ім не было дастатковай увагі, дзяржаўнага беражэння. Так, у Віцебску была ўзарвана царква XI стагоддзя: спатрэбілася будаўнічая пляцоўка. У Мінску за адну ноч была зруйнавана цэлая вуліца Няміга, а яна некалі была галоўнай вуліцай Мінска. Ды пра яе яшчэ ў «Слове пра паход Ігаравы» сказана так моцна, што рака Няміга паплыве і ў наступныя вякі. А мы маглі б хадзіць па старажытнай вуліцы (рака, як вядома, у калектары), вадзіць сюды гасцей, купляць сувеніры ў шматлікіх крамах і крамачках.

Перашкаджае нейкаму важнаму бюракрату старая цэркаўка, гістарычны будынак, папсаваны часам, нават зялёны скверык каля вакзала. Рашучы загад — і пажарнікі за ноч знясуць усё, што вякамі радавала вока людзей. Прыкладаў бясконца многа. Так здарылася некалі з прывакзальным скверам у Магілёве: за ноч знішчылі і заасфальтавалі, каб было дзе ставіць машыны, бо меўся прыехаць вялікі начальнік.

Цяпер шмат чаго змянілася. Хацелася б, каб былі больш гістарычна адукаванымі і абачлівымі нашыя архітэктары і гарадскія ўлады. Бо старажытныя паркі высякаюць і па сённяшні дзень.

Засталося ў нашай рэспубліцы яшчэ шмат старажытнага, гістарычнага, непаўторнага. Трэба ўсё ўлічыць, ацаніць, захаваць.

І не толькі ў архітэктуры. У нас нарадзіліся, жылі, прыязджалі працаваць ці адпачываць выдатныя людзі братніх народаў: Пушкін, Міцкевіч, Манюшка, Бунін, Чайкоўскі, Рэпін і іншыя.

Некаторым здаецца, што сяло Міхайлаўскае, Святыя горы (цяпер Пушкінскія) недзе на поўначы, далёка ад Беларусі. А яны побач, недалёка ад Віцебскай вобласці. Калі Пушкін вяртаўся з поўдня, з высылкі, яго шлях ляжаў праз Беларусь. Ён спыніўся на паштовай станцыі ў Магілёве. І тут яго запрасілі афіцэры

мясцовага гарнізона. Пушкін згадзіўся. Афіцэры перш-наперш выкупалі Аляксандра Сяргеевіча ў ванне з шампанскага, а пасля пачаставалі і прасілі чытаць любімыя вершы.

Калі пра Адама Міцкевіча мы ведаем амаль пра ўсё яго жыццё на Беларусі, то пра Станіслава Манюшку — ведаем мала. А ён жа нарадзіўся ў фальварку Убель каля Чэрвеня (былога Ігуменскага павета), вучыўся ў Мінску, сябраваў з Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам. Манюшка напісаў некалькі музычных вадэвіляў да лібрэта Дуніна-Марцінкевіча. Асаблівы поспех мела камічная опера «Сялянка» з шырокім выкарыстаннем беларускага музычнага фальклору. «Сялянка» ішла ў Мінску ў 1852 годзе, а праз сто гадоў, у 1952 годзе, у нашым тэатры была пастаўлена опера «Страшны двор». А вось пра «Сялянку» забыліся. Варта ўспомніць і паставіць, дадаўшы аднаактовы балет, накшталт «Шапеніяны».

Некаторыя нашы вёскі носяць назвы Каралішчавічы, Каралёў стан — гэта з часу шведска-рускай вайны. Мы ведаем, дзе былі баі з Напалеонам, і пра Лясное, і пра пераправу на Бярэзіне.

А вось што рух дзекабрыстаў быў і на Беларусі — ведаем мала. А між тым у 1825 годзе капітан Ігельстром і шляхціц Рукевіч заснавалі таварыства «Вольных сяброў», у склад якога ўвайшлі афіцэры і салдаты Літоўскага корпуса, перадавая моладзь з навучальных устаноў Гродзенскай губерні і Беластоцкай вобласці. У лютым 1826 года спрабаваў узняць паўстанне ў Бабруйскім гарнізоне прапаршчык С. Трусаў.

Наша рэспубліка — унікальная па сваіх лясах (чаго вартыя толькі Белавежская і Налібоцкая пушчы), па рэдкіх раслінах, кветках, птушках, звярах. Хто не дзівіўся на зубра ў Белавежы ці ў Бярэзінскім запаведніку. Цяпер мы перавялі зубрыныя статкі ў Прыокскі запаведнік і на Каўказ. Мы шчодрыя. Дзе-

лімся з братамі ўсім, што маем, і з намі браты дзеляцца. Нядаўна ў газетах прамільгнула паведамленне, што ў Брэсцкую вобласць завезлі 600 паўночных аленяў: на Поўначы не хапае ягелю.

Нашы дзеці і ўнукі (асабліва гарадскія) не ведаюць беларускіх назваў траў, кветак, птушак. Скажыце «пліска», «кнігаўка», «кажан», «хрушч» — і мала хто адкажа, што гэта такое. А ўжо ніхто не скажа, што бачыў жаўну — чорнага дзятла з чырвоным грабеньчыкам. Іх яшчэ ў нас водзіцца нямала. А я шчаслівы, што гадоў 15 таму назад у Жыткавіцкім раёне ў Тураўскім запаведніку ўбачыў чорнага бусла — вось гэта сапраўдная рэдкасць.

Пасля Чарнобыля паменшала ў нас і птушак, і рыб, і дробнага жывёльнага свету.

Трэба ўсім народам з усёй адказнасцю берагчы і жывое святло лясоў, лугоў, азёраў, рэчак і трэба берагчы і архітэктурныя помнікі, старажытныя палацы і замкі, касцёлы і цэрквы, абразы і сялянскае начынне — усё, што пакінула нам у спадчыну старонка родная, каб стала яна, як пісаў Янка Купала, «ласкай матчынай».

# ЧАРАЎНІК СЛОВА З УШАЧАЎ

Ён ніколі не быў пачаткоўцам, ніколі не быў у краіне паэзіі нясмелым вандроўнікам, які гадамі шукае сваю дарогу, блукаючы па чужых сцежках, з цяжкасцю вызваляючыся ад учэпістых кіпцяў літаратуршчыны. Ён сваю дарогу знайшоў адразу, адразу прыйшоў да чытача. Рыгор Барадулін, сын беларускай сялянкі Куліны, якая надзяліла яго чарадзействам роднага слова, сын беларускага партызана Івана Барадуліна, які загінуў смерцю адважных, не паспеўшы даць сыну першыя ўрокі граматы. Пра тое, як спасцігалася гэтая грамата, паэт расказаў праз тры дзесяцігоддзі пасля гібелі бацькі ў вершы «Бацькаў урок». Вобразны строй ужо аднаго гэтага верша выяўляе асноўную асаблівасць паэтычнага мыслення паэта, мыслення, якое сфармавана памяццю пра вайну. Вядома, што ягоная паэзія непамерна шырэй, яна ўвабрала ў сябе ўвесь агромністы сучасны свет, але гэты свет стаіць на падмурку памяці, на той абпаленай вайной зямлі, якая змяшана з попелам Хатыні, з попелам Дальвы, з попелам іншых беларускіх вёсак, з попелам гарадоў Беларусі...

Вось чаму чытач часта будзе сустракаць у яго кнігах горкія, як палын на безымяннай магіле, вершы, што раняць, як асколкі гранаты, вершы, начыненыя ўзрыўчаткай вайны,— так праходчыкі Мінскага метро неаднойчы натыкаліся то на склад снарадаў, то на авіябомбу, то на астанкі ахвяр фашысцкага тэрору...

Узрыўчатка памяці — падаснова творчасці Рыгора Барадуліна, чыю паэзію можна параўнаць з вялікім горадам, шматгалосым, шматлюдным, поўным чалавечай пачуццёвасці, палымянасці ва ўсіх іх разнастайнасцях. Але ж гэты горад узрос на месцы руін!

Аднак параўнанне барадулінскай паэзіі з вобразам горада, што паўстаў на месцы былых руін, прыходзіць не толькі для таго, каб падкрэсліць непарыўную сувязь гэтай паэзіі з памяццю пра вайну. Паняцце «горад» вызначае тое новае, што прынёс у беларускую паэзію Рыгор Барадулін.

Для размовы пра гэта патрэбна ўспомніць яго першую кнігу, якая выйшла ў канцы 50-х гадоў і называлася «Маладзік над стэпам».

Кніга ўразіла і парадавала цудоўнай беларускай мовай, глыбіннай і ў той жа час сённяшняй. У ёй жылі думкі і пачуцці маладога чалавека, беларуса, учарашняга вясковага хлопца, які стаў жыхаром вялікага культурнага індустрыяльнага цэнтра, пабудаванага аднагодкамі Рыгора Барадуліна, такімі ж, як ён сам, вясковымі хлопцамі і дзяўчатамі, гараджанамі новага часу. Гэты момант трэба падкрэсліць асабліва. Трэба заўважыць, што за рэдкімі выключэннямі — усе беларускія паэты, наогул усе беларускія пісьменнікі родам з вёскі. І тлумачыцца гэта тым, што ва ўмовах Беларусі (так ужо склалася) толькі вёска стала захавальніцай беларускай мовы, застаючыся адзінай незамутнёнай крыніцай роднага слова, якая жывіла і жывіць да гэтага часу нацыянальную літаратуру, асабліва — нацыянальную паэзію. Аднак, на пэўным этапе, вясковае паходжанне амаль усіх беларускіх паэтаў прывяло да тэматычнай аднастайнасці. Паўтараліся адны і тыя ж матывы, горш таго — адзін і той жа вобразны строй і лад. Многія паэты, дзесяцігоддзямі жывучы ў горадзе, нібыта не заўважалі яго жыцця, не заўважалі гістарычнага працэсу, у які ўцягнуты сотні тысяч учарашніх вясковых жыхароў.

Людзі думалі і адчувалі па-новаму, рабіліся якасна іншымі, а шмат якія барды бачылі ў гэтых зменах нешта варожае, упарта супрацьпастаўляючы гораду вёску свайго далёкага дзяцінства, непазбежна ідэа-

лізуючы яе. А тая вёска была толькі плодам тугі таго ці іншага вершаскладальніка па даўно мінулых днях сваёй басаногай пары. Вядома, паэзія Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Максіма Танка, некаторых іншых паэтаў расхінала далягляды вясковага свету, была маштабнай, усечалавечай, але ўсё ж у цэлым патрабаваўся наступны рывок у новую сапраўднасць, якую нарадзілі перамога сорак пятага і навукова-тэхнічная рэвалюцыя. Патрабаваўся паэт новага пакалення беларусаў, новы лірычны герой.

У сваім «Маладзіку над стэпам» Рыгор Барадулін і выявіў чытачу гэтага новага лірычнага героя. Ён не парушыў глыбінных, крэўных сынавых сувязей з роднай вёскай, але стаў не проста жыхаром, а і гаспадаром горада, больш таго — жыхаром усёй краіны. Назва «Маладзік над стэпам» была не толькі вобразам цаліны, у асваенне якой уклаў сваю працу і частку душы студэнт Белдзяржуніверсітэта Рыгор Барадулін. Яна адлюстроўвала светаадчуванне маладога паэта, фіксіравала выхад у касмічны прастор жыцця. «Вёскай» Рыгора Барадуліна стала ўся наша зямля. І гэта не проста словы: новыя кнігі паэта нараджаліся ў вандраваннях на Далёкі Усход, па Сібіры, па дарогах амаль усіх рэспублік.

Дзесяткі цудоўных вершаў нарадзіліся ў Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, у скандынаўскіх краінах, на Кубе...

Шматфарбны жывапіс словам, які спалучае гранічную канкрэтнасць з шырокім абагульненнем. Фальклорная аснова бліскуча пераўвасоблена ва ўсю разнастайнасць формаў сучаснай сусветнай паэзіі, прастата, натуральнасць і адначасова філасофская глыбіня — усё гэта ўласціва барадулінскім карцінам жыцця. У гэтых карцінах выпукла абазначаны духоўны і душэўны склад самога паэта, выяўлены вытокі ўласнай творчасці. Ва ўсіх сваіх кнігах Рыгор Бара-

дулін прасочвае духоўную сувязь людзей свайго пакалення з іх ваенным маленствам, заўсёды адданых памяці тых, што загінулі, заўсёды звяртаецца да роднай прыроды, адчуваючы яе, як частку самога сябе. Паэт славіць родную хату на сваёй зялёнай Ушаччыне, прыносіць да яе парога кветкі ўсіх рэспублік і многіх блізкіх і далёкіх заморскіх краін. Паэт адчыняе вокны гулу ўсяго свету, заўсёды апявае гаспадыню гэтай хаты, маму сваю Куліну Андрэеўну, чый вобраз набыў у яго творчасці цудоўныя рысы ўсечалавечай Маці, захаваўшы ў той жа час глыбока нацыянальныя рысы беларускай сялянкі.

...Мама мая хрысціянкай зжыла,
З богабаязнай душою, іконніцай.
Ды, вернападдадзеная святла,
Болей была яна
Вогнепаклонніцай.

Звідна карміла агонь з рукі,
Яму выбірала кавалкі ласыя —
Бяросту,
Крамяныя смалякі.
Ёй полымя пальцы лізала з ласкаю.

...Іскрынкі раздзьмухвала на далані,
Нібы ад мякіны адвейвала зерняты.
Штодня да агню,
Да гарачыні
Былі і падумкі, і вочы звернуты.

...Каб на сівярах не марозна было,
Каб збілася з ног снегавеяў конніца,
Пакінула мне на зямлі
Цяпло
Акуліна Андрэеўна —
Вогнепаклонніца...

Тэма маці ў паэзіі Рыгора Барадуліна заслугоўвае спецыяльнага даследавання. Да Барадуліна ніхто, здаецца, калі гаварыць пра беларускіх паэтаў, не напісаў пра маці так шмат і натхнёна. Яе вобраз асвят-

ляе ўсе барадулінскія кнігі. Нездарма на вокладцы адной з кніг — «Неруш» — мы бачым добрыя, мудрыя, трывожна-турботныя вочы Куліны Андрэеўны Барадулінай, нязменнай музы паэта. Муза гэта натхніла паэта на стварэнне дзесяткаў кніг. Тут і кнігі лірыкі, і вершы для дзяцей, і зборнікі гумару і сатыры, якія іскрацца дасціпнасцю, і бліскучыя літаратурныя пародыі і эпіграмы.

А яшчэ трэба дадаць пераклады — з рускай, украінскай, літоўскай, латышскай, польскай паэзіі. Паўнагучна, гранічна блізка да арыгінала загучалі на беларускай мове і Гільен, і Лорка, і Неруда.

Рыгор Барадулін пры ўсім сваім жыццялюбстве ніколі не быў «ружовым аптымістам», ніколі не адварочваў твару ад трагічнасці быцця...

Сонца барадулінскай паэзіі ў зеніце, рука цвёрдая і ўпэўненая, сэрца маладое. Шлях Рыгора Барадуліна працягваецца. І можна быць упэўненым, што чараўнік слова з Ушачаў адкрые і асвоіць не адну паэтычную цаліну, яшчэ не раз падорыць нам шчодры россып сваіх новых вершаў, падорыць з той добрай і мудрай усмешкай, з якой адорвала сяброў паэта спелымі баравымі ягадамі яго маці.

Многа гадоў Рыгор Барадулін натхнёна працуе ў нашай паэзіі. Яго талент з гадамі не драбнее, а робіцца больш плодным і глыбокім, не губляе мастацкай свежасці і неардынарнай думкі.

Анатоль Франс некалі пісаў, па якой адзнацы можна вызначыць вялікага пісьменніка. Ён разглядае такія крытэрыі, як валоданне формай, здольнасць ствараць цікавыя і разнастайныя характары, прыгажосць мовы, займальнасць сюжэта, і на прыкладзе пісьменнікаў, чыя веліч агульнапрызнаная, даводзіць негрунтоўнасць гэтых крытэрыяў. І ўсё-ткі Анатоль Франс знаходзіць адказ: любоў да людзей — вось што стварае вялікага пісьменніка.

Барадулін бліскуча валодае формай, у яго адметная мова, яго чытаеш з цікавасцю і хваляваннем.

Сёння, калі прыйшла пара спелага майстэрства, Барадулін вяртаецца да сваіх вытокаў, да зямлі бацькоў (у яго ёсць добры верш «Прыцягненне віцебскай зямлі»), з яе мужнымі людзьмі, высокімі барамі, блакітнымі азёрамі і рэчкамі. Як быццам знаёмыя тэмы.

Але паэт усё гэта паказвае па-новаму, з вышыні набытага вопыту, глыбокага, а часам і цяжкога роздуму. Гэта роздум пра хлеб, які пачынаўся з мазаля і біў зямлі паклоны. Гэта пра сялянскія карані, нязводны род зялёны. Гэта «вяртанне ў боль, вяртанне ў бой, вяртанне да сябе самога».

У апошнія гады паэт напісаў многа вершаў і паэм, у якіх ён пазбавіўся палітызацыі і публіцыстычнасці (якімі многа грашылі некаторыя паэты, у тым ліку і я). Барадулін дападаў да самых першародных асноў народнага жыцця, працы, звычак, абрадаў, светапогляду. Не заўсёды гэта было паэтычна дасканала і доказна, але заўсёды на вершах адчуваўся пякельны водсвет трагедый XX века, паэта жывілі працавітасць, цярплівасць і нязгасная надзея беларусаў, мудрасць, невычэрпнае багацце мовы роднай Ушаччыны.

І я сцвярджаю: Рыгор Барадулін сёння лепшы, самы таленавіты паэт Беларусі.

Мне хочацца закончыць свой артыкул вершам, прысвечаным Рыгору Барадуліну:

Ты прыйшоў з вайны і гора,
Ты з малітвы,
Ты з разгневанага бору,
Ты смалісты.
Сто паэтаў цягнуць хорам,
Ты салістам.
Ты нібы святло ў лесе
Ад каліны,
Ты ад самай добрай песні —
Ад Куліны.

# ПАЭЗІЯ БЕСКАПРАМІСНАЙ ПРАЎДЫ

У сярэдзіне пяцідзесятых і пачатку шасцідзесятых гадоў у беларускую паэзію ўліўся значны атрад першых пасляваенных паэтаў. Нехта не зусім удала ахрысціў яго «філалагічным» пакаленнем, бо амаль усе яны — гадаванцы БДУ. У гэтай назве толькі часцінка праўды. Маладыя паэты былі дзецьмі вайны, сапраўднымі ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай, вядома, у меру сваіх сілаў і ўзросту. У іх ужо быў горкі вопыт, талент, жыццярадаснасць, запал і актыўнасць.

Адзін з самых яркіх і самабытных паэтаў гэтага пакалення — Генадзь Бураўкін.

Генадзь Мікалаевіч Бураўкін нарадзіўся на Расоншчыне, дзе пачынаўся гераічны шлях незабыўнага Пятра Міронавіча Машэрава, які зрабіў вялікі ўплыў на паэта.

Было суровае, поўнае небяспекі дзяцінства, калі Генадзь са сваімі малымі сябрамі расстрэльвалі каменнем партрэт Гітлера. І сёння нельга без хвалявання чытаць верш «Бязбацькавічы», як у сорак пятым малыя хлопцы беглі насустрач «салдатам вусатым» і нават не бачылі, як побач плакалі іх аднагодкі, якіх «сурова назвала бязбацькавічамі вайна».

У 1952 годзе шаснаццацігадовы юнак надрукаваў свой першы верш, а ў 1960 годзе выходзіць першы зборнік «Майская просінь», а затым пайшлі да людзей адна за другой кнігі паэта: «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Варта вернасці» і іншыя, каля двух дзесяткаў паэтычных кніг, некаторыя з іх выдадзены на рускай, украінскай і іншых мовах.

Пісаў Г. Бураўкін і аповесці, і сцэнарыі кінафільмаў, і артыкулы.

Паэзія Г. Бураўкіна — заўсёды глыбокая, з выразнымі рысамі грамадзянскасці, з разуменнем вялікай адказнасці перад народам, часам.

Гэта цвёрды светапогляд, разуменне складанасці і жорсткасці жыцця.

Гэта радасць і хваляванне будаўніка новага свету, любоў да радзімы, да нашага жыцця, да роднай Беларусі, да сваіх вытокаў. Паэт, здаецца, адным з першых у беларускай паэзіі ўславіў будаўнікоў Полацкага нафтабуда.

Гэта прасякнутыя болем, любоўю і журбою радкі пра хатынскі снег, пра гераічнае жыццё і гібель Юрыя Гагарына, пра Чэ-Гевару.

Любоў, слова, краса і найлепшая песня для Генадзя Бураўкіна — родны Полацк. Некалькі гадоў таму назад мне давялося паездзіць з паэтам па ягонай роднай зямлі. Прыемна было глядзець на Генадзя, з якой любоўю і дасведчаннем ён паказваў нам і Сафію, і Ефрасінню, і шмат іншай старажытнай і сучаснай прыгажосці. Ну, проста спадчынны гаспадар полацкай зямлі!

Пазней, недалёка ад горада, мы начавалі ў хаце бацькі паэта. Мы з Генадзевым бацькам як былыя франтавікі спакойна і стрымана ўспаміналі фронт і салдацкае жыццё. А Генадзь з сябрамі ўсю ноч горача спрачаўся і вырашаў неадкладныя пякучыя праблемы, якія нельга адкласці ні на адзін дзень...

Мне заўсёды смешна і крыху няёмка чытаць артыкулы peравучаных (альбо мала навучаных сапраўднаму разуменню паэзіі і добраму густу) некаторых крытыкаў, літаратуразнаўцаў, якія ўсіх аўтараў імкнуцца раскласці па загатаваных палічках: лірык, эпік, майстар паэмы ці балады, пясняр роднай прыроды, гумарыст, сатырык, знаўца беларускага фальклору, грамадзянскі, публіцыстычны...

Сапраўдны паэт, калі піша, не думае ні пра ямб, ні

пра харэй, ні пра вольны верш, ні пра верлібр. Ён піша так, як патрабуе матэрыял, падзея і само сэрца паэта. А форма сама з'явіцца, нечаканая і дакладная.

У выдатных паэтаў уражвае перш-наперш праўда народнага жыцця, думак і пачуццяў, непаўторны вобразны строй, уменне ўздзейнічаць на чытача мастацкай сілай і свежасцю. Яны то гаруюць, то радуюцца, то праслаўляюць дабрыню і справядлівасць, то гнеўна пратэстуюць супраць зла і няпраўды, то ганьбяць цёмнае і абывацельскае, то смяюцца праз слёзы. Трагедыя амаль заўсёды суседнічае з камедыяй, вялікае са смешным.

Лірыка часта спалучаецца з публіцыстычнасцю. І заўсёды можна разгледзець ідэйную пазіцыю паэта: што ён любіць і ненавідзіць; як ставіцца да падзеі, жанчыны, дзіцяці, прыроды. Так пісалі Купала, Ясенін, Твардоўскі, Куляшоў.

Так імкнецца пісаць і Генадзь Бураўкін.

Чытач ніколі не будзе абыякавы да такіх ягоных вершаў, як «Грамы варочаюцца ў небе», «Жаўранак над праспектам», «Выток», «За ўсё плаціў я поўнай платай», «Шукшынская каліна», «Далей ад павучальных лекцый»...

Мне вельмі падабаецца сатырычна-гераічная лінія ў паэзіі Бураўкіна. Пачалася яна ад верша «Пра сціпласць», дзе даўні таварыш не стаў на абарону роднага народа і краю, бо ён «Заўсёды збоку ад бяды». У гэтым жанры стварыў сапраўды выдатныя вершы: «Кампрамісты» і «Сабакары», «Зусім «бязгрэшным». Тут паэт гнеўны і бязлітасны, востры і дасціпны.

Паэт выразнага грамадзянскага пафасу, публіцыстычны без рыторыкі — Г. Бураўкін нечакана для некаторых выдаў цудоўную кнігу пра каханне.

І яшчэ некалькі слоў пра песню.

Песні сучасных беларускіх кампазітараў (асабліва І. Лучанка і Э. Ханка) заваявалі любоў і ў Беларусі, і ў

шмат якіх краінах свету. Варта прыгадаць такія цудоўныя песні, як «Алеся», «Жураўлі на Палессе лядзяць», «Ручнікі», «Спадчына», «Александрына», «Мой родны кут», «Вераніка», «Малінаўка», «Вы шуміце, бярозы», «Два полі», «Світанак».

У гэта песеннае сузор'е хараша ўпісаліся і палюбіліся народу песні на вершы Г. Бураўкіна: «Зачараваная мая» і пра каня незацуглянага; і пра зімовыя пачуцці адзіноты, калі толькі снег, снег і «ні вакон, ні вачэй»; і роздум пра далёкае шчаслівае юнацтва, якое ўжо бачыш з вышыні ўзросту: «Павуцінка — уверсе, павуцінка — у верасе, павуцінка — ў маіх валасах».

Усё застойнае, старое, аджытае, нахабнае, махлярскае, бюракратычнае яшчэ ўпарта і злосна, часам вельмі вынаходліва і хітра супрацiўляецца, адбіваецца, наносіць жыццю народа вялікую шкоду. Асабліва ў маральных пытаннях, у справе выхавання моладзі.

Сумленная літаратура заўсёды была пранізана болем свайго народа і свайго часу. Нам трэба глыбей заглядваць у душу чалавека, ва ўсе яго канфлікты: эканамічныя, экалагічныя, маральныя, душэўныя, каб стварыць творы вялікай праўды, бо, як некалі сказаў Э. Хемінгуэй: «Задача пісьменніка нязменная. Яна заўсёды ў тым, каб пісаць праўдзіва».

У лепшых творах Генадзя Бураўкіна мы знаходзім гэту праўду, сумленнасць і шчырасць.

* * *

Дарагі дружа Генадзь!

А можа, і так: «Паважаны пан Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі!»

У апошні час радыё перадае папулярную песню пра хлопца, які з'ехаў у Амерыку: «Америка-разлучница, храни его, храни...» І я таксама мармытаў гэтую песню, маючы на ўвазе Вашу ягамосць.

Але ў лістападзе прыйшоў 10 (кастрычніцкі) нумар «Полымя».

З радасцю прачытаў вершы Генадзя Бураўкіна з кнігі «Узмах крыла». Свежа, таленавіта. Усё тут лягло на сэрца, пачынаючы ад светлых радкоў: «Якое шчасце — жыць на белым свеце...» Гэта вельмі добра (менавіта цяпер), калі строй думак у большасці паэтаў разбэрсаны, тужлівы, крытычны (што за жыццё? Далоў! Скінуць! Суцэльная неўладкаванасць, азлабленне, прымітыўная грызня, амбіцыі, жабрачае жыццё, ніякіх перспектыў і г. д.).

І тут мы прачыталі выдатны верш Генадзя Бураўкіна «Беларусі 90-х гадоў». Паэт з-за акіяна звяртаецца да Беларусі: у яго душы выспявае не просьба, а крык: «Беларусь, свае таленты беражы, калі хочаш свабоднаю быць!» Вось табе і «Америка-разлучница, храни его, храни...».

І далей усё ўзрастае тэмп, усё ярчэй і гарачэй праўда, з якой звяртаецца да роднай краіны паэт:

Свае таленты беражы,
Калі хочаш свабоднаю быць!

Няцяжка згубіць дарогу ў вар'яцкай яздзе:

Беларусь,
Свае таленты беражы,
Калі хочаш разумнаю быць.

Ты аглухла сягоння ад песень чужых, а свае ўсе паспела забыць.

Беларусь,
Свае таленты беражы,
Калі хочаш славутаю быць!

І не проста рытарычны заклік, а надзея прагнаць з даляглядаў сваіх міражы, не стаяць сіратліва ля суседскай мяжы, калі хочаш магутнаю быць, калі хочаш шчасліваю быць!

І неяк па-іншаму, як знаёмы і родны, успрымаецца верш «Прысніўся сон матулі...». Сон пра сына, які нібыта ходзіць па кватэры, ламаючы струхнелыя масніцы. Спрадвечныя сны, спрадвечная горкая трывога нашых матуляў. А ў наступным вершы паэт сцвярджае самае галоўнае:

Застануся з надзеяй і болем...
А мая дарагая радзіма
Мне патрэбна ўсё болей і болей.

Часта, вельмі часта звяртаецца Бураўкін да родных мясцін, сяброў, раскладзеных агнёў, да роднай мовы, і таму самотныя радкі:

Крылы ж мне адлегласцю звязалі.
І сярод бязрадасных размоў
Я жыву, нібыта на вакзале,
І чакаю цягніка дамоў.

І мы адчуваем боль і трывогу паэта, калі ён жадае, каб экспрэс спыніўся ля вёскі, дзе на ўзгорку — родныя магілы, а навокал — родная зямля. І яшчэ:

Хоць былі і ў копаці і ў пыле
І жыццё пашкамутала нас,
Ні сяброўскіх сцежак не забылі,
Ні агонь агульны не пагас.

І яшчэ набалелае:

Як мы патрэбны ўсе адзін другому
З усмешкай ветлай,
З цеплынёю рук...

І як аксіёмы жыцця ў Бураўкіна спавядальныя радкі:

Якое шчасце —
Жыць зусім звычайна:
Браць кнігі з перапоўненых паліц...

Таму трапляюцца афарыстычныя радкі ў паэта, як вынік паўнакроўнага ладу жыцця:

Непрыгожых жанчын не бывае...
Я ведаю:
Нядобрых моў няма...

Генадзь Бураўкін заўсёды застаецца самім сабой...

То ён сатырычна-з'едлівы («Маім зацятым крытыкам»), то ён (у вершах пра каханне, жанчын, сваёй любай), як і ў маладосці, трапятліва-лірычны, вельмі шчыры і чалавечны («Не пераносьспатканне на пасля», «Не пакідай мяне. Пабудзь яшчэ», «А я не веру, што прайшло каханне...»).

Толькі ўпершыню з'явілася горкая нота:

І колькі ў шчасці ні галёкай,
Прыцісне чорная туга,
Што недзе вельмі недалёка
Мая чарга,
Мая чарга.

Мы, яго даўнія сябры, цвёрда верым, што яго чарга прыйдзе не хутка. Мы з нецярплівасцю будзем чакаць новыя радкі ягонай цудоўнай паэзіі.

# ХВОРЫ
# НА ДУШЭЎНУЮ ЧЭСНАСЦЬ

Ёсць людзі, якія валодаюць абсалютным музычным слыхам. Іх сэрцы поўняцца радасцю, калі яны чуюць бліскучае выкананне сімфоній, арый, песняў, яны чуйна ўлаўліваюць кожную недакладнасць, а тым больш фальшывую ноту, наогул фальш.

Вось такім абсалютным паэтычным слыхам валодаў выдатны крытык Варлен Леанідавіч Бечык, які нядаўна пакінуў нас. Так рана і так горка...

У яго чулае сэрца, у абсяг яго назіранняў, думак, радасці і трывог трапіла ледзь не ўся беларуская паэзія, а таксама руская і іншых народаў. Шмат што з сусветнае класікі. Бечык прыводзіць словы, сказаныя пра іншага творцу: «Хворы на душэўную чэснасць». Гэта стасуецца перш-наперш да самога Варлена.

З павагай і любоўю Варлен Бечык піша пра сваё пакаленне (розначсць у некалькі гадоў не бяром у разлік): Хадановіч, Стральцоў, Вярцінскі, Гілевіч, Барадулін, Бураўкін, Зуёнак, Сіпакоў, Кудравец, Сёмуха, Янішчыц і іншыя. Свежа і пераканаўча аналізуе творы старэйшых паэтаў. Слова «аналізуе» не зусім падыходзіць да радкоў Бечыка. Гэта хутчэй суперажыванне, радасць адкрыцця, якой ён хоча падзяліцца спачатку з самім сабой, а потым і з усімі людзьмі: якія паэты, якія асобы, якая праўда, якія боль і справядлівасць!

В. Бечык быў добры чалавек. Ён амаль ніколі гнеўна не распякае аўтара, а нават у не вельмі адораных паэтаў імкнецца знайсці нейкія светлыя праўдзівыя радкі.

Варта перагарнуць паасобныя старонкі дзённіка руплівца роднае літаратуры. І са скупых запісаў перад

намі паўстае жывы і непаўторны чалавек: разумны, глыбока адукаваны, прагны да жыцця, праўды, кніг і шчырага сяброўства. І вельмі самакрытычны, часамі, як нам бачна сёння, займаецца залішнім «самаедствам».

Але Варлен, нягледзячы на ўсе нягоды, застаецца аптымістам, улюбёным у жыццё, прыроду, людзей, таленавітыя творы. Такім ён і стаіць перад нашымі вачыма — увесь у шчасці і захапленні «перад высокаю красою».

Не магу не перапісаць некалькі радкоў з дзённіка Варлена Бечыка, таленавітага мастака:

«Праўда заўсёды высакародная».

«Сёння на досвітку быў спорны цёплы дождж. Раніцой — бліскучыя лужыны, дух парнай вільгаці; цемната пад гушчынёй клёнаў. Росныя закраіны сцежкі. І спакойна — зялёная вада на рацэ. Я сказаў бы: хай будзе ўсё гэта — і до. Дык не: усё гэта заўсёды жыве ў нас разам з пэўным настроем. І калі гэта не частка асабістага зместу, дык — нішто... Каб крок, паўкроку — уперад».

«Кожны дзень без разгону абвальваюся ў нянавісць да лгуноў, прыстасаванцаў, дэмагогаў...»

І шмат добрых слоў пра любімую маці, накшталт: «Учора вечарам у мамы. Глыток чыстага паветра...»

# ПРА ПАЭЗІЮ СЯРГЕЯ ЗАКОННІКАВА

Сяргей Законнікаў выдаў у 1991 годзе кнігу паэзіі «Заклінанне». Гэта добрая таленавітая кніга. Але я хачу сказаць слова пра паэму Законнікава «Чорная быль». Гэта адзін з першых у паэзіі паэтычных твораў і па часе напісання і па высокай мастацкай вартасці. «Выбух», «Зона маўчання» — гэта нібы ўступ да прыпяцкай трагедыі. Людзі ўзрадаваны былі вясне, святлу, дажджу. «Усе мы — дзеці вёскі, як насенне, вясны чакаем, каб набрацца сілы...» Ніхто не ведаў,

Што ўчора там — за рэкамі, за лесам,
Дзе чэрава сваё раскрыў Чарнобыль,
Пажарнікі — заложнікі прагрэсу —
Ад цела аддзіралі з мясам робы.

Людзі спадзяваліся, што «хутка ўсё растлумачыць Масква». Але Масква не растлумачыла, не растлумачыў і Мінск... Падманутыя людзі штодзень глыталі смерць.

Паэт пераканаўча кажа: «Мне і цяпер не хапае азону...»

Не хапае азону людзям Гомельшчыны і Магілёўшчыны, якія засыпаны чарнобыльскім попелам (вецер дзьмуў ад Кіева ў бок Палесся, Беларусі). Засыпаная наша зямля цэзіем, плутоніем і іншымі носьбітамі радыяцыі.

І санаторый пад Мінскам «стаў прытулкам палескіх дзяцей».

А дзеці не хацелі скідваць чаравічкі: «А навошта? Нам добра ў сваіх». Яны зразумеюць пра вялікую бяду пазней, калі на могілках будуць пахаваны дзесяткі іх малых сяброў — ад смяротных хваробаў, якія выкліканы Чарнобылем.

Запомніцца і выгнаны з-пад Прыпяці чарнобыльскі воўк:

Востры нюх вёў туды,
дзе жывое паветра,
Дзе не падала семя
атрутнай жуды.
Ён шукаў дзікі неруш,
дрымотныя нетры,
Каб забіцца ў гушчар
ад нязнанай бяды.

Паэт сам пабываў на месцы чарнобыльскай бяды, напрыклад, у Хойніках:

Я — проста чалавек.
Як развяду
Жах новы вавілонскага зрушэння?
Сасмяглым горлам піў,
каўтаў бяду,
Аглухлы ад жальбы і галашэння.

Асаблівай сілы С. Законнікаў дасягае, малюючы лёс людзей, асабліва старых. Вось затрымалі раніцой бабулю. Ёй напамінаюць, што наўкол радыяцыя, дык «жыўцом навошта лезці ў дамавіну?». Але старая «выцірала слёзы чорнай ссохлай жменькай».

Дзеці не пускалі, уцякла, як злодзей,
Самі мае ножанькі прывялі дадому...
Вы не лайце, дзеткі...
Паглядзець ахвота,
Як тут наша хатка за калючым дротам?
Вось яе адведала, і лягчэй мне стала,
Можа, і знайшлося тое, што шукала.

А бабулька знайшла абразок Міколы, а цяпер «хату паглядзела, можна і памерці...».

Так любоў да роднай зямлі вымагае ад родных: «Хачу ляжаць на могілках сваіх», і сын выконвае бацькоўскі наказ.

Тым страшнейшымі здаюцца хцівыя і жудасныя марадзёры, якія ў пакінутых вёсках «б'юць вокны і

ламамі крышаць дзверы», цягнуць абразы, каляровыя тэлевізары, кнігі і інш.

Але паэт не толькі малюе пачуцці людзей (асабліва дзяцей), іх гора, роспач, надзеі, але дае і глыбокі сэнс лёсу беларускага народа, «народа, які жыве без мовы»:

Стаяць, як знак ахоўны, за плячамі
Скарына, Каліноўскі і Купала.

Паэт звяртаецца да народа:

Народ мой,
слухай голас іх прарочы,
Ён нездарма трывожыць гаркатою.
Прачніся,
адкрывай шырока вочы,
Не размініся з праўдаю крутою.

А ў заключэнне паэт гаворыць:

Ёсць праўда адна — праўдай жыць,
Няхай і суровай, і горкай...
У небе над намі стаіць,
Як зніч, палыновая зорка.

Паэма «Чарнобыль» — высокамастацкі твор, значнае дасягненне нашай паэзіі.

# МЫ ЖЫВЁМ У БУРНЫ ЧАС

Мы жывём у бурны, зменлівы час. Цяжкая бяда навалілася на беларускі народ, асабліва на тых людзей, што жывуць у Гомельскай, Магілёўскай абласцях і на ўсім. Палессі. Мы са страхам думаем пра тых людзей, асабліва дзяцей, якіх абпаліла чарнобыльская трагедыя. Цяпер на дапамогу пацярпеўшым прыйшла ўся Беларусь. Ідзе дапамога з многіх краін Захаду і Усходу. Нашы дзеці адпачывалі ў ФРГ, ЗША, Англіі, Швейцарыі і іншых краінах.

За апошні час у нашай рэспубліцы адбылося многа важных дзяржаўных падзей.

Ідзе далейшае выкрыццё сталіншчыны і рэабілітацыя ахвяр сталінізму. Скінута фальшывая маска пабудаванга «камунізму» і разгорнутага «сацыялізму». Гэта ўсё міфы, казкі, а жыццё зрабілася яшчэ больш цяжкім. Усюды ў магазінах пустыя паліцы, не хапае прадуктаў, кватэр, адзення, абутку. Народ спадзяецца, што новыя планы і рэформы зменяць жыццё ў лепшы бок, тым больш што нядаўна новы Вярхоўны Савет Беларусі прыняў Закон аб суверэнітэце, гэта значыць, поўная незалежнасць нашай рэспублікі. Гэтым доўгачаканым законам ганарымся, тым больш што наша Беларусь з'яўляецца членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і адным з яе стваральнікаў. Я ўдзельнічаў у адной з сесій Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрку. Працаваў там тры месяцы і пераканаўся, якім аўтарытэтам карыстаецца наша Беларусь.

Надзвычайна важнай падзеяй у нашым жыцці было: Вярхоўны Савет прыняў Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы.

Як ні стараліся чыноўнікі-вялікадзяржаўнікі, бюракраты і малакультурныя людзі закрэсліць нашую

мову, гісторыю, культуру — беларускі народ урэшце перамог!

Нашую мову высока цанілі Міцкевіч, Дабралюбаў, Дастаеўскі, Горкі, Твардоўскі, Фадзееў, Тычына і іншыя выдатныя пісьменнікі.

Усім жыццём даказана, што мова не толькі сродак зносін паміж людзьмі, але і душа кожнай нацыі, аснова яго мудрасці, песень, казак, літаратуры.

Мова — сродак спасціжэння свету, адукацыі і народнай маралі.

Як шкада, што нашыя дзеці (а бывае — і бацькі) сёння не ведаюць беларускіх назваў шмат якіх траў, дрэў, кветак, птушак, рыб, жукоў і іншых.

Я ўжо не кажу пра многія народныя звычкі, абрады, прыкметы, лячэнне, замовы, малітвы...

У зборніку «Горкі жолуд» я пісаў пра беларускую мову:

Ільняная і жытнёвая. Сялянская.
Баравая ў казачнай красе.
Старажытная. Ты самая славянская.
Светлая, як травы у расе.
Вобразная, вольная, пявучая
Мова беларуская мая!

А ў другім вершы напісаў так:

А мову ледзь не затапталі
І асмяялі, як раней.
А вы ў народа запыталі,
Якая мова нам радней?

Бацькі (яшчэ не ўсе),
І дурні,
І хамы (хамам не пярэч!)
Сцвярджаюць:
«Руская — культурней
І прагрэсіўней.
Нашу — прэч!»

Так, мова руская —
У сіле!

Яна багатая...
Але
Мы бульбай дзелімся з Расіяй,
Шлём сала, мяса і алей.

Мацуем нашу роднасць працай,
Дзе цяжка —
Мы туды ідзём.
Над кожнаю магілай брацкай
Мы кветкі памяці кладзём.

А мову родную заўсёды
І ўсюды вучыць першы клас.
А ў нас стыдаюцца: «Не модна...»,
Як і калісьці ў царскі час.

Усе сыны усіх народаў
На памяць помняць родны верш
І ганарацца песняй роднай,
З якой з калыскі ты жывеш.

Мілей мне «кнігаўка», чым «чыбіс»,
Бо голас кнігаўкі ў душы.
І бульбу смажаную чыпсам
Ты зваць па модзе не спяшы.

І я на «клюкву» «журавіны»
Не прамяняю, не аддам.
І светлы край наш жураўліны
Я дзецям ціха перадам.

Адзін мудры чалавек сказаў: «Няма мовы — няма і народа».

Наша беларуская — цудоўная, і мы павінны яе вывучаць і з гордасцю на ёй гаварыць, а то ў апошнія гады ў нашай мове, як сказаў рускі пісьменнік Юры Палякоў, магутна ўсталявалася «канцылярская латынь». Для кіраўнікоў рознага рангу пісалі прамовы памочнікі, у якіх заўсёды было: «у свеце планаў», «у разрэзе рашэнняў», «у плане перабудовы», «узняць», «павысіць», «дамагчыся», «запатрабаваць», «перакаваць», «не мірыцца», «аднавіць», «мабілізаваць» —

і шмат іншага пустаслоўя. А яшчэ цяпер усюды чуецца і пішацца: кансенсус, плюралізм, стагнацыя, хоць па-чалавечы можна проста сказаць: згода, розмасць думак і поглядаў, застой.

Чаму такое адбылося? Таму што ў нас запушчаны культура і мова. На культуру, на школу мала адпускалася фондаў. А яшчэ горш, што ў нас глыбокі эканамічны крызіс, развалена эканоміка, няма тавараў народнага ўжытку, пустыя крамы, дрэнна з харчаваннем. Мы, некалі магутная і передавая дзяржава, займаем цяпер 52-е месца ў спіску слабаразвітых краін. Кепска абсталяваны нашыя школы, няма ў школах камп'ютэраў. Нас далёка абагналі Тайвань, Паўднёвая Карэя, Сінгапур, Тайланд і іншыя.

У нас яшчэ не пераможаны каманднa-бюракратычны стыль працы. Тэхнікумы і інстытуты выпускаюць слабых спецыялістаў. Якасць тавараў у нас зусім нізкая, а цяпер і тых няма.

Нас доўга кармілі салодкімі казкамі пра «светлую будучыню». Нават цукеркі такія выпускаліся «Счастливое детство». Уяўляеце: «Дайце мне чатырыста грамаў «Счастливого детства»...» Альбо: «Молодым везде у нас дорога, Старикам везде у нас почет».

Цяпер уся надзея на маладых. Радзіме патрэбныя новыя маладыя кіраўнікі, спецыялісты высокага класа, якія б не ашуквалі народ, не хлусілі, а былі б праўдзівыя, сумленныя, добрыя, міласэрныя і працавітыя, бо ў нас многія развучыліся рабіць.

Усё залежыць ад ведаў, маладой змены, ад адукацыі, ад добрасумленнасці і стараннасці.

Трэба выбіраць сабе прафесіі па душы, станавіцца майстрамі сваёй справы.

Я ганаруся, што перад вайною быў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Я ганаруся, што ў пачатку вайны напісаў першы верш, які надрукавалі лістоўкай і самалёты скінулі яе на родную зямлю,

акупіраваную фашыстамі; вось што піша ў кнізе «Незабываемое» былы першы сакратар ЦК КПБ, а пасля член Палітбюро ЦК КПСС Кірыла Трафімавіч Мазураў, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі. «Успехом пользовалось стихотворение Пимена Панченко «Беларуси». Заканчивалось оно такими жизнеутверждающими проникновенными словами:

Верю твердо: погибель врага ожидает.
В край родимый я с полной победой вернусь.
Пока звезды мерцают, пока солнце сияет,
Беларусь не погибнет, будет жить Беларусь!»

Наш працавіты, сціплы і дружалюбны народ даказаў, што ён народ гераічны. Па новых падліках на Беларусі загінулі не звыш 2 мільёнаў жыхароў Беларусі, а ўсе чатыры мільёны.

Жывецца нам цяпер цяжка. Мы верым, што будзем жыць лепш. Нам перашкаджаюць бюракраты, разгільдзяі, злодзеі, няўмекі добра рабіць. Але лепш пра гэта скажу вершам «Тармажэнне»:

Кабінетчыкі ліхія
І разбухлы апарат
Да бяды людской глухія,
Кожны з іх нажыцца рад.

Ім і сытая кармушка,
І машыны, і курорт,
І шафёр — надзейны служка,
І памочнік — хітры чорт.

Гэты шматмільённы клас —
Гімалаі ленасці.
Давядуць да ручкі нас
Злыдні без сумленнасці.

Не давай нам, Бог, люстэрка:
Проста сорам,
Проста страх.
Паразіты ў міністэрствах,
Як грыбы ў глухіх барах.

Нас павыбілі на фронце...
Хто ўцалеў — таму цярпець.
Дык няўжо хлуслівай фрондзе
Не дадзім адпор цяпер?

Камандзіры, камандзіры,
Пераможам мы ці не?
Скрозь правалы, ўсюды дзіры,
Як спачатку на вайне.

Тармажэнне, тармажэнне
І чыноўніцкі разбой.
Быццам зноў мы ў акружэнні
І вядзём смяротны бой.

Тармажэнне, тармажэнне...
Балбатні пустой — размах.
Самым смелым —
Прыніжэнне,
А сумленным —
Блізкі крах.

Разагналі клас сялян,
Збеглі ўсе да горада.
Кожны жулік — сёння пан
З пагардлівай мордаю.

І ўрачоў мы кепска вучым,
І настаўнікаў так-сяк,
І дзяцей занудна мучым:
«Зазубры усё, басяк!»

І табе, рабочы браце,
Мала плацяць...
Гультаі
Хутка золата растрацяць —
І апынемся ў раі.

Мы стаміліся ад вечнага крызісу: то няма мыла, то макаронаў, то цукру, то цыгарэт.

Наша Беларусь старажытная культурная дзяржава: сёлета мы ўрачыста адзначаем 500-годдзе вялікага асветніка і вучонага Францыска Скарыны.

Трэба ісці па яго найсветлай дарозе!

# НЕ АДСТАЦЬ АД МАГУТНАГА КРОКУ НАРОДА

Пісьменнікі ва ўсе вякі і да нашага часу тым і займаюцца, што імкнуцца мастацкімі сродкамі спасцігнуць свет, жыццё народа. Празаікі і драматургі ствараюць характары, тыпы, якія ў канфліктах свайго часу даносяць да нас жывы агонь жыцця, працы, барацьбы. Паэтаў займае душа чалавека, яго настроі, мары, памкненні, самыя тонкія праявы чалавечых пачуццяў.

Нашы класікі выдатна спраўляліся з гэтай справаю.

На чым выхоўвалася маё пакаленне?

На паэзіі У. Маякоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, на п'есах Крапівы, на такіх кнігах, як «Ціхі Дон» і «Паднятая цаліна» М. Шолахава, «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага; на такіх фільмах, як «Браняносец «Пацёмкін», «Чапаеў», «Мы з Кранштата», «Вялікі грамадзянін».

Ці ёсць сёння ў нас у Беларусі такой сілы літаратура, кінафільмы, п'есы? На вялікі жаль, даводзіцца сказаць: няма!

У нас ёсць выдатныя творы пра вайну, пра чалавека на вайне. І тут першае, самае важнае і глыбокае слова належыць Васілю Быкаву.

Пасля вайны ў беларускай прозе з'явіліся таленавітыя пісьменнікі, якія паказалі гераізм і трагедыю нашага народа ў часе Айчыннай, яго подзвігі, патрыятызм.

Франтавая беларуская паэзія — непаўторная з'ява нашага стагоддзя.

У пяцідзесятыя гады на паэтычным небасхіле з'явілася некалькі яркіх імён.

Прайшло ўжо сорак гадоў пасля нашай перамогі. Але і сёння ў беларускай літаратуры большасць тво-

раў (выдатных, добрых і не зусім...) так ці інакш звязаны з Айчыннай вайной, і многія ідуць па пратаптаных папярэднікамі сцежках.

У нас няма або, скажам далікатней, мізэрна мала добрых твораў пра сучаснасць. Амаль зусім адсутнічае такая вялікая з'ява, якую нехта вульгарна назваў «вясковай прозай». А гэта высокая літаратура.

Што мне з прачытанага ў апошні час урэзалася ў памяць, усхвалявала?

«Знак бяды» Васіля Быкава, «Сёння і памяць» Янкі Брыля, «Паляванне на Апошняга Жураўля» Алеся Жука, «Сачыненне на вольную тэму» Анатоля Кудраўца, «Вырай» Васіля Блакіта.

П'есы Аляксея Дударава.

Кніга «Ничего важнее» Алеся Адамовіча і фільм па яго сцэнарыі «Ідзі і глядзі», кніга Віктара Каваленкі «Общность судеб и сердец», артыкул Рыгора Шкрабы «Асцярожна: школа!».

Час ад часу друкуюць добрыя, шчырыя вершы Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак і Анатоль Вярцінскі, Янка Сіпакоў і Сяргей Законнікаў, Пятрусь Макаль і Уладзімір Някляеў. Мне вельмі спадабалася «Зорная паэма» Яўгеніі Янішчыц. Праўдай жыцця і пачуцця.

Але агульны фон паэзіі — шэры. Многія вершы — перапеў агульнавядомага і... далёкага ад жыцця.

Яшчэ Бялінскі пісаў: «Дзе жыццё, там і паэзія». Есць у яго мудрае сцвярджэнне, якое вельмі надзённа гучыць і сёння: «Паэт больш, чым хто-небудзь, павінен быць сынам свайго часу».

Яшчэ горш з крытыкай.

Крытык А. Сідарэвіч надрукаваў у «Литературной газете» артыкул «Рецензенты и аплодисменты». У гэтым артыкуле там-сям ёсць праблескі і правільных думак. Але аргументацыя, прыклады, вывады — на такім нізкім узроўні, што сорамна робіцца за кры-

тыка. Піша пра публічнае «бічаванне» маладога крытыка трыма паэтамі-лаўрэатамі (а перад гэтым малады крытык публічна «разбіў» вершы каля дваццаці маладых паэтаў). Нехта крыўдзіцца на крытыкаў за іх артыкулы, а вось ёсць такія, якія не крыўдзяцца. Нават прывёў прыклад з даўніх дзён: пра паэта, таварыша па падполлі, які не крыўдзіўся на крытыку. «Ці не гэткімі абставінамі тлумачыцца адыход крытыкаў у ціхую гавань літаратуразнаўства?..»

А ў літаратуразнаўства маладыя крытыкі ідуць не таму, што ў Саюзе пісьменнікаў невыносныя да іх адносіны, а таму, што ў іх ёсць схільнасць да навуковай працы, жаданне аступеніцца, набыць матэрыяльную аснову, ■ пасля можна і заяву ў Саюз пісьменнікаў падаваць. Варта прыпомніць, колькі дзесяткаў кандыдатаў навук мы прымалі ў свой саюз за апошнія гады. Ні ў адной рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі няма такой з'явы, каб чвэртка членаў саюза былі крытыкамі і літаратуразнаўцамі.

Гэта унікальная з'ява.

А між тым наша крытыка ў большасці — маламастацкая, малапрынцыповая, нясмелая, нейкая раўнадушная.

У той жа «Литературной газете» добра сказала крытык А. Латыніна: «...беларускі крытык Анатоль Сідарэвіч, зусім справядліва выступаючы супраць вялай крытыкі, практыкі захвальвання, гаворыць: «Аўтары забываюць... што пішуць яны для народа... што пісаць трэба лепш, тады і не будзе браку ў іх «прадукцыі». Крытык А. Латыніна гаворыць: «Гэта прамысловая тэхналогія зусім не адлюстроўвае сутнасць справы. Шэрасць у літаратуры і брак на вытворчасці — рэчы прынцыпова розныя менавіта таму, што літаратура — не вытворчасць. Брак — гэта адступленне ад тэхналогіі, ад стандарту. Стандарт у літаратуры ператвараецца ў шэрасць».

Нам не патрэбна ні аглабельная, ні алілуйная крытыка. У пісьменнікаў і крытыкаў у ацэнцы твора літаратуры заўсёды павінен быць глыбока навуковы галоўны прынцып: таленавітасць твора, яго народнасць.

Як і ў жыцці народа, у нас на першае месца выйшла галоўнае слова: якасць!

Нашы задачы ясныя. Многім з нас, пісьменнікаў, трэба ў сваіх творах рэзка павысіць праўду, а ў сэрцах — сумленнасць і адказнасць перад народам. Без гарачай веры, без смеласці ў змаганні з усім адмоўным у нашым жыцці, без агульначалавечай маралі нельга ствараць таленавітыя творы, нельга сцвярджаць і выхоўваць у чалавеку бескарыслівасць, дабрыню, спагаду, працавітасць і чалавечнасць.

Мы павінны адшкрэбці з нашых творчых пёраў шматлікія грахі парадnasці, пустаслоўя, дробязнасці, святочнай рыторыкі, бяздумнай ілюстрацыйнасці, зайздрасці, раўнадушша, заспакоенасці, застою, сябелюбства.

# ВІТАЕМ ЭСТОНСКІХ БРАТОЎ

Беларусь таксама прыбалтыйская зямля, хоць у нас і няма мора, але нашыя рэкі Нёман і Заходняя Дзвіна нясуць свае воды ў Балтыку. Адтуль і хмары плывуць, і цёплы вецер вее. Як кажуць, з Прыбалтыкі да нас ідуць і пагода, і мода.

У Рызе і Рэвелі (цяперашнім Таліне) здаўна існуе развітая прамысловасць. Беларусы задоўга да рэвалюцыі ехалі туды рабіць на фабрыкі і заводы. Паехалі туды і мае бацькі, бедныя беларускія сяляне. Былі яны рабочымі на суднабудаўнічым заводзе Бекера. Там я і нарадзіўся. І сёння ў Эстоніі пражывае і працуе некалькі тысяч беларусаў.

Эстонія — наша добрая суседка, край рыбакоў і дбайных земляробаў, судабудаўнікоў і майстроў высокіх надояў, маракоў і спевакоў. Эстонская зямля падобная да нашай: падзол, суглінкі, забалочанасць, валуны і такія ж, як нашыя, лясы і лугі. І людзі, як і нашыя, працавітыя і адданыя ў дружбе. Эстонія — старажытная зямля, з багатай гісторыяй, з гераічнымі традыцыямі. Эстонія — зямля Калева, народнага эпасу «Калевіпоэг», зямля Крэйцвальда.

Адразу пасля вайны я трапіў нарэшце ў родны Талін, быў прадстаўніком Беларусі на першым пасляваенным з'ездзе пісьменнікаў Эстоніі. З'езд быў вельмі цікавы: ува ўсіх — і гаспадароў, і гасцей — быў радасны ўздым пасля перамогі, сэрцы былі поўныя надзей і планаў. Я застаў яшчэ жывымі класікаў эстонскай літаратуры Туглаcа, Якабсона, Але, Сірге. Быў у гасцях у Семпера. Пасябраваў з Мартам Раўдам. Пазнаёміўся з Хінтам, Смулам, Ваарандзі, Р. Парве. Пасля я ўважліва чытаў усё, што з'яўлялася ў перакладзе на рускую ці беларускую мовы не толькі гэтых шыро-

кавядомых эстонскіх пісьменнікаў, але і іншых выдатных празаікаў, паэтаў і крытыкаў Эстоніі: Куусберга, Мянніка, Промет, Кроса, А. Бэкман, В. Бэкмана, Рамельгеса, потым маладзейшых: Ветэмаа, Сійга, Луйка, Румма... Усім беларусам знаёма прозвішча выдатнага перакладчыка О. Йігі.

Незабыўны Март Раўд паказаў мне цудоўны свой (і мой) горад — адзін з прыгажэйшых гарадоў Еўропы. Асабліва ўразіў мяне стары горад: сярэдневяковая гатычная архітэктура, вузкія вулачкі, прыгожыя пляцы. Ён звазіў мяне на тое месца, дзе быў суднабудаўнічы завод Бекера, на якім рабілі мае бацькі. Захаваўся нават цагляны доўгі і нізкі дом, дзе некалі жылі рабочыя верфі, але ў ім цяпер былі нейкія партовыя склады.

Сёння мне хочацца адзначыць, што эстонскі народ вельмі таленавіты. Хто ў свеце не ведае вялікага спевака Георга Отса, кампазітара і дырыжора Густава Эрнесакса, выдатнага шахматыста Пауля Керэса, сусветна вядомы тэатр «Эстонія». А ўсенародныя эстонскія святы песні! А Тартускі (некалі Дэрптскі і Юр'еўскі) універсітэт. А бліскучыя адкрыцці эстонскіх вучоных!

Ёсць народы і вялікія па колькасці насельніцтва, і меншыя, і зусім малыя. Але кожны з іх раўнапраўны. А такі старажытны і гераічны народ, як эстонскі, мае шматвекавую гісторыю, традыцыі, літаратуру, музыку, тэатр, жывапіс, скульптуру.

І яшчэ мне хочацца сказаць, акрамя таленавітасці, аб адной адметнай рысе эстонцаў, гэта людзі негаваркія, часам здаюцца суровымі, але яны вельмі працавітыя, добразычлівыя, людзі справы і слова.

Я заўсёды цікаўлюся, што робіцца ў маёй Эстоніі. Напярэдадні новага, 1986 года мяне ўзрадавалі два артыкулы ў «Правде». Слесар-зборшчык аб'яднання «Талэкс» з Таліна піша: «Наша вытворчае аб'яднанне

«Талэкс» выпускае меліяратыўныя экскаватары для збудавання дрэнажу і асушкі забалочаных земляў, машыны для пракладкі водаправодаў і кабеляў, траншэйныя экскаватары, якія працуюць на будаўніцтве газаправодаў. Усе нашы машыны вельмі мірныя. На экспарт ідзе 17 % нашай прадукцыі... Мы раўніва ставімся да якасці нашых машын, хочам, каб яны ні ў чым не ўступалі замежным узорам (абразцам)».

А ў другім нумары «Праўды» выступае шліфавальшчык фанерна-мэблевага камбіната К. Вахер: «Вось ужо сорак гадоў пераступаю парог свайго цэха. Доўгі час, цэлае жыццё... І кожны раз адчуваю нібы лёгкае хваляванне, азарт у прадчуванні любімай працы. Нават сам пах дрэва асабліва ўзбуджае. Памятаю тое дрэва непаслухмяным, упартым — гэта калі я быў вучнем. З тых пор прайшоў такую школу на нашым камбінаце — асвоіў спецыяльнасць сталяра, абойшчыка, станочніка, шліфавальшчыка. Але прагнасць да працы не праходзіць — нават перакураў у час змены не дазваляю сабе».

Вось які сённяшні эстонскі рабочы, вось які сённяшні эстонскі народ!

Мы сардэчна і шчыра вітаем нашых братоў з Эстонскай рэспублікі, жадаем, каб ім добра, прыемна і ўтульна было і на старонках гэтага часопіса, і ў нашым старажытным горадзе Мінску, і на ўсёй Беларусі.

# ПАДПЯРАЗАНАЯ СІНЯЙ ДАЎГАВАЙ

У нашай сям'і на працягу ўсяго жыцця слова «Рыга» гучала гэтак жа чыста, як і тыя гарады і мястэчкі, дзе мы жылі, рабілі альбо дзе жылі нашы родзічы і сваякі: Мінск, Барысаў, Бабруйск, Вільня, Талін...

У маім родным Бягомлі жыла сям'я Янсана, былога латышскага стралка, з дзецьмі якога я сябраваў.

У Таліне і Вільні я пабываў. І вось цяпер — загадкавая Рыга.

Што я ведаў пра Рыгу? Што там высокаразвітая прамысловасць, што там выпускаюць найлепшую ў Саюзе радыёапаратуру, што там заможныя рыбалавецкія калгасы.

У Рыгу, як і ў Рэвель, ездзіла многа беларусаў на заробкі. Многія з іх засталіся там назаўсёды, пусцілі новыя карані. Ведаў, што там жыў вялікі паэт Ян Райніс, вершы якога я любіў. Райніс добра ведаў беларускі народ, быў у таварыскіх адносінах з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Прыязджаў да нас у Мінск. Перад вайною Янка Купала таксама наведаў Рыгу.

А яшчэ я ведаў пра добры рыжскі хлеб, смачнае рыжскае піва і капчушку, якой гэта піва закусвалі. І яшчэ чуў пра рыжскі бальзам, які я не раз каштаваў і прывозіў дадому ў карычневых керамічных бутэлечках.

* * *

У 1947 годзе мяне і Васіля Вітку дэлегавалі на пасляваенны з'езд латышскіх пісьменнікаў.

Рыга сустрэла нас ветліва і гасцінна. З усіх саюзных рэспублік, а таксама з Масквы і Ленінграда прыехалі аўтарытэтныя дэлегацыі. Прыехаў дарагі мне

чалавек і найлепшы сучасны рускі паэт Аляксандр Твардоўскі. Прыехаў Аляксандр Аляксандравіч Фадзееў, з якім я пазнаёміўся яшчэ ў 1938 годзе ў Маскве, калі былі скліканы ўпершыню курсы маладых пісьменнікаў з брацкіх рэспублік.

Прыехаў мой добры сябар з Украіны — цудоўны паэт і чалавек Леанід Первамайскі.

Уладкаваўшыся ў гасцініцы, мы паехалі першым чынам на брацкія могілкі. Маўклівыя коні каля брамы сумна схілілі грывастыя галовы. Маці-Латвія сурова і журботна глядзела і на нас, і некуды ў бясконцасць, а мажліва, у мінулае.

Мы ўсклалі кветкі на магілу Яна Райніса. Надтрунне над паэтавай магілай выдатнае: гранітны юнак стаміўся і заснуў... Мая новая знаёмая паэтка Мірдза Янаўна Кемпе, прыгожая і дружалюбная, павяла мяне да магілы паэтэсы Аспазіі, жонкі Яна Райніса.

Паглядзелі мы ў той дзень і Рыгу. Асабліва мяне зацікавіла, як і ў Таліне, старажытная, сярэдневяковая частка горада. Домскі сабор узвышаўся над горадам у акружэнні сваіх старых сяброў і старэйшых родзічаў і сваякоў. Певень на вежы Святога Пятра аглядваў свае ўладанні. Цудоўны горад Рыга. Пасля гэтага я многа разоў ездзіў і ў Рыгу, і ў Дубулты. Купаўся ў Рыжскім заліве, вучыў плаваць у ім дачку і сына, а пазней і ўнукаў. Любіў уночы прайсці кіламетры са два па прыморскім пляжным пяску басанож.

А той раз я вяртаўся дамоў з прыгодамі: пакінуў плашч з пашпартам у купэ, дзе застаўся Васіль Вітка, а сам пайшоў з латышскімі сябрамі выпіць на дарогу незвычайнага рыжскага піва. А цягнік тым часам пайшоў. Давялося пераначаваць у Рызе. Раніцой сябры пасадзілі (без пашпарта) на самалёт. У Вільнюсе мяне ўжо літоўскія сябры пасадзілі на цягнік, і я амаль здагнаў свой плашч.

Але лепш усё па парадку.

Пазнаёміўся на гэтым з'ездзе з жывым класікам латышскай літаратуры, высокім сівым і велічным Янам Судрабкалнам. А яшчэ з Вілісам Лацісам, Ганнай Саксэ, Вальдысам Луксам, Андрэем Балодзісам, Аляксандрам Чакам, Жанам Грывай, Фрыцысам Рокпелнісам, Арвідам Грыгулісам, Еранімам Стулпанам і многімі іншымі, уважлівымі, добрымі. Слухаў іх, любаваўся імі...

У мяне з той пары добрая дружба з Юліем Ванагам і Андрысам Веянам, якія часта прыязджалі ў Беларусь і, здаецца, палюбілі яе. Яны верныя сябры і перакладчыкі беларускай паэзіі.

Пасябраваў я з Інгрыд Сакаловай яшчэ ў сорак першым годзе на Бранскім фронце, калі яна была вапеннай перакладчыцай, а пазней стала доктарам навук.

Але ў гэтых нататках я хачу расказаць пра маіх надарагіх сяброў, якіх ужо няма сярод нас, пра трох народных паэтаў Латвіі: пра Яна Судрабкална, Мірдзу Кемпе і Ояра Вацыецiса.

А перад тым я хачу ўспомніць два незабыўныя вечары ў Рызе, якія мне моцна ўрэзаліся ў памяць.

На перапынку паміж паседжаннямі да мяне падышоў А. Твардоўскі і сказаў: «Прыязджайце з Первамайскім сёння а 8 гадзіне вечара да нас. Фадзееў запрашае. Ведаеш дзе?»

У дамоўлены час мы з Леанідам уваходзілі ў нейкі асабняк, дзе размясцілася маскоўская дэлегацыя. Дзе ён знаходзіўся — не скажу, бо мы ехалі, калі змяркаўся асенні дзень. Дый Рыгу тады я кепска ведаў.

Аляксандр Аляксандравіч Фадзееў, мой даўні знаёмы, любімы мной чалавек і пісьменнік, гасцінна нас сустрэў, і прыемна было зноў слухаць яго высокі голас і звонкі, амаль юнацкі смех.

Тут быў Аляксандр Твардоўскі, з якім мы добра

пазнаёміліся пад час вайны і не раз сядзелі за сяброўскім застоллем і ў яго кватэры на вуліцы Горкага ў Маскве і ў іншых месцах Масквы і Мінска ў розныя гады, на з'ездах і пленумах. А пазнаёміў мяне з Аляксандрам Трыфанавічам у 1942 годзе Аркадзь Куляшоў.

Былі тут маскоўскія крытыкі Карнелі Зялінскі і Восіп Рэзнік. З латышоў — маладая і прывабная Мірдза Кемпе і Карл Краўліньш, вядомы крытык і даследчык літаратуры, разумны і дасціпны чалавек. Ён тады быў адным з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў Латвіі.

Усе мы былі яшчэ ў радасці нашай вялікай перамогі.

Было многа жартаў, успамінаў, вясёлых «перапалак». Усе былі ў святочным настроі, узнімалі тосты за Латвію, за латвійскі народ і латышскіх стралкоў, за Мірдзу і Карла.

Далёка за поўнач Аляксандр Аляксандравіч прапанаваў пачытаць вершы, якія мы помнілі. Прачытаў Леанід Первамайскі пра хлопца, дзяўчыну і каня; чытаў і я, але забыў апошнюю страфу.

Тады Фадзееў гаворыць Твардоўскаму:

— Ну, [redacted] цяпер, Саша, ты...

Трэба сказаць, што Фадзееў быў вялікім знаўцам і прыхільнікам паэзіі і другам Аляксандра Трыфанавіча.

Твардоўскі чытаў проста, натуральным чалавечым голасам, без «паэтычных» завыванняў і эфектаў. Гэта быў добры, крыху расцягнуты верш пра жаночую долю ў час Айчыннай вайны. Нечым нагадваў яго нядаўна надрукаваную паэму вялікай сілы «Дом ля дарогі».

Калі Аляксандр Трыфанавіч скончыў і грузна апусціўся на сваё крэсла, Фадзееў чамусьці весела, з усмешкай сказаў:

— Не тое, Саша, не тое...

Твардоўскі, як уджалены, падскочыў і пакланіўся:

— Ах, не дагадзіў вашай вялікасці.

А Фадзееў не страціў добрага настрою і прадаўжаў жартаваць. Аляксандр Трыфанавіч, пахмурнелы, раптам напаў на Первамайскага з нейкімі невыразнымі папрокамі. Той тужліва глядзеў на Твардоўскага і паўтараў няўцямна адно і тое ж:

— Што ты, Саша... Што ты, Саша...

Але ўжо весялосці і пачатковай радасці не было. Мы пачалі разыходзіцца. Усё раз' яснілася назаўтра. У цэнтральных газетах была надрукавана пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР аб прысуджэнні Сталінскіх прэмій. У спіску значылася і паэма «Дом ля дарогі» Аляксандра Твардоўскага. Фадзееў пра гэта ведаў, але да пары змоўчаў. На з'ездзе зрабілі перапынак. Усе горача і сардэчна віншавалі любімага паэта. Перайшлі з залы ў гасцёўню. Пачаліся віншавальныя прамовы. Латышы падарылі рускаму паэту на памяць драўляны кубак з прыгожай разьбой. Аляксандр Трыфанавіч адразу пацяплеў, палагаднеў і сказаў, крыху запінаючыся, удзячнае слова ў адказ. Калі ён паведаміў, што яго родная цётка замужам за латышом і працавіты латышскі народ яму вельмі блізкі і родны, нашы сябры ў захапленні загрымелі воплескамі...

А той урывак, што быў прачытаны паэтам учора, відаць, быў выкінуты з паэмы: і Твардоўскі, як я мяркую, хацеў праверыць, ці правільна ён зрабіў... Нідзе я гэтага ўрыўка не сустракаў: ні ў друку, ні ў зборах твораў паэта.

У гэты памятны вечар Фадзееў паехаў да моладзі — расказаць пра «Маладую гвардыю». Твардоўскага, Первамайскага і мяне запрасілі выступіць у Доме афіцэраў.

Зала была перапоўненая. Дзіва што! Тут у асноўным былі баявыя афіцэры, а да іх прыехаў любімы

франтавы паэт. Прысутнічаў і камандуючы Прыбалтыйскай ваеннай акругі Маршал Савецкага Саюза Іван Хрыстафоравіч Баграмян.

Выступаў Первамайскі, пасля — я. Прымалі добра, нават вельмі добра. Але мы разумелі, што чакалі выступлення Твардоўскага. Яго сустрэлі сапраўдным громам воплескаў, як праслаўленага героя Айчыннай вайны, і ён чытаў з вялікім натхненнем, хоць, як і заўсёды, проста і выразна, як мудры селянін, які ўсё зведаў, усё прайшоў і паспрабаваў. Былі і «Пераправа», і вершы, і яшчэ з «Цёркіна», і з «Дома ля дарогі». Яго доўга не хацелі адпускаць.

Пасля заканчэння вечара кожнага з нас акружылі землякі. Мяне акружылі таксама афіцэры, якія былі ці родам [redacted] Беларусі, ці вызвалялі нашу рэспубліку. Пасыпаліся запытанні: «Што ўцалела?», «Як аднаўляецца Мінск?», «Як жыве Якуб Колас?», «Што новага напісаў Аркадзь Куляшоў?..» А там, дзе гутарыў Твардоўскі, раздаваўся час ад часу рогат...

Ды раптам падбег заклапочаны падпалкоўнік і папрасіў: «Трэба хутчэй ехаць!» Мы ледзь прабіліся праз мноства дарагіх нам людзей... На двары стаялі некалькі машын. Была ўжо ноч. Мы паехалі на другой (Твардоўскага, як самага высокага і цяжкога, пасадзілі [redacted] шафёрам). За намі ішла машына маршала.

Аказваецца, старшыня Вярхоўнага Савета Латвіі наладзіў на дачы прыём у гонар гасцей з'езда пісьменнікаў. Мы ехалі даволі доўга, у бок Юрмалы. Нарэшце паміж сосен засвяцілася дача. Справа была ўвосень, і мы ўсе былі ў плашчах. Распрануліся ў пярэдняй і затупалі, як мядзведзі, у кутку, саступаючы Івану Хрыстафоравічу права ўвайсці першаму. Але на тое ён і маршал, каб камандаваць. І ён скамандаваў:

— Да сталоў шагам марш!

З радасцю выканалі яго каманду. Нас прывітаў сам Старшыня Вярхоўнага Савета — высокі худар-

лявы чалавек у акулярах. Яго лысіну акантоўвала заслужаная сівізна. Доктар Кірхенштэйн быў вялікім вучоным — мікрабіёлагам. Пахла нечым смачным. На стале стаялі гладышы і глякі цёмнай афарбоўкі — прадукцыя самога гаспадара, доктара мікрабіялагічных навук. Мы нырнулі ў святочнае застолле...

* * *

Самым выдатным паэтам Латвіі тых гадоў быў, безумоўна, Ян Судрабкалн. Вялікі талент, шырокая эрудыцыя, абсалютная адсутнасць нацыянальнай абмежаванасці, голас, поўны дружалюбнасці да рускіх («Рускаму народу» і інш.). Паэт жыў пад час вайны нядоўга ў Кіраўскай вобласці, а потым у Маскве.

Пісаў вершы пра радзіму, пра вайну, пра Сталінград, пра нашу перамогу. Ён, як і мы, беларусы, гараваў і сумаваў па Латвіі, па Рызе. І, вядома, пісаў пра латышскіх стралкоў («Латышы ідуць у бой», «Мроі стралка», «Латышам у Саюзе» і інш.). Ён яшчэ ў 1917 годзе працаваў у газеце латышскіх стралкоў «Свабодны стралок».

Мне адразу спадабаўся гэты чалавек, моцны, плячысты, мажны, спакойны, сапраўдны латышскі стралок. Мяне з ім пазнаёміла Мірдза Кемпе (пазней я даведаўся, што яна і Ян Судрабкалн — вялікія сябры). Было ў нас добрае супадзенне: пад час вайны ў Маскве ў мяне выйшлі дзве кнігі вершаў (1941 і 1944 гады). У Судрабкална таксама: «Жаўранкі клічуць у бой» і «Хлеб на дарогу» (1942, 1944 гады, Масква).

Нават любімыя птушкі ў нас аднолькавыя: жаўранкі.

У яго не было поўнай сістэмнай адукацыі. Ён скардзіцца: «Шлях самавука нялёгкі, і мне часта перашкаджалі і перашкаджаюць кнігі. Паэзія мая часта хварэе кніжнасцю, рытарычнасцю».

Ах, як усе мы любім самаедства. У асобных вершах кожнага паэта ў пэўныя часы ёсць налёт рытарычнасці. Але затое ў Яна Судрабкална ёсць тое, чаго няма ў іншых паэтаў: вялікі паэтычны талент, шчырасць, сумленне, рэвалюцыйныя ідэалы, трапяткая любоў да роднай зямлі, нездарма вобраз жаўранка ўзнікае ў яго паэзіі шмат разоў. Пра жыццё і думы латышскага народа можна даведацца, прачытаўшы вершы Яна Судрабкална, пачынаючы з 1912 года (першы зборнік «Крылатая армада» выйшаў у 1920 годзе). Уся яго творчасць — паэтычная энцыклапедыя жыцця латышскага народа.

На такіх людзях, як Ян Судрабкалн, трымаецца сапраўдная паэзія і культура свайго народа. Такімі вялікімі майстрамі на Украіне былі: М. Рыльскі, П. Тычына, М. Бажан. У нас — Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк.

Спачатку Ян Судрабкалн здаўся мне маўклівым і адасобленым (пра маўклівасць латышоў і эстонцаў сказана шмат няпраўды). Усё выявілася прасцей: паэт вельмі заікаўся. А ён быў не жалезным латышскім стралком, а добрым інтэлігентам, разумным і сардэчным чалавекам. Праўда, часам даверлівым і наіўным, як дзіця. А можа, такім і павінен быць сапраўдны паэт? Я пераканаўся яшчэ раз, што розніца ў гадах для сяброўства — не перашкода. А з Янам Судрабкалнам мы па-сапраўднаму пасябравалі ў час памятнай для нас Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Латвіі ў верасні 1960 года. Гэты раз пазнаёміўся з маладымі паэтамі Оярам Вацыецісам, Імантам Зіедонісам, Імантам Аўзінем.

Мы аб'ездзілі ледзь не ўсю Латвію. Латышы падобныя да беларусаў — працавіты і гасцінны народ. Усе мы закахаліся ў рэчку Гаўю і ў той непаўторны па прыгажосці край. Пры чым тут Швейцарыя? Гэты

куток Латвіі — самабытны і падобны толькі сам на сябе.

Калі ўрад Латвіі даваў заключны банкет у наш гонар і высокае начальства ўжо ад нас паехала, мы з Янам Судрабкалнам захацелі ў цішы пагаварыць пра тое-сёе. Ён знайшоў столік на спакойным і не вельмі бачным месцы за буфетам. Пачалі гаварыць пра характэрныя рысы беларусаў і латышоў, многія з якіх супадаюць. Гаварылі пра сімволіку нашых паэтаў, што Яніс Райніс любіў дрэвы, мора, дзюны, а Янка Купала — дрэвы, птушкі, неба, зоркі і сонца. І абодва яны глыбока любілі сваю зямлю, свой народ.

І тут падышлі да нас маладыя латышскія паэты, падселі, гаворка адразу зрабілася гучная і палемічная. Мы ўзняліся. Судрабкалн з журботнай усмешкай сказаў:

— П-пагаварылі пра паэзію...

А ў 1959 годзе мы ў Беларусі прымалі ўдзельнікаў Дэкады латышскай літаратуры і мастацтва.

Мы выехалі на граніцу з Латвіяй. Сардэчна, пабрацку сустрэлі дарагіх сяброў. У мясцовай школе наладзілі застолле. І, як тады было заведзена, было шмат тостаў, прамоў, прызнанняў у любові і дружбе.

Былі і ў нашай рэспубліцы таварышы, якія любілі доўга сядзець за сталом.

А я занерваваўся. У Наваполацку латышскіх гасцей чакалі рабочыя і інжынеры з нафтаперапрацоўчага гіганта. Я меў тады дачыненне да полацкіх спраў па дэпутацкіх абавязках і быў у пэўным сэнсе гаспадаром.

Я папярэдзіў Івана Шамякіна, што нас чакаюць. Мы з Максімам Танкам пасадзілі ў машыну сваіх дарагіх сяброў — Мірдзу Кемпе і Яна Судрабкална і памчаліся па дарозе ў Полацк між сасновых бароў і гаёў незвычайнай красы.

Ад'ехаўшы кіламетраў дваццаць, я пачуў разважлівы голас Яна Судрабкална:

— Давайце спынімся, рабочыя чакаюць усіх, а мы ўварвёмся... Няёмка. Давайце выйдзем і падыхаем. І мясціны тут прыгожыя.

Так мы і зрабілі. Неўзабаве пад'ехалі ўсе, хто адстаў.

Сустрэча ў Полацку была радасная, запомнілася надоўга.

У тыя дні мы паказалі латышскім сябрам усё, што маглі: і возера Нарач, дзе ў першую імперыялістычную вайну Ян Судрабкалн сядзеў у акопах, і Мінск, і шмат іншага. Я заўсёды быў з Янам Судрабкалнам і Мірдзай Кемпе.

Здаецца, яны былі задаволеныя.

Ян Судрабкалн падарыў мне кнігу выбраных вершаў, выдадзеных у «Бібліятэцы савецкай паэзіі» з такім надпісам:

«Глыбокапаважанаму, дарагому Пімену Панчанку, цудоўнаму паэту і сябру, на памяць пра нашы сустрэчы. Ян Судрабкалн. Мінск. 16 верасня 1959 года».

Там змешчаны верш «Памяці Купалы», пазначаны 1941—1943 гадамі: пачаты верш напярэдадні вайны, а закончаны пасля трагічнай смерці нашага вялікага паэта.

Вось урывак з гэтага верша:

Я в нашей Риге встретился с Купалой...
Зачаровала нас душа простая:
Она все лживое презрела,
Избрав добро своим уделом,
Печаль и славу на плечи вздымая.
Призыв Купалы я услышал снова
Вдали от Латвии родимой,—
Летел он сквозь эфир незримый:
«Пора ковать победы меч суровый!»

*(Пераклад А. Качаткова)*

Пасля дэкады мы сустракаліся не раз і ў Маскве і ў іншых мясцінах. Ён прыязджаў з літаратуразнаўцай Мірдзай Абалай у 1972 годзе. Я яго (разам з Адамам Мальдзісам) сустрэў у аэрапорце, звазіў у Хатынь. Але пра ўсё гэта сказана ў пісьмах самога Судрабкална.

Я прашу прабачэння ў чытача, што я не выкінуў мясцін з лістоў і Яна Судрабкална, і Мірдзы Кемпе, і Ояра Вацыецiса, дзе хваляць мяне. Я разумею, што тут сяброўскае перабольшанне далікатных людзей. Але і сілы няма, каб выкінуць, бо такое вельмі рэдка пачуеш і дома.

Затое любоў да беларускай зямлі і нашага народа — вартыя і апублікавання, і ўдзячнасці.

Ян Судрабкалн прысылаў мне зрэдку тэлеграмы.

«Жадаю Вам новых цудоўных радасцей і творчых поспехаў. Хай квітнее дарагая Беларусь, і хай паэзія яднае сэрцы людзей».

«Віншую святам рэвалюцыі. Жадаю новых цудоўных вершаў, новых дасягненняў беларускага народа».

«Душой удзельнічаю вашым вялікім цудоўным свяце пяцідзесяцігоддзя Беларусі і Камуністычнай партыі. Змене год жадаю шчасця ва ўсім».

Прысылаў паштоўкі ў шасцідзесятых гадах.

«Дарагі Пімен Емяльянавіч, ад шчырага сэрца віншую Вас з Новым годам і жадаю новых творчых поспехаў, смяяцца часцей — нельга сумаваць ці злавацца, здароўе трымаць моцна за аброць. Калі думаю пра Вас, пра сяброў на беларускай зямлі, хочацца праспяваць песню, паехаць у Мінск, ды ўсё гэта мары, добрыя, але цяжка якія выканаць».

«Дарагі друг, у нас мурава, лужкі ўсё яшчэ такія зялёныя, як на гэтай паштоўцы. Цвітуць анюціны вочкі, на ўзмор'і ў нечым садзе расцвілі ружы. Што ж гэта такое? Зімы не будзе? Добра гэта ці блага? Жадаю Вам, друг дарагі, шчасця, здароўя, цудоўных

віршаў. Убачыць бы Вас, пасядзець так спакойна і весела! Ды я ўжо жывы абрастаю мохам і пяском. Добра гэта ці блага? Новы год будзе цудоўны, жывы, моцны, добры!»

«Сябры могуць быць далёка, а ўсё ж пачувацца блізка. Жадаю ў 1962 годзе здароўя, новых кніг, і сэрца няхай грукае вечна юна».

«Дарагі Пімен Емяльянавіч, ад шчырага сэрца віншую Вас з Новым годам і жадаю шчасця вялікага, здароўя моцнага, творчых поспехаў цудоўных, і нешта ў мяне самога на душы сумна, ды пры думцы пра Вас, дарагога сябра і цудоўнага паэта, робіцца святлей. З новым годам!»

«Дарагі Пімен Емяльянавіч, глыбока мяне кранула, разбудзіла (я яшчэ сплю па-зімоваму) Ваша прывітанне. Пазнаю вясёлага, любезнага, насмешлівага і сардэчнага беларуса! Полюсы прымацаваны да Смула, адважнага эстонца. У Тога, Чылі (на якое падчас любуюся на атласе,— надта ўжо недарэчна расцягнулася яно па ўсім узбярэжжы!), Непал — вельмі далёка ўсё гэта, ды трэба імкнуцца да далёкага, пераўзыходзіць Твардоўскага! Жадаю шчасця, дарагі друг!»

Я ўжо не магу расказаць майму старэйшаму дарагому другу Яну, што я і пабываў у Непале, выканаў яго запавет. А Твардоўскага ніхто з нашых сучаснікаў не перагоніць. Ды гэта і не патрэбна! Аляксандр Твардоўскі — адзіны і непаўторны!

«Дарагі Пімен Емяльянавіч, дужа радасна ўсведамляць мне наша суседства і нашую дружбу адчуць. Ад душы жадаю Вам, вялікаму яркаму паэту Беларусі і ўсёй велізарнай краіны, новых дасягненняў, шчасця, здароўя, хто ведае, мабыць, сустрэнемся яшчэ. Стаміўся я трошкі, ды гэта пройдзе».

А вось яшчэ тры апошнія лісты.

«Рыга, 5 лістапада 1964 года.

Дарагі Пімен Емяльянавіч, з вялікім, недаравальным спазненнем прыношу Вам самую гарачую падзяку за цудоўную, выдатную кнігу, за «Там, дзе сінее Нарач». Альбом гэты, любоўна і клапатліва, з густам выдадзены, мне шмат расказаў пра Беларусь. Нібы з туманных далячыняў мінулага вынырнуў, паўстаў 1915 год, калі я пабыў у тых краях салдатам...

Цудоўныя краявіды, дарагія твары сяброў, выдатных людзей, працаўнікоў, моладзі Беларусі, птушкі і рыбы, воды, дрэвы і кветкі, прасторы возера, зямлі і нябёс...

Незвычайна ўсё гэта прываблівае. Дзякуй ад усяго сэрца.

Пасылаю Вам невялікі альбом краявідаў Сігулды.

Дарагі Пімен Емяльянавіч, віншую Вас з вялікім святам Рэвалюцыі.

Жадаю новых выдатных вершаў, розных радасцей і ўцех, моцнага здароўя, шчасця.

Шчыра ваш Ян Судрабкалн».

«Рыга, 28 снежня 1965 года.

Дарагі Пімен Емяльянавіч, зноў сябры мяне збянтэжылі і засмуцілі, апераджаюць усе мяне, я толькі-толькі рыхтуюся вітаць іх, прывітанні мінчан ужо ў Рызе. Ды смутак хутка праходзіць, я стараюся забыцца на сваю віну, радуюся вось, сябры помняць мяне. Хутка лётаюць, знікаюць гады, сціраюцца ў аслаблай старэчай маёй памяці многія падзеі і твары, але Беларусь, Мінск, беларускія сустрэчы зноў паўстаюць, маляўнічыя і вясёлыя. І чую, здаецца мне, ваш голас, голас надзіва самабытнага, глыбокага паэта.

Жадаю Вам шчасця вялікага ў 1966 годзе! А сам сабе жадаю, каб збыліся словы Вашага прывітання — не хварэць, быць дужым і здаровым. Пачынаю зда-

ваць, падчас падкрадваецца туга. Ды так і быць, стараюся слухацца Вас.

Ваш Ян Судрабкалн».

«Рыга, 14 жніўня 1969 года.

Дарагі Пімен Емяльянавіч, толькі што прайшоў моцны, але кароткі лівень, які крыху асвяжыў стомленую прыроду, і зноў ззяе сонца. Час ляціць занадта хутка, ды сцерціся ў памяці ўсё тое, што мы ўбачылі і пачулі з Мірдзай Янаўнай на беларускай зямлі, яшчэ не паспела, і многае, вельмі многае не забудзецца ніколі.

14 верасня.

Цэлы месяц кануў як у ваду, і сорамна і ніякавата мне, і не магу перад Вамі і іншымі беларускімі таварышамі ніяк і нічым апраўдацца. Закруціўся, як нікчэмны эгацэнтрык, эгаіст, як вавёрка ў коле, у сваіх абсалютна асабістых справах і справунках, сумненнях і страхах, пагруз, заблудзіўся, як у джунглях. Але... усё гэта так, ды ўсяму ёсць край, мяжа, і не разумею я сам, як мог я так апусціцца, маўчаць болей чым месяц (бо вярнуліся мы з Мірдзай у Рыгу 10 жніўня). Ды час праляцеў, і нічога добрага, карыснага, патрэбнага людзям я наогул у гэты месяц не зрабіў. Праходзяць у нас вось Дні паэзіі (заканчваюцца 16 верасня), з цяжкасцю, са страхам, спалохаўшыся людзей, сказаў колькі слоў каля магілы Райніса і колькі слоў на ўзмор'і пад Райнісавымі соснамі, а вершаў даўно ўжо не ствараў, наогул нічога не пісаў.

Ды вершы вершамі, гэта ўжо толькі мая справа, а доўг сябрам, гэта вышэй за мае асабістыя абавязкі, гэта не будні, гэта было свята для мяне — тры дні ў Мінску і тры ў Брэсце. І пра паездку ў Беларусь я для друку да гэтага часу яшчэ нічога не напісаў...

Дарагі, паважаны Пімен Емяльянавіч, ад усяго сэрца прыношу Вам сваю шчырую падзяку. Вы су-

стрэлі нас у Мінску разам з таварышамі на аэрадроме, і Вы паехалі з намі на Хатынь, і ўсё, што там пабачыў, глыбока мяне ўскалыхнула. Беларускі народ, беларуская зямля нацярпелася, перажыла страшэнную долю, страціла дарагіх жыццяў многа, многа, і ні на якіх шалях гэтага не ўзважыць, не перадаць гэтага ні лічбамі, ні словамі поўнасцю. Ды ўсё, што ў чалавечых сілах, нават, здавалася б, звыш чалавечых сіл і магчымасцей, беларусы зрабілі, каб захаваць на вечныя вякі ў памяці панесеныя ахвяры, каб у змене пакаленняў вечна жылі і ахвяры, і гераізм, і вынослівасць народа і каб усёй брацкай савецкай сям'і народаў і ўсяму чалавецтву было відаць, каб увесь свет даведаўся, якія героі, якія таленты цудоўныя вырастаюць на беларускай зямлі, наколькі багатая і якая шчодрая душа беларуса і які верны беларускі народ высокім камуністычным ідэалам, дружбе народаў, Леніну, наколькі моцная дружба з братамі, а ў іх ліку і з латышамі. Пра гэта і пра шмат, шмат што іншае я часта думаў, вярнуўшыся з паездкі. Зноў і зноў браў кнігі ў рукі, чытаў, асвяжаў памяць, і паўставалі перада мною ветлівыя, дружалюбныя, ласкавыя таварышы, і толькі цяпер я належна ўсвядоміў, зразумеў усю асалоду, незвычайную сілу гэтай дружбы. Вы, дарагі Пімен Емяльянавіч, апавядалі з захапленнем і ад сэрца і з дакладным веданнем пра ўсё, што мы з Мірдзай Янаўнай убачылі ў дарозе і на Хатынскім мемарыяле, і цяпер я здзіўляюся, як не стамляліся Вы, і зноў ад глыбіні душы кажу вам: «Дзякуй!»

Сярод кніг, якімі адарылі мяне ў Мінску, маецца і крытыкабібліяграфічны нарыс Рыгора Бярозкіна пра Вас, і разумная і сардэчная кніга дапамагла мне глыбей і бліжэй спазнаць Вас і Вашую творчасць. Вершы Вашыя, якія заслужана лічацца сярод лепшых, што створаны не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім Савецкім Саюзе, знаёмыя мне, і я моцна палюбіў Вашу

паэзію, своеасаблівую, эмацыянальную і свежую думкамі, вобразамі. Я даведаўся, з Вашага даверлівага апавядання ў размове са мной, шмат новага пра Вашае жыццё, біяграфію, і ўсё гэтае яшчэ болей умацавала маю павагу, маю дружбу да Вас.

Я разгарнуў нумар газеты «Літаратура і мастацтва» ад 16 мая гэтага года і зноў прачытаў з хваляваннем надзвычай сардэчныя, брацкія, светлыя радкі, прысвечаныя мне, і стала зноў цёпла і ясна на душы. Дзякуй, браты! Усхваляваў мяне зноў і здымак, фота 1959 года, з Дзён латышскай літаратуры ў Вашай рэспубліцы. Гэта былі цудоўныя дні! А на здымку я разам з Вамі, дарагі Пімен Емяльянавіч, і з Максімам Танкам, выдатным, моцным паэтам і добрым сябрам, і зноў я чую вясёлы смех ягоны, вострыя слоўцы. З вялікай радасцю прачытаў свае вершы, гэтак шчодра паказаныя ў газеце ў цудоўных перакладах Сяргея Іванавіча Грахоўскага. Успомнілся тут і дні (пад час фестывалю моладзі) у Перадзелкіне, дзе мы з Валдысам Луксам сустракаліся з Максімам Танкам, з Міхасём Лыньковым і Петрусём Броўкам. Даўно ўжо я маю шчасце ведаць Пятра Усцінавіча Броўку, глыбока паважаю яго, люблю. Сапраўдны ён народны паэт Беларусі, вясёлы і сяброўскі. Ён гаварыў па радыё сёлета шмат добрых слоў пра Латвію, пра Райніса і латышскую літаратуру, цёпла ўспамінаў і мяне. У Мінску я набыў два зборнікі вершаў Петруся Броўкі («Вершы і паэмы», 1966 і «Між чырвоных рабін», 1969) і чытаю з радасцю (без слоўніка, праўда, не ўсё ўспрымаю). Прашу, перадайце яму і ўсім таварышам беларусам, сябрам латышскага народа і маім сябрам самае шчырае прывітанне і добрыя пажаданні і словы дружбы і ўдзячнасці маёй. У нумары «Літаратуры і мастацтва» ад 15 жніўня гэтага года змешчаны сардэчны артыкул пра жнівеньскія сустрэчы, а таксама тры мае вершы, якія з тонкім, дакладным адчуваннем арыгі-

нала пераклаў Рыгор Барадулін. І таварышу Мажэйку і таварышу Барадуліну я яшчэ не напісаў, ды неадкладна напішу сёння, таму што пераадолена, нарэшце, паласа маіх стрэсаў і сумненняў і я зноў як бы вярнуўся да жыцця.

Я апошнія два дні не зусім здаровы, кружыцца галава, у патыліцы гняце, ды гэта глупства, ужо сёння лепей стала, і раскаяўся я ў сваім маўчанні доўгім, і вось пішу Вам пісьмо, якое страшэнна спазнілася, але ўжо лепей пазней, чым ніколі. Не магу дапусціць, не маю смеласці, не хачу, каб парваліся нашыя сяброўскія сувязі. (Вось толькі згадзіўся я разам з паэтам Андрысам Веянам днямі паехаць у Ерэван, на стогадовы юбілей Туманяна, і не ведаю яшчэ, што заўтра скажа ўрач, ці дазволіць мне ехаць, ляцець так далёка.)

Дарагі друг, на гэтым я і заканчваю сваё пісьмо-пакаянне і адраджэння новага жыцця. З самай раніцы сонца зырка свеціць, грэе яшчэ па-летняму амаль. Жадаю Вам многіх розных удач і радасцей, здароўя і шчасця і моцна цісну Вашую руку.

З павагай і любоўю Ваш

Ян Судрабкалн.

P. S. Прыношу сваю падзяку, сардэчны дзякуй Саюзу пісьменнікаў Беларусі за машыну, якой мы карысталіся ў паездцы ў Хатынь і па Мінску. Гарачы — дзякуй! Я. С.

P. S. Увесь час не сумняваўся, а раптам пачаў сумнявацца, ці скланяюцца прозвішчы на «о» і як скланяюцца? Проста сорамна. (Прашу прабачэння за шматлікія папраўкі і чорныя плямы). С.».

Я шчаслівы, што дружыў з такім выдатным чалавекам і паэтам.

Усе мы спяшаемся, засядаем, мітусімся, а пасля шкадуем і нікчэмна апраўдваемся: быў у ад'ездзе,

заелі справы, пасылалі за мяжу, хварэў, рабіў рамонт і недзе згубіліся лісты сяброў... Я падвёў маю дарагую Мірдзу Кемпе: не напісаў у свой час успамінаў пра Яна Судрабкална. Падвёў у гэтай справе і мілую, інтэлігентную Мірдзу Абалу, якая дбайна і з любоўю збірала матэрыялы пра Судрабкална, прыязджала ў Мінск.

Я аблаяў сябе безадказным шалапаем, нікчэмным здраднікам і мацнейшымі словамі — але цяпер ні латышскім сябрам, ні мне самому ад гэтага лягчэй не стала. Сёлета ў ліпені знайшоў, здаецца, усе пісьмы і паштоўкі латышскіх сяброў, паехаў у караліўчавіцкі свой дамок і пішу пад шум летняга дажджу гэтыя не зусім складныя ўспаміны.

* * *

Гляджу на здымак прыгожай жанчыны, не дужа маладой, але з выразным адухоўленым тварам. Гэта Мірдза Янаўна Кемпе, народны паэт Латвіі, мой самы даўні друг з латышскіх сяброў. На адваротным баку здымка надпіс: «Мірдза ў Латвіі думае пра Беларусь».

Ах, Мірдза, Мірдза... Перачытваю твае лісты і паштоўкі, і сэрца сціскаецца ад радасці, што я доўгія гады сябраваў з табой, захапляўся табою і тваёй паэзіяй.

Ты была сапраўдным таленавітым паэтам і сапраўдным таленавітым чалавекам. Твая паэзія ясная, празрыстая і мужная. Ты з добрай латышскай рэвалюцыйнай сям'і, мілая ліепайская чараўніца. Цябе перакладалі М. Ціханаў, У. Раждзественскі, У. Ліўшыц, В. Шэфнер, А. Астроўскі.

Ты была інтэрнацыяналісткай, даражыла дружбай людзей розных савецкіх нацый, пісала і «Ля магілы Пушкіна» і «Камень Арменіі».

Ты вельмі любіла жыццё, усё зялёнае, сіняе і сонечнае.

Ты была добрая, вясёлая, дружалюбная, таварыская, вельмі патрабавальная і да сябе, і да іншых. Ты магла ў гневе нахмурыць бровы і зрэзаць нахабнага хама, злоснага мешчаніна, несумленнага балбатуна ці салодкага і хітрага прыстасаванца. Ты сама горда заявіла: «Мне шчасця лёгкага не трэба». Ты светла і пяшчотна сказала: «Я — жанчына!»

У кнізе «Вечнасць і імгненне», за якую ты была пашанавана Дзяржаўнай прэміяй СССР,— твой паглыблены свет, твая любоў да людзей працы, да сваёй роднай зямлі, мудрая філасафічнасць. Ты любіла праўду і справядлівасць. Ты была рэдкім паэтам.

Мы заўсёды спазняемся сказаць сябру ці сяброўцы найлепшыя словы пры жыцці, спазняемся жывой прынесці кветкі, а кладзём іх на дарагую магілу.

Вось некаторыя лісты незабыўнай Мірдзы.

«Рыга, 19.IX.59.

Дарагі Пімен!

Ужо ў самалёце я пачала чытаць твае вершы, паліваючы іх слязамі,— у іх жыве твая Беларусь. Твае вершы такія ж, як ты сам: у іх гучыць твая глыбокая сардэчнасць, душэўная мяккасць, і разам з тым ёсць у іх нешта непахіснае, таксама твая тонкая іронія, своеасаблівы сонечны гумар. Так, гэта Пімен Панчанка! І, апрача таго, ты зусім незвычайны, і я павінна была б вучыцца ў цябе. Я зусім забылася, што ёсць яшчэ на свеце Латвія, і вельмі здзівілася, убачыўшы яе. Першы дзень дома я пражыла, як уздрыглівы асінавы ліст, і ўсё расказваю пра Беларусь. Тады я заўважыла, што многа расказаць, значыць прытупіць уражанні і перажыванні, і замоўкла. Павалілася на канапу і ляжу ўжо другі дзень у нявытлумачанай тузе, часта праліваючы тыя ж паганыя слёзы. Напэўна, гэта вынік напружання гэтага незабыўнага тыдня.

Я пазнаёмілася з тваёй радзімай — з тваім добрым, светлым і мужным народам. Успамінаю ўсе абліччы, што прамільгнулі як трызненні ў Полацку, Віцебску, Мінску — твары пісьменнікаў. Максім Танк вонкава нагадвае мне крыху Твардоўскага. Шкада, што ён не жадаў пагаварыць са мной. Ты ведаеш, што сустрэча з Твардоўскім — нягледзячы на ягоны страшэнны характар — зрабіла на мяне моцнае ўражанне. Ты прысутнічаў пры гэтай касмічнай катастрофе, але я яшчэ не ведала цябе як паэта. А цяпер ведаю! І калі ты плачаш, Пімен, дык нагадваеш анёла. Так добра, што чалавек харошы! Гэтак мала добрых людзей. А ты мяне суцешыў у маім сапраўды горкім жыцці. Я не магу забыцца на магілы вакол Мінска, надпісы на помніках. Мая сям'я ўся памерла, і маё жыццё з вялікімі намаганнямі ўзнялося над іх смерцю. І мне здаецца, што Вашы гарады таксама падымаюцца на гэтых ціхіх нябачных плячах Вашых палеглых. Я пабачыла, што Вы іх адчуваеце заўсёды. Таму Вы праўдзівыя і мужныя. Мяне дужа ўзрадавала, што ў цябе цудоўная жонка. Так мне казалі. Мець сапраўдную жонку ці сапраўднага мужа вялікае шчасце, у бальшыне ўсё гэта непаўнацэннае і няшчырае. Не злуйся за патэтыку, я яшчэ не прызямлілася. Яшчэ я ў аблоках аэрадрома ў Мінску. Ты помніш — такія белыя і лёгкія яны адплывалі ў бясконцасць. Тваю кнігу я заўтра перадам Судрабкалну.

Дзякуй, любы Пімен, якога мы ўсе так палюбілі. Да пабачэння!

Беларуская Мірдза.

Я папрашу потым у цябе парадкоўнікі паасобных вершаў».

«Дарагі Пімен!

Дзякуй за тваё задушэўнае пісьмо. Я не адказала, але я была з табой. Я выбрала для перакладу твае

вершы і працую ўжо на ўсю. Шкада, што па рускім перакладзе. Прышлі мне свае вершы па-беларуску, я параўнаю з рускім тэкстам, і пару вершаў апошніх гадоў, каб ты, мудры анёл, мог узляцець усімі сваімі крыламі.

Будзе ў нас дэкада вельмі цудоўная — Вы ўсе ўбачыце Латвію. Я ўсё гаварыла пра Беларусь, але цяпер, пасля перакладу, пачну нешта пісаць. Не трэба душу выліваць у словах, у размовах, а проста ў паэзію. Цяпер перакладаю: «У навальніцу», «Партызанская песня», «Мы ведаем», «У мяне нікога не забілі», «Песня аб чатырох магілах», «Герой», «Сустрэча з бярозай», «Мінскія сады», «Руіны». Прышлі нешта спецыяльна. Я выбрала твае ваенныя вершы, таму што, стоячы каля магіл Вашых палеглых і закатаваных, я неяк па-асабліваму востра адчула ўсё гэта — вартасць твайго народа і тваёй паэзіі. Але лірыку і дасціпнасць — падавай яшчэ! Прышлі па-беларуску, мабыць, парадкоўнікі. Я чула пра тваю малярыю, ты, значыць,— крыху індус. Ды ўсё ж шукай новыя сродкі ад яе. Усяго добрага, усяго шчасця табе, тваёй сям'і і цяпер на векі вякоў. Мірдза».

«Рыга, студзень 1960 года.

Любы Пімен!

Вялікі дзякуй за тыя дзве цудоўныя і прыгожыя кнігі, дзе твая паэзія гучыць на народнай мове і дзе твой твар так хітра-таемна ўсміхаецца, што я засмяялася. Працуем, працуем над табой! Некаторыя пераклады атрымаліся ў мяне здорава: «Герой», «Пасля вечарынкі», «Песня партызан», «Чатыры магілы», яшчэ працую над «Садамі Мінска», некаторымі іранскімі вершамі, якія чароўныя ў сваёй вобразнасці: напрыклад, дзе цябе на перавале, як скрыпку, раздзіраюць смычкі ўсіх вятроў. Дай божа сілу ўсё гэта перадаць як трэба! Яшчэ змагаюся з веліканам аме-

рыканскім — Уітменам. Так што сама амаль не пішу, за выключэннем прысвячэнняў Чэхаву і г. д. Любоў да Беларусі павінна цяпер акунуцца ў цішыню, каб зноў уваскрэснуць у вершах. Танк прасіў яму прыслаць мае вершы для часопіса, я тое-сёе паслала, але не гучаць у парадкоўніках, нават сорамна. Пачала тое-сёе пісаць пра Беларусь, але пераклады цяпер патрабуюць усе мае душэўныя сілы. Пачакаю.

Мы цяпер робім вечары паасобных паэтаў — з музыкай, удзелам актораў і спевакоў. Здорава атрымліваецца. Быў мой вечар, потым Рокпелнісаў, Вацыецісаў, Веянаў і г. д. Жывём у адной паэзіі. Акунаюся ў душу твайго народа праз паэзію.

Дарагая родная Беларусь! Будзь заўсёды такім мілым і мудрым паэтам сваёй зямлі, з душой, адкрытай усяму добраму і сапраўднаму ў свеце. Яшчэ раз дзякуй!

Латышска-беларуская

Мірдза Кемпе».

«Рыга, 10.XI.60.

Дарагі Пімен!

Даруй мне — адказваю позна на тваё цудоўнае пісьмо. Я рагатала, чытаючы твае дасціпныя самалінчаванні. Не, ты ўсё ж мой сябра! Я ўсё разумею. Калі была я ў Беларусі — у нас не было ні хвіліны часу ўспомніць пра нашых блізкіх, мы забывалі мужоў, жонак, каханак, каханкаў,— мы думалі толькі пра беларусаў, пра нашыя польныя выступленні, глядзелі на людзей, прыроду, гарады, сёлы. Так было і з нашымі мілымі сябрамі ў Латвіі.

Я радая, што табе спадабалася мая краіна і мой народ. Я слухала, лежачы ў пасцелі, твае выступленні — я гэтак глыбока ведаю тваю добрую душу, што мне зусім не было крыўдна, калі мяне не наведвалі ў бальніцы — гэта забрала б некалькі гадзін і вырва-

ла б цябе з агульнага рытму дэкады. Але пасля бальніцы ў мяне была нейкая дзіўная прастрацыя — памерла некалькі маіх блізкіх знаёмых — і пасля хаўтур я заўсёды ўпадаю ў доўгае дзіўнае сузіранне тленнасці ўсяго жыцця і яго неўміручасці — неяк блізка адчуваю тых, што адышлі.

Дзякуй за вітанні!

Жадаю табе здароўя і натхнення. Твая кніга выйшла ў добрых перакладах — не забывайся даслаць нам свае новыя вершы. Перадай ад мяне прывітанне Максіму Танку. Шкада, што ён не прыехаў заваёўваць сэрцы латышскіх дзяўчат! Замест яго лаўры заваяваў Брыль, як я чула. Прывітанне таксама Міколу Ткачову — калі табе не будуць клопатам такія прывітанні. Прадаўжай любіць латышоў, любы Пімен!

Дзякуй за ўсё — Мірдза».

«Любы Пімен!

Дзякуй, што ўспомніў мяне ў Жаночы дзень. Дасылаю табе Маці-Латвію і паведамляю, што пераклала твае яблыні і што яны ўвойдуць і ў зборнік, і ў анталогію. Хай прыйдзе да цябе добрая вясна, таксама да твае дачушкі і да ўсіх тваіх блізкіх.

Тая ж Мірдза. 27.4.60».

«Дарагі Пімен!

Бачыш — старая Мірдза звалілася. Слухала па радыё, лежачы ў пасцелі, усе Вашыя прамовы і выступленні. Было гэтак добра чуць беларускую мову. Думаю, што да канца дэкады я выйду з вязніцы, але мне забараняецца хваляваццa. Нос падвёў! Мой велічны нос пачаў крывавіць — як Ніягара. Але ўсё гэта на карысць. Выступай, паездзі па Латвіі, заляцайся да нашых паэтэс — я думаю, што мы ўбачымся. Прывітанне ўсім і многа поспеху!

Мірдза».

«Ліепая, 1.8.60.

Дарагі Пімен!

Выйшла твая кніжачка — Веян абяцаў даслаць яе табе. Віншую! Пераклады добрыя. І Мірдза старалася. У газеце «Цыня» быў змешчаны твой верш «Чатыры магілы» пад назвай «Вечная слава», таксама ў перакладзе старой Мірдзы. (Калі прыедзеш, збяром усе пераклады і аддадзім табе.)

[redacted] пачынаю плаціць свой доўг беларусам. Напісала «Магілы каля дарог», прысвечаны палеглым беларускім партызанам, салдатам і ахвярам фашызму, невялікі верш «Беларусы дораць хлеб латышскім пісьменнікам», і нарэшце мне ўдалося стварыць баладу «Напалеон у Віцебску», сюжэт якой мне расказалі, калі я разам з табой і Максімам гулялі ў Віцебску па беразе Дзвіны каля палаца губернатара. Здаецца, атрымалася такая — у стылі Пушкіна. Я сама задаволена ёю. Баладу і вершы пра хлеб друкуе «Карогс» у верасні, разам з іншымі вершамі іншых паэтаў, прысвечанымі Беларусі. Сардэчныя вершы напісалі: Баладзіс — ён называе ў іх і тваё імя, Еранім Стулпан, Андрыс Веян. Я зрабіла парадкоўнікі сваіх вершаў і дасылаю іх табе: перадай тым, каму трэба — мабыць, да дэкады зможаце перакласці сёе-тое. Хай бачаць, што Мірдзу нездарма кармілі хлебам! Я пішу яшчэ пра Беларусь. Баладу пра Напалеона трэба было б паслаць у Віцебск, калі яна ўдасца. Гэта я абяцала.

Неўзабаве мы ўбачымся. Але я не такая бадзёрая, як летась. Нават ляжала з дэкампенсацыяй сэрца, з ціскам 240. Не змагу гэтак фліртаваць, як бы хацелася.

Напішы мне коратка пра сябе, дарагі Пімен. Прывітанне Максіму, яго вершы таксама паўсюль чытаюцца ў нас у латышскім перакладзе. Як тваё здароўе, што дачка?

Ну, да пабачэння! Паведамі і пра лёс парадкоўнікаў. Скажу, каб паслалі і іншыя Вам — анёлы Беларусі.

Мірдза».

«Рыга, 1.I.62.

Дарагі Пімен,
гэтыя нікчэмныя кветкі не могуць выказаць маіх у вечным цвеце пачуццяў да цябе і Беларусі. Жадаю здароўя і шчасця тваёй сям'і, асабліва дачушцы. Добра, што недзе б'ецца тваё чуйнае сэрца.

Мірдза».

Рыга, 4.I.66.

«Любы Пімен,
кідай свае песні, як насенне ў душу народную. Няхай зелянее ў гэтым годзе твой пасеў яшчэ харашэй, хай квітнее тваё здароўе і не пакідае цябе шчасце.

Старая латышская Мірдза».

* * *

З Оярам Вацыецісам мяне ў 1959 годзе таксама пазнаёміла Мірдза Кемпе — мой добры незабыўны друг: «Гэта — самы таленавіты з маладых».

Чарнявы, прыгожы, хуткавокі і нейкі загадкавы. То весела і дасціпна жартуе; то задумаецца, нахмурыцца і адляціць некуды ў далёкія краіны, куды іншым уваход забаронены. То здзекліва, рэзка і востра высмейвае ўсё на свеце: для яго не былі законам прапісныя ісціны і афіцыйна зацверджаныя аўтарытэты.

І ўсё ж я адчуваю, што ён у нечым глыбока расчараваны, незадаволены сабой і светапарадкам, заўсёды ў нейкай трывозе. У яго былі свае рахункі з небам і зямлёй, сонцам і морам, з бэзам і чаромхай. І асабліва — з людзьмі. У яго паэзіі часта гучала мужная,

але журботная нота: «Перад аперацыяй», «Лісты з бальніцы», «Рэквіем». Не менш выразна гучаў і іншы матыў: «Не патрабуй ад рэк пакоры».

Не ведаю, чаму, на якой аснове мы даволі хутка сышліся. Ён схаваў сваю ігольчатую насмешлівасць, падабрэў, загучалі спавядальныя ноткі. Я сэрцам адчуваў, што па нейкай прычыне ён быў вельмі адзінокі.

Ён падарыў мне сваю кнігу «Мерыдыян праз сэрца» з такім надпісам: «Дарагому Пімену — гэты мерыдыян праходзіць пакуль што не праз памянёнае месца, а праз іншае, але я пастараюся. Ваш Ояр.

Рэзекнэ, 7 верасня 60 г.».

Няпраўду напісаў Ояр. Яго мерыдыян праходзіў іменна праз сэрца, мужнае і чулае, якое прагнула любові, праўды і справядлівасці.

Вацыеціс заўсёды пісаў, як і думаў: ярка і вобразна, нечакана, а часам і парадаксальна.

Вось верш «Перад аперацыяй». Ад імя ветэрана вайны (і як ён дакладна перадаў адчуванне воіна, некалі параненага ў баі) ён звяртаецца да ўрача: «Незаконна. Нахабна. У грудзях маіх сядзіць асколак... Я нашу яго з той задымленай груды развалін, што раней называлася — Варшава. І з таго дня на два-тры грамы хлусяць усе вагі, на якіх я ўзважваўся. Асаблівых скаргаў няма. Асколак вёў сябе даволі прыстойна, толькі два разы напомніў пра сябе, так што дух захапіла. Першы — калі, вярнуўшыся з перамогай дамоў, я забыў, калі цалаваўся, колькі мне год. Другі — калі ляцела з машыны бервяно і я думаў, што я ўтрымаю яго. Таварыш урач! Пасля аперацыі я прашу вярнуць мне гэты асколак. Ён жыў па суседстве з сэрцам, сценка была танчэйшая за папяросную паперу, і ён усё падслухаў. А самае галоўнае — нельга адпускаць на свабоду асколкі, якія пабывалі ў грудзях чалавека і ведаюць туды дарогу».

Верш шэкспіраўскай сілы!

А вось цалкам верш «Бабулі ў цягніку». Я даю ў перакладзе на рускую мову (Л. Азаравай), бо перакладчыца добра ведае латышскую мову, а я — не.

В волосах ее не тает иней,
По щекам — морщинок водопад.
Толстые клубки в ее корзине,
Словно сказки спутанные, спят.
Спят клубки пушистые. И каждый
Мягкий и тяжелый, как медведь.
Мне бы так собрать по нитке пряжу
На дорогах жизненных суметь.
Чтоб в тепле укрытой снегом хаты,
Под журчанье сказочных затей,
Лапами катали их котята
И цвели глазенки у детей.

Гэта само жыццё і добры свет паэта.

У сваіх невялікіх аўтабіяграфічных нататках ён развівае сваё разуменне ролі паэта. Ён піша, што паэту трэба так сказаць, «каб чалавек мог зразумець, з кім ён, за што ён». І яшчэ: «Кепска, калі паэт гаворыць, калі з такім жа поспехам здолеў бы прамаўчаць. Думаю, што добрае, вялікае нараджаецца толькі тады, калі маўчаць немагчыма».

Наша збліжэнне з Оярам пачалося ў дні Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва. Яно разгарэлася ў 1960 годзе, калі я паслаў Вацыецісу поўны захаплення ліст пра яго кнігу «Мерыдыян праз сэрца». Ён прыслаў і 3 сакавіка і 30 снежня 1960 года кароткія паштоўкі — са здымкамі развалін замка ў Кокнесе і зубра з Белавежскай пушчы: «...А з выпадку Жаночага дня — букет жывых кветак...» Дарагі Пімен! Я дару Вам гэтага звера. Ён не звычайны. Ён перакладзены на латышску мову. Яго ўжо па радыё прачыталі. Так што запрашайце яго да беларускіх зуброў, якія жывуць за межамі Беларускай ССР. З сяброўскім прывітаннем і шчырай сімпатыяй Ояр Вацыеціс».

А вось два лісты Ояра ад 30.III.60 і 4.V.60 г.

«Дарагі Пімен,

Вашае пісьмо прывяло мяне ў доўгачасовае захапленне. І зразумейце, дарагі Пімен, што не з-за кампліментаў (калі ўжо зусім даверліва, дык з-за іх толькі ледзь-ледзь). Кранула тое, што я Вас паважаю, дужа сімпатызую Вам, у Вас нейкая д'ябальская, што горне да сябе, нейкая рыса незразумела прыцягальная. Мы яшчэ з Мірдзай Янаўнай (нягледзячы на тое, што яна жанчына!) будзем біцца з-за Вас, калі прыедзеце ў Латвію. І вось — напісалі якраз Вы.

Я вельмі даражу апошняй часткай пісьма: «Пішыце, пакуль добра пішацца. Наперадзе будзе ўсялякае...» Я гэта выдатна разумею, дарагі Пімен. Я пакуль яшчэ цэлы, унутраных супярэчнасцей мала, і яны другарадныя. І не буду ж я шчаслівчыкам, якому гэтае самае жыццё не дае ніводнага ўдару ў спіну, так што іскры з вачэй сыплюцца, так што вершы нараджаюцца пакутліва, нараджаюцца стузаныя, нервовыя — адным словам, калекі. А такіх на свет божы пускаць нельга, тысячы сумленных людзей ні ў чым не вінаватыя, і на такія вершы паэт сам павінен пабудаваць у сваім пісьмовым стале альбо ў скрынцы пад смецце дом інвалідаў. Дый не толькі гэта наперадзе, ды мне пакуль здаецца, што якраз гэта самае небяспечнае. Гэта як быццам нічога, а адначасова як быццам абяззбройванне.

Дарагі Пімен, а якая вясна ідзе, чорт вазьмі. Дні тры ў нас моцна раставала, сёння — вясновая завея. У нас гэтую завею называюць «жаўруковай завеяй». Добра, праўда? Гэта — завея, якую ўжо бачаць і ў якой ужо мерзнуць жаўрукі.

Моцна цісну Вашую руку. Чакаю Вас у Рызе ці ў іншым геаграфічным пункце, дзе лёс можа нас звесці.

З сяброўскім прывітаннем

Ояр Вацыеціс».

«Рыга, 4.V.60 г.

Дарагі Пімен!

Два тыдні глядзеў, як зямля даганяе Амерыку ў сэнсе росту і цвіцення. Майскіх святаў не святкаваў (самому цяжка паверыць, а факт). Адклаў святкаванне да дэкады, і адсвяткуем разам, добра?

А «Беларусь»! Ведаеце, што за такія рэчы пад суд аддаюць? Такую каманду трымалі пад спудам! І не сорамна, Пімен? Вы таксама саўдзельнік гэтага злачыннага зацісканця талентаў. Напісалі б Федзіну — так і так, у нас найталенавітая каманда, а не выдаюць. Можа, у «Советском писателе» таварышы здагадаліся б, га?

Адно добра, што «Даўгава» не ў той падгрупе — адным паражэннем меней. Нашую каманду пакуль можна іменаваць: «Маладзец проці авец».

А чэмпіён свету жыве ў горадзе Рызе! Я гэта казаў ужо месяц таму назад, нават каментатару з «Литгазеты», яго ж нататку адаслаў назад з ветлівым пажаданнем, каб ён надзеў на сябе намордпік, а то людзі баяцца «Литературку» чытаць.

З гэтага часу, Пімен, я сібірак! Ува мне варочаюцца электраліній, дзяўчаты, блакітныя землі, таварышы, мядзведзі і да таго падобнае. Буду касмапалітам, і канцы ў ваду.

Што робіць Ваш Пегас? Як на яго ўплывае віно і апошнія раздзелы Твардоўскага? Колькі га паэтычнай цаліны яму ўзараць сёлетняй вясной?

Пацалаваў «салодкае яечка» ў лоб, а не думаю, які артыкул кодэкса за гэта прышыюць да мяне ахоўнікі маралі і этыкі, перастрахоўшчыкі і наш сакратарыят! Болей чым пяць не дадуць, га?

Вялікае прывітанне Вашым дарагім!

Ваш

Ояр».

Праз некалькі гадоў я напісаў Вацыецісу, не памятаю з якой нагоды, ліст і атрымаў горкі адказ: «Вы яшчэ мяне памятаеце?»

Жыў побач з намі, у Рызе, паэт з геніяльнымі задаткамі. Жыве ў нашай памяці і нашых сэрцах вялікі паэт Латвіі — Ояр Вацыецiс.

* * *

Я пабываў у многіх гарадах Еўропы, Амерыкі, Азіі, Афрыкі. Я наведаў у розныя часы дзесяткі гарадоў нашай неабсяжнай Айчыны.

Я вельмі люблю свой Мінск, дзе я пражыў больш за сорак гадоў. Я люблю гарады, якія звязаны з маім жыццём і працай, з добрымі і часам цяжкімі ўспамінамі. Люблю даўно і аддана Барысаў, Бабруйск, Полацк, Віцебск.

Люблю непаўторныя велічныя Ленінград, Кіеў.

Люблю Вільнюс, у якога так многа звязана з беларускай гісторыяй, культурай, літаратурай.

Люблю родны майскі сярэдневяковы і сучасны рабочы, рыбацкі, музычны Талін, у якім я нарадзіўся і з'яўляюся пэўным чынам карэнным прыбалтам.

Асобае месца займае чароўная Рыга. Люблю яе ледзь не больш, чым усе гарады. Там мяне адарылі добрым сяброўствам. Я вазіў туды спачатку дачку і сына, а пасля і ўнукаў.

Дзвіна і Даўгава — адна рака, якая нясе свае воды ад старажытнага Полацка, ад нашай высокай белай Сафіі на захад, у burштынавую Балтыку.

На гэтай рацэ, у Віцебску, камісарыў легендарны латыш Ян Фабрыцыус.

У Наддзвінскіх лясах разам партызанілі і латышы, і рускія, і беларусы.

Я быў на адкрыцці кургана Дружбы на тым кавалку зямлі, дзе сходзяцца ўмоўныя граніцы Беларусі,

Расіі і Латвіі. Там партызанскі Герой Беларусі Лабанок абдымаўся з партызанскім Героем Латвіі Самсонам. Там гучалі песні і танцы трох народаў. Там гарэлі ўсю ноч высокія партызанскія кастры. Мы смажылі на доўгіх вярцёлах кілбасу, якую прывезлі з сабой мае латышскія сябры. Я тады напісаў верш «Ля кургана Дружбы». Справа не ўва мне і не ў вершы.

Вякамі гарыць агонь нашага братэрства, нашай падобнай гісторыі і культуры. Гараць агні вызваленчых залпаў Айчыннай вайны і партызанскія нязгасныя кастры. А Дзвіна-Даўгава падперазала сінім поясам еднасці нашу і вашу цудоўную зялёную зямлю.

# ЗМЕСТ

## ВЕРШЫ

ЭСЭ

**Панчанка П.**

П 16 Высокі бераг: Вершы, эсэ.— Мн.: Маст. літ., 1993.— 239 с.

ISBN 5-340-01427-4.

Не для аднаго пакалення чытачоў імя народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі гучыць хрэстаматыйна. У кнізе «Высокі бераг» вершы апошніх гадоў і эсэ.

У вершах, па-ранейшаму панчанкаўскіх,— і горкі смутак, і востры пагляд на нашае жыццё; у эсэ — глыбокі роздум над праблемамі літаратуры, цікавыя штрыхі да партрэтаў шмат якіх дзеячаў беларускае і суседніх літаратур.

Кніга «Высокі бераг» для тых, каму дарагія беларускае слова, беларускае адраджэнне, беларуская душа.

4702120202— 137
П ———————— БЗ 80—93
М 302(03)—93

ББК 84Бел7

Літаратурна-мастацкае выданне

*ПАНЧАНКА*
*Пімен Емяльянавіч*

*ВЫСОКІ БЕРАГ*
Вершы, эсэ

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак В. В. Мікіта. Мастацкі рэдактар А. І. Цароў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар І. М. Паланейчык.

ІБ № 4181

Здадзена ў набор 26.02.93. Падп. да друку 20.10.93. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 9,75. Ум. фарб.-адб. 9,91. Ул.-выд. арк. 9,08. Тыраж 7 300 экз. Зак. 117

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.